БЕЛАРУСКАЕ ДОБРААХВОТНАЕ ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ
ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ

М. А. ТКАЧОЎ

# ЗАМКІ БЕЛАРУСІ

(XIII—XVII ст.)

МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА „ПОЛЫМЯ“
1977

# АД АЎТАРА

На працягу многіх стагоддзяў беларускія муляры-дойліды ўзводзілі са звыклых для іх будаўнічых матэрыялаў — палявога каменю і цэглы — магутныя замкі.

Архітэктурна-мастацкае аблічча такіх збудаванняў у кожным выпадку канкрэтна-індывідуальнае. Кожны з помнікаў мае сваю гісторыю, сваю ўласную будаўнічую біяграфію. Але збліжае іх, радніць адно: увасабленне гераізму і мужнасці народа, яго самабытнага таленту і каласальнай працы, укладзеных у справу абароны кроўных інтарэсаў роднай зямлі.

Помнікі, аб якіх расказваецца ў гэтай кнізе, з'яўляюцца неацэннымі дакументамі нашай гісторыі, нашай нацыянальнай спадчынай, валодаць якой не толькі пачэснае права, але і вялікая адказнасць. Зберагчы іх, захаваць для нашчадкаў — абавязак кожнага чалавека, усёй грамадскасці.

Кніга адрасуецца шырокаму колу краязнаўцаў, настаўнікам, вучням, студэнтам, асобам, што адказваюць за ахову помнікаў, а таксама ўсім, каго хвалюе і цікавіць мінулае Беларусі.

Публікацыя матэрыялаў аб выдатных помніках ваеннага дойлідства XIII—XVII ст. не толькі дасць чытачам неабходны мінімум звестак. Яна мае на мэце таксама пэўны аспект эстэтычнага і патрыятычнага выхавання маладога пакалення, камуністычны светапогляд якога павінен быць навукова шырокім і поўным і фарміравацца на слаўных баявых і працоўных традыцыях свайго народа, на трывалым грунце ўсёй яго шматвяковай гісторыі і культуры.

# УСТУП

Абарончыя збудаванні — неад'емная частка беларускай культуры, сведка яе нялёгкай, складанай і багатай гісторыі. Сцены заімшэлых замкаў, пасечаныя войнамі і часам, сталі старонкамі летапісу сівых вякоў, па берагі перапоўненых гераічнай барацьбой беларускага народа за сваё шчасце і незалежнасць.

За многія стагоддзі сваёй гісторыі беларусы спазналі нямала. Лёс іх зямлі вырашаўся не толькі ў Грунвальдскай бітве з крыжакамі ў 1410 г. або з татарамі пад Клецкам у 1506 г. У тыя далёкія часы ваенныя падзеі звычайна адбываліся пад сценамі ўмацаваных гарадоў і замкаў. Менавіта яны прымалі на сябе галоўны цяжар варожых нашэсцяў і часцей за ўсё вырашалі лёс вайны ці паходу.

«Краінай замкаў» называлі сучаснікі нашу зямлю. І гэта сапраўды так. Амаль праз кожныя 30—40 км тут стаяў замак — пункт абароны вялікай ваколіцы. Магутныя сцены замкаў не раз чулі сігналы-поклічы ваенных труб, свіст стрэл і грукат гармат. Сярод мора вайны, якое раз-пораз затапляла краіну, замкі ўзвышаліся непрыступнымі астравамі, дзе збіраліся сілы змагання і каваліся будучыя перамогі.

Цяпер старажытныя ваенна-абарончыя збудаванні не маюць ужо практычнага значэння. Тым не менш іх каштоўнасць для нас велізарная. Створаныя руплівай, мазольнай працай нашага народа, яны не толькі адлюстроўваюць яго гістарычнае мінулае, патрыятызм і гераічную барацьбу ў абарону роднай зямлі. Адначасова яны з'яўляюцца яскравым сведчаннем таленту і высокай культуры беларусаў далёкага мінулага, бо, гаворачы словамі выдатнага савецкага даследчыка старажытнай архітэктуры М. М. Вароніна, «...стан фартыфікацыі ў вядомай ступені адлюстроўвае культурнае развіццё народа ў тую ці іншую гістарычную эпоху».

Знаёмства з гэтымі помнікамі пераконвае, што на Беларусі развіццё ваеннага дойлідства ішло ўпоравень з часам, а сіла і характар абарончых умацаванняў цалкам адпавядалі тагачаснай ваеннай адукацыі народаў, якім яны былі процідастаўлены.



# I. ВЕЖЫ-ДАНЖОНЫ НА БЕЛАРУСІ

Вытокі беларускага ваеннага дойлідства, як і архітэктуры ўвогуле, губляюцца ў глыбі стагоддзяў. Яго карані заглыбіліся ажно ў перыяд разлажэння першабытна-абшчыннага ладу, калі на землях сённяшняй Беларусі на паселішчах эпохі ранняга жалезнага веку з'явіліся першыя абарончыя збудаванні.

Ад простых драўляных парканаў да магутных сцен і вежаў гарадоў — такі шлях прайшла сістэма ваенна-абарончых збудаванняў, пакуль у другой палове XIII ст. не з'явіліся на Беларусі першыя мураваныя вежы. Прычыны іх узвядзення трэба шукаць у развіцці ваенна-інжынернага мастацтва ўсходніх славян, у замене тактыкі пасіўнай аблогі актыўным штурмам з дапамогай новай ваеннай тэхнікі — каменямётных машынпарокаў.

Значны паварот у тактыцы аблогі прывёў да істотных змен у наладжванні абароны і ў пабудове саміх умацаванняў. Асновай абароны горада ці замка стала высокая шмат'ярусная мураваная вежа, узвядзенне якой спалучалася з далейшым удасканаленнем прыродных абарончых рубяжоў. Вежа мала паддавалася ўдарам каменямётаў і была практычна недаступная для асаднай тэхнікі таго часу. Разам з тым, высока ўзнімаючыся над паселішчам, яна дазваляла абаронцам весці прыцэльную стральбу з лукаў і самастрэлаў па ворагу і яго каменямётах.

На Беларусі ў некаторых мураваных вежах меліся памяшканні, прыстасаваныя нават для жылля абаронцаў. У гэтым яны ў пэўнай ступені аналагічныя вежам-данжонам *, шырока распаўсюджаным у XII—XIII ст. у краінах Скандынавіі, Цэнтральнай і Заходняй Еўропы і Прыбалтыкі.

## КАМЯНЕЦКАЯ ВЕЖА

Унікальным помнікам абарончага дойлідства другой паловы XIII ст. з'яўляецца вежа-данжон, якая захавалася да нашага часу ў г. п. Камянец Брэсцкай вобласці. Гэта адзіная ацалелая да нашага часу пабудова з групы так званых вежаў валынскага тыпу, што некалі існавалі ў многіх беларускіх гарадах.

Камянецкая вежа (Камянецкі стоўп) стаіць на высокім пясчаным пагорку на левым беразе р. Лясной.

Гісторыя вежы цесна звязана з горадам Камянцом, што ўзнік як пагранічны апорны пункт князя Уладзіміра Васількавіча супраць літоўскага князя Трайдэна, з якім не раз даводзілася ваяваць. У 1276 г., пасля чарговага замірэння з Трайдэнам, Уладзімір Васількавіч вырашыў залажыць на р. Лясной «град». З гэтай прычыны сюды быў пасланы вядомы «градаруб» Алекса, які яшчэ пры бацьку Уладзіміра Васількавіча шмат гарадоў «зрубіў». А праз нейкі час у новым горадзе пры ўдзеле тутэйшых жыхароў узвялі «столп камен высотою 17 саженей. Подобен удивлению всем зрящим на нь».

Дакладная дата збудавання гэтага помніка старажытнай архітэктуры невядомая. Мяркуючы па звестках Іпацьеўскага летапісу, вежу вымуравалі недзе паміж 1276 і 1288 гг.

Таўшчыня сцен гэтага 30-метровага «стаўпа» дасягае 2,5 м, вонкавы дыяметр — 13,5 м. Стаіць вежа на магутным падмурку з булыгі, перасыпаным чыстым дробным пяском. Вышыня падмурку — каля 2,3 м, а яго вонкавы дыяметр — каля 16 м.



Старажытны Камянец. Рэканструкцыя па матэрыялах аўтара. Малюнак Я. Куліка.

Вежа складзена з брусчатай цэглы цёмна-чырвонага і жаўтаватага колераў, з надзвычай добрай перавяззю швоў.

Велічная манументальная вежа ўверсе крыху




Камянецкая вежа. Сітуацыйны план

вузейшая і не мае ні вертыкальных, ні гарызантальных чляненняў. Ствол яе выкладзены з лёгкім нахілам да вертыкальнай восі.

Сцены вежы прарэзаны байніцамі. У першым ярусе іх — дзве, у другім і трэцім — па тры, а

* Тлумачэнне тэрмінаў гл. у слоўніку на стар. 82.

ў чацвёртым — дзве байніцы і адзін вялікі спічасты праём ,які некалі выводзіў на балкон, пабудаваны на кансольных бэльках.

Байніцы чатырох ніжніх паверхаў вузкія, шчылінападобныя, шырэйшыя з унутранага боку.




Камянецкая вежа. Разрэз

Большасць байніц мае плоскае перакрыцце, а амбразуры завяршаюцца паўцыркульнымі аркамі.

У пятым ярусе прарэзаны чатыры байніцы. Форма амбразур спічастая, але арка акругленая і мае нязначную стралу пад'ёму. Амбразуры пятага яруса ў адрозненне ад усіх астатніх пашыраюцца не толькі ўсярэдзіну, але і вонкі.

Паміж гэтымі байніцамі з надворнага боку размешчаны 4 плоскія нішы з паўцыркульным завяршэннем. Фотаздымкі Камянецкай вежы канца XIX — пачатку XX ст., на якіх гэтыя нішы бачны са слядамі старажытнага пабеленага тынку, сведчаць, што нішы спачатку тынкавалі, а потым бялілі. Гэта надавала строгаму і велічнаму збудаванню рысы сціплай прыгажосці. Над пятым ярусам вежы захаваліся рэшткі цаглянага купальнага скляпення, якое існавала яшчэ ў сярэдзіне XIX ст.

З трэцяга яруса пачынаецца цагляная лесвіца, якая ідзе ў тоўшчы сцяны і асвятляецца двума вузкімі акенцамі. Лесвіца выводзіць на самы верх вежы, на баявы праход, прыкрыты 14 зубцамі. Кожны зубец мае скразную адтуліну, формаю і велічынёй роўную «тычку» або «лажку» цагліны. Адтуліны хутчэй за ўсё служылі абаронцам вежы ў якасці назіральных шчылін падчас інтэнсіўнага варожага абстрэлу.

Камянецкая вежа, як і большасць іншых ваенных пабудоў той пары, мае выцягнутыя ўверх формы, лаканічныя і простыя. Разам з тым яна не пазбаўлена дэкору. Гэта дасягнута лёгкімі штрышкамі раннеготычных архітэктурных форм: спічастымі праёмамі і вокнамі з трохлопасным завяршэннем, архівольтам * аркі дзвярнога праёму ў чацвёртым ярусе, нервюрнымі * скляпеннямі на «гірках» *. Яны тонка прарысоўваюцца на магутным целе збудавання разам з паўцыркульнымі аркамі плоскіх ніш і байніц, характэрных для раманскай * архітэктуры.

Завяршэнне вежы — зубчастая стужка старажытнаславянскага парэбрыка з чатырох радоў цаглін, пакладзеных на вугал,— пераклікаецца з арнаментальнымі матывамі народнага мастацтва і як бы падкрэслівае першапачатковасць мясцовых будаўнічых традыцый і вытокі іх адметнасці, з якіх пачаўся паступовы пераход ад раманскага стылю да готыкі *.

Камянецкая вежа спазнала нямала выпрабаванняў. Не раз, пачынаючы з 1373 г., на горад нападалі рыцары-крыжакі. У 1375 г., напрыклад, атрад крыжакоў, на чале якіх стаяў комтур з Бальгі Тэадорых фон Эльснер, абрабаваў ваколіцы Камянца і забраў шмат палонных і свойскай жывёлы. Праз тры гады, у 1378 г., рыцарам удалося штурмам узяць горад і спаліць. У 1384 г. яны зноў напалі на Камянец.

У 1382 г. Камянец захапіў польскі князь Януш Мазавецкі. Толькі праз год, пасля тыднёвай аблогі, горад вярнуў назад князь Ягайла. У час доўгай звады паміж Ягайлам і Вітаўтам, у 1390 г., Ягайлу зноў давялося браць Камянец штурмам. Аднак горад быў важным стратэгічным пунктам, які да таго ж стаяў на скрыжаванні гандлёвых дарог. Таму яго ўмацаванні хутка адбудоўвалі і трымалі ў належным парадку. Дамінантай гарадской абароны была вежа. Яна знаходзілася ў сярэдзіне кальцавога вала, на вяршыні якога стаялі драўляныя ўмацаванні. Гэта адзначаў у па-



Выгляд Камянецкай вежы ў канцы XIX ст. Архіўны здымак

чатку XVI ст. у сваіх дарожных нататках вядомы падарожнік і дыпламат С. Герберштэйн: «Камянец — горад з мураванай вежай у драўляным замку».

Пад час вайны паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай горад і яго ўмацаванні так пацярпелі, што Сейм быў вымушаны ў 1661 г. вызваліць Камянец ад падаткаў на 4 гады. Аднак у 1771 г. горад зноў складаўся з «места» і замка. Прынамсі, яшчэ ў пачатку XIX ст. вакол Камянецкай вежы існавалі рэшткі старажытнага драўлянага замка, які з трох бакоў быў абведзены равамі, а з чацвёртага бараніўся рэчкаю. З боку р. Лясной, відаць, і быў размешчаны уваход у Камянецкі замак. Характэрны для ўваходу разрыў паміж валамі добра відзён на малюнку акварэллю невядомага мастака сярэдзіны XIX ст., калі старажытныя валы яшчэ існавалі. Зніклі яны ў 1903 г., калі, згодна з праектам акадэміка В. В. Суслава, праводзіліся рэстаўрацыйныя работы. Бясследна знік і абарончы роў.

У 1903 г. над першым і другім ярусамі вежы разабралі познія скляпенні. Хоць кіраўнік рэстаўрацыйных работ акадэмік В. В. Суслаў і не пакінуў ніякіх заўваг, думаецца, вызначыць прыблізны час іх узвядзення можна. Як сведчыць дакумент агляду Камянецкай вежы ў 1827 г., у ёй не было ніякіх скляпенняў; толькі адзначалася, што ўсярэдзіне верхняя «падлога разбурылася».

Як бачым, тут гаворка ідзе пра верхнія драўляныя перакрыцці і ні словам не ўпамінаюцца мураваныя скляпенні. Аднак краязнаўца Н. П. Авенарыус, які ў маі 1889 г. наведаў вежу, паведамляў ужо, што над першым ярусам існавала добра захаванае скляпенне. Акрамя таго, тады ж яшчэ існавала і частка скляпенняў другога яруса. Такім чынам, як нам здаецца, ёсць усе падставы лічыць, што перакрыцці першага і другога ярусаў Камянецкай вежы былі зроблены ў прамежку паміж 1827 і 1889 гг. Потым, магчыма, пасля абвалу цаглянага купала над пятым ярусам, які мог пашкодзіць скляпенне другога яруса, вежа стаяла пустая аж да пачатку рэстаўрацыйных работ (1903 г.). Цэгла (10 тыс. штук), патрэбная на рэстаўрацыю пашкоджаных участкаў сцен і зубцоў, была заказана селяніну Матыкальскай воласці Сямёну Дранюку. А каб правесці земляныя і цагляныя работы, сюды запрасілі з г. Гродна вопытнага майстра Адама Арцішэўскага. Тады ж ад вежы адкінулі трохметровы пласт зямлі і насыпалі вакол кольцападобны вал, абліцаваўшы яго каменнем. У вале для дрэнажу зрабілі тры схаваныя мураваныя каналы.



Камянецкая вежа ў сярэдзіне XIX ст. Малюнак Н. Орды



Камянецкая вежа на акварэлі невядомага мастака сярэдзіны XIX ст.

Археалагічнае даследаванне фундамента дазволіла зрабіць дакладны прамер вышыні вежы ад зубцоў да пачатку фундамента. Яна аказалася роўнай 30,15 м (±5 см). Гэта амаль дакладна адпавядае летапісным звесткам аб вышыні Камянецкага стаўпа — 17 сажняў, калі лічыць сажні махавымі (177 см.).

Што датычыць назвы «Белая вежа», якая трывала замацавалася за Камянецкай вежай, дык трэба прызнаць, што назва гэтая вельмі позняя. Яна ўзнікла ў XIX ст., калі вежай як помнікам «старажытнага іісціннага рускага праваслаўя» зацікавіліся царскія ўлады і сам цар, які ездзіў у Белавежскую пушчу на паляванне. У 1903 г. выйшла кніга П. Карцава «Белавежская пушча», дзе зусім памылкова пісалася, што Камянецкая вежа стаіць не на р. Лясной, а на р. Белай. Ад яе, нібыта, і атрымала сваю назву вежа, а пазней, быццам, і бліжэйшая пушча пачала называцца Белавежскай. Адпаведна другой версіі, прыдуманай мясцовым свяшчэннікам Л. Паеўскім, вежу назвалі Белай таму, што яе ў старажытнасці бялілі. На самай жа справе ўпершыню яе пабялілі зусім нядаўна, у пачатку 50-х гадоў нашага стагоддзя.

Цяпер Камянецкая вежа ператворана ў філіял Брэсцкага краязнаўчага музея і стала месцам турысцкіх экскурсій.

З розных крыніц вядома таксама, што абарончыя вежы, падобныя Камянецкай, меліся ў Брэ-

сце, Тураве, Полацку, Гродна і Навагрудку [1].

Берасцейскі стоўп, паводле Іпацьеўскага летапісу, быў «высотою яко Каменецкий». Цяпер устаноўлена, што Берасцейская вежа знаходзілася на паўднёва-ўсходнім краі мыса старажытнага гарадзішча, размешчанага на правым беразе р. Буг пры ўпадзенні ў яе Мухаўца. На ўсіх планах горада за 1798, 1800, 1803 і 1830 гг. яна пазначана. У пачатку 30-х гг. XIX ст., у час перабудовы замка і ўзвядзення бастыёнаў Брэсцкай крэпасці, вежу разабралі. Аднак яе графічныя сляды на планах дазваляюць меркаваць, што вежа была не круглая, а чатырохвугольная, памерам каля 5,9×6,3 м, таўшчынёю да 1,3 м. Зыходзячы з гэтага, можна лічыць, што вежа старажытнага Бярэсця больш паходзіла на такую ж вежу ў Стоўп'і, што на Валыні, чым на Камянецкую. Але форма яе, выцягнутая і тонкая, відаць дазволіла летапісцу параўнаць Берасцейскую вежу з Камянецкай.




Бярэсце. Выкапіроўка з плана 1800 г.: *1* — замчышча; *2* — вежа



Полацкія замкі. Паводле акварэлі С. Пахалавіцкага «Аблога Полацка Стэфанам Баторыем ў 1579 г.»

Пра вежу старажытнага Турава вядома толькі, што яна ў 30-х гадах XIX ст. была таксама разбурана. Цяпер на Тураўскім гарадзішчы ад яе засталося адно амаль круглае ўзвышша дыяметрам каля 11 м.

Дзве абарончыя вежы — адна на Верхнім, другая — на Сярэднім замку — меліся ў найстаражытным горадзе Беларусі — Полацку. Час іх узвядзення невядомы, аднак архаічныя рысы планава-кампазіцыйнага характару — размяшчэнне ў цэнтры замка, незвязанасць са сценамі — дазваляюць меркаваць, што ўзведзены яны былі не пазней XIV ст. Ва ўсякім разе, полацкія вежы існавалі яшчэ ў канцы 70-х гадоў XVI ст.

Пра адну з іх, хутчэй за ўсё, пра вежу Верхняга замка, у 1579 г. Р. Гейдэнштэйн пісаў: «Вораг таксама не драмаў і з высокіх вежаў, асабліва з той, якая знаходзілася пасярэдзіне замка і ўзвышалася над усімі іншымі, моцна паліў з гармат ва ўсе бакі». Абедзве вежы добра відны на акварэльным малюнку С. Пахалавіцкага «Аблога Полацка Стэфанам Баторыем у 1579 г.».

Інвентар Полацка 1580 г., між тым, пры пералічэнні ўмацаванняў Верхняга замка ніводную з вежаў, якія згадвае Р. Гейдэнштэйн, не называе. Гэта дае падставу меркаваць, што яны былі пабудаваны з дрэва і, верагодна, згарэлі ў час аблогі 1579 г. Традыцыя ўзводзіць адзіночныя вежы пасярод замкавага дзядзінца шырока існавала на Беларусі на працягу XVI і нават у XVII ст. і была цікавай перыфразай тутэйшай ваеннай архітэктуры больш ранніх часоў. Прынамсі, яны даволі часта ўзводзіліся не толькі ў вялікіх замках «вольных» гарадоў, як, напрыклад, у Полацку, але і ў невялікіх прыватнаўласніцкіх і каралеўскіх замках. У XVI—XVII ст. яны вельмі часта спалучалі і выконвалі разам з чыста абарончымі функцыямі функцыі гаспадарчыя.

Як сведчыць «Попіс замку» Радашковіцкага за 1549 г., на панадворку яго ў абкружэнні драўляных горадняў і чатырох вежаў асобна стаяла яшчэ адна, пятая, вежа. Яна мела чатыры паверхі і ўзвышалася над усімі вежамі.

У Шклове, у 1661 г., акрамя гарадскіх фартыфікацыйных збудаванняў існавалі драўляныя ўмацаванні замка графаў Сяняўскіх. Тут сярод дзядзінца таксама стаяла высокая, сечаная з бруса шмат'ярусная вежа, з якой у час аблог вёўся абстрэл подступаў да замка.

Такім чынам, у другой палове XIII—XVII ст. у Беларусі былі шырока распаўсюджаны замкі з адзіночнымі вежамі-данжонамі. Іх узнікненне звязана як з уплывам заходнееўрапейскага ваеннага дойлідства, так і з далейшым развіццём ваеннаінжынернага мастацтва славянскіх народаў.

---

[1] Аб вежах у Гродна і Навагрудку больш падрабязна гл. ніжэй.

Трынаццатае стагоддзе было парою ўздыму і развіцця ўсіх усходнееўрапейскіх народаў, а таксама часам вялікіх падзей і змен у іх лёсе. У той неспакойны і бурны век на землі Усходняй Еўропы абрушыліся полчышчы татара-мангольскіх заваёўнікаў. У Прыбалтыку пранікаюць нямецкія крыжакі, якія пашыраюць сваю агрэсію супраць мясцовых народаў, супраць насельніцтва паўночна-заходняй Русі і беларускіх зямель на Падзвінні і Панямонні.

Трагічны лёс Герцыкскага і Кукенойскага княстваў — фарпостаў Полаччыны ў нізоўях Заходняй Дзвіны, якія першымі прынялі ўдар Нямецкага ордэна, трагедыя суседніх усходніх і паўднёва-ўсходніх раз'яднаных рускіх княстваў ставілі на парадак дня пытанне пра саюз феадальна-раздробненых зямель Беларусі і Украіны з Літвою. Гэта была аб'ектыўная неабходнасць, якая адпавядала жыццёва важным і надзённым інтарэсам гэтых народаў. Ф. Энгельс адзначаў, што ў тых умовах беларускія і ўкраінскія землі «знайшлі сабе абарону ад азіяцкай навалы, далучыўшыся да так званай Дзяржавы Літоўскай» (К. Маркс, Ф. Энгельс. Соч., изд. 2, т. 22, стр. 18—19).

Аб'яднанне гэтых зямель з літоўскімі землямі паклала пачатак утварэнню Вялікага княства Літоўскага — дзяржавы, у складзе якой закончылася фарміраванне беларускай народнасці.

Больш як 100 год вялі барацьбу за незалежнасць народы Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны.

Велічныя сведкі гэтай славутай барацьбы — шматлікія замкі на тэрыторыі Беларусі і Літвы, якія паўсталі ў той цяжкі для іх час на асноўных напрамках крыжацкай агрэсіі. Замкі ў Гродна, Навагрудку, Лідзе, Крэве, Медніках, Вільні і Троках мелі агульнадзяржаўнае значэнне. І хоць узводзіліся яны ў першую чаргу мясцовым феадальназалежным насельніцтвам, відавочна, што на такія грандыёзныя будоўлі вялікакняская ўлада рэкрутавала будаўнікоў і з іншых зямель дзяржавы. Нездарма да нашых дзён дажыла на Палессі прымаўка: «Каб цябе закаталі ў Вільню горы капаць!», а на ўсёй Беларусі і нават у Заходняй Украіне і цяпер яшчэ кажуць: «Каб ты на Крэўскі замак каменне цягаў!».

## НАВАГРУДСКІ ЗАМАК

Мураваны замак у Навагрудку — унікальны помнік абарончага дойлідства сваёй эпохі.

Гісторыя яго ўмацаванняў прайшла шлях ад простай агароджы-вастракола да наймагутнага шматвежавага замка. Навагрудак — помнік складаны. У яго ўваходзяць дзве пляцоўкі: дзядзінец (Замкавая гара) з рэшткамі мураванага замка і вакольны горад (Малы замак). Устаноўлена, што з пачатку XI ст. і да сярэдзіны XIII ст. на валах старажытнага Навагародка не менш як пяць разоў узнаўлялі драўляныя сцены. У другой палове XIII ст. на змену вастраколу




Навагрудак. Выкапіроўка з плана 1810 г.: *1* — Замкавая гара; *2* — Малы замак; *3* — млын; *4* — гродскі суд; *5* — Барысаглебскі храм; *6* — Ніжні вал; *7* — Фарны касцёл; *8* — гара Міндоўга




План Навагрудскага замка. Паводле Р. Гюртлера і аўтара: *1* — забудова XIII—XIV ст.; *2* — забудова XV—XVI ст.

прыйшлі моцныя дубовыя зрубы-горадні з падвойнай пярэдняй сценкай. Акурат тады і была пабудавана ў замку першая мураваная вежа.

У 1970 г. пад час абследавання цэнтральнай вежы мураванага замка Шчытоўкі было высветлена, што вежа гэтая мела папярэдніцу — яшчэ больш старажытную вежу. Магутнае цела яе, схаванае на 7,5 м у зямлі, стала для Шчытоўкі надзейным і трывалым падмуркам.

Старажытная вежа існавала ў другой палове XIII ст. Яна, відаць, была з таго ж, што і Камянецкая, тыпу валынскіх вежаў. Аднак у адрозненне ад Камянецкай вежы Навагрудская збудавана з вялікіх часаных камянёў, пакладзеных на вапне. Вежа мела чатырохвугольную, блізкую да квадрата форму ў плане 12×12 м і фундамент вышынёй 3,5 м. Камяні, з якіх складзены падмурак, маюць памеры да 1 м і больш

і слаба апрацаваны. Прамежкі паміж імі замазаны вапнай.

Падмурак мае 30-сантыметровы цокаль. Вышэй ідзе кладка сцяны, што ацалела на вышыню да 4 м. Сцяна змуравана з каменняў сярэдніх памераў, добра апрацаваных і падагнаных адно да аднаго. Прасветы паміж імі запоўнены дробным колатым каменем кавалкамі буйнапамернай цэглы-«пальчаткі» і замазаны вапнай.

Гэта вежа была цалкам складзена з каменя, за выключэннем байніц, абліцаваных цэглай.

Вызначаючы месца вежы ў сістэме ўмацаванняў Навагрудскага замка, можна заўважыць, што яна стаяла з паўночнага боку ля старажытнага ўваходу і замыкала кальцо землянога вала XIII ст., крыху выступаючы ўперад. Старажытную Навагрудскую вежу XIII ст., відаць, пабудавалі або ў 60-х гг.— у часы праўлення князя Міндоўга, або крыху пазней — у пачатку 70-х гг. Прычым будаўнікамі маглі быць як валынскія ці нямецкія майстры (у 50—60 гг. XIII ст. Міндоўг меў цесныя сувязі з Валынню і з Нямецкім ордэнам, дзе такія вежы ўжо існавалі), так і мясцовыя мураліі. Тым больш што мураваныя будынкі для Навагрудка не былі навіной. У XII ст. тут ужо стаяла Барысаглебская царква. Кваліфікаваныя будаўнікі ў Навагрудку, бясспрэчна, былі. Існавалі тут і даўнія будаўнічыя традыцыі. А той факт, што старажытную вежу ўзвялі з палявога каменю — матэрыялу, звыклага для мясцовых дойлідаў, толькі пераконвае ў правільнасці нашай думкі. Моц і непрыступнасць Навагрудскага замка ў канцы XIII і ў XIV ст. паслужылі прычынай таго, што ворагам ні разу не ўдалося яго захапіць. Так, Іпацьеўскі летапіс, паведамляючы пра штурм Навагрудка пад 1274 г. валынскімі і татарскімі войскамі, адзначае, што замак захапіць не ўдалося. У 1314 г. атрад крыжакоў на чале з магістрам Генрыхам фон Плоцке таксама аблажыў горад. Аднак жыхары зачыніліся ў сваім замку, мужна бараніліся і прымусілі чужынцаў адступіць. Гэтак сама закончыліся напады крыжакоў у 1391 г., калі іх прывёў сам магістр ордэна Конрад Валенрод, і ў 1394 г. Думаецца, пэўную ролю ў гэтым адыграла і мураваная вежа, на долю якой выпалі нялёгкія выпрабаванні. Яе верхнія ярусы былі моцна пашкоджаны. Усё гэта і прымусіла навагрудцаў дзесьці ў канцы XIV ст. нанава адбудаваць вежу, але ўжо не з каменю, а з цэглы.

Новую магутную вежу ўзвялі на руінах старажытнай, якая фактычна паслужыла ёй падмуркам. Яна таксама мела форму квадрата з крыху меншымі за ранейшыя бакамі: 11,4×11,4 м. Новая вежа была пяціпавярховая, з перакрыццямі на бэльках, ад якіх ацалелі адтуліны памерам 35×35 см. Агульная яе вышыня была каля 25 м. Дах крылі спачатку гонтай, а потым, відаць, з XV ст. гонтападобнай чарапіцай-дахоўкай.

Вежу пабудавалі ў традыцыйнай тэхніцы «лусковай» мuroўкі і зрабілі ў ёй праезджую браму. Гэта было характэрна для еўрапейскага абарончага дойлідства, дзе з XIV ст. у вежах-данжонах таксама рабіліся брамы.

Формаю вежа нагадвала чатырохгранную прызму, якая пакрысе звужалася і рабілася танчэйшаю: таўшчыня сцен на ўзроўні першага паверха была 2,75 м, а на ўзроўні другога — 2,60 м. Сцены праразалі байніцы спічастых абрысаў, а ўнізе — праёмы замкавай брамы. Мяркуючы па ўсім, брама наглуха зачынялася з сярэдзіны дубовымі брусамі. У тоўшчы паўднёвай сцяны Шчытоўкі пачынаўся і ішоў наверх ход. Мураваныя прыступкі пачыналіся ў паўднёва-заходнім куце вежы і выводзілі на кожны яе паверх. У небяспечны час гэтым ходам карысталіся абаронцы. Не выключана, што ўнутры вежы, паміж паверхамі, існавалі і драўляныя лесвіцы для штодзённага карыстання.

На ўсходняй сцяне на ўзроўні чацвёртага паверха захаваліся сляды невялікага эркера *, дзе, напэўна, вісеў набатны звон. З яго дапамогаю склікалі насельніцтва горада ў выпадку небяспекі. Вежа вядома ў гістарычнай літаратуры пад назвай Шчытовая, Шчытоўка і Цэнтральная.



Вежа Шчытоўка. Архіўны здымак пачатку XX ст.

Спачатку Шчытоўка была адзіным мураваным умацаваннем замка. Яна стаяла ў кальцы драўляных сцен, што абкружалі замак па ўсім перыметры гары.

Аднак, неўзабаве ў Навагрудскім замку распачаліся вялікія будаўнічыя работы, звязаныя хут-

чэй за ўсё з агульнай падрыхтоўкай насельніцтва Беларусі, Літвы і Польшчы да рашучага адпору і разгрому рыцараў Тэўтонскага ордэна.

Цяпер ужо ўстаноўлена, што працэс узвядзення замкавых муроў у Навагрудку падзяляўся на некалькі этапаў. Спачатку з паўночнага ўсходу і з усходу ўзвялі толькі тры мураваныя вежы і збудавалі сцены паміж імі. Прычым участак абароны паміж Шчытоўкай і паўночна-заходнім кутам абарончага вала доўгі час меў драўляныя ўмацаванні.

Справа, на ўсход ад Шчытоўкі, па-над высокім стромкім схілам гары паўстала высокая прызмападобная Касцельная вежа. Яе аснаванне — квадрат з бакамі 9×9 м. Меншая сваімі памерамі за Шчытоўку, вежа была трохпавярховая, з перакрыццямі на драўляных бэльках. На кожным ярусе — чатыры байніцы, формай, памерамі і абрысамі падобныя да байніц Шчытоўкі. Вежа мела надзейны падмурак вышынёй у 3 м, складзены з вялікіх камянёў грубай апрацоўкі. Асабліва вялікімі памерамі (да 1,0—1,15 м) вызначаюцца кутнія камяні.

На вышыню 4 м Касцельная вежа вымуравана з каменю. Далей ішла абліцоўка з буйнапамернай цэглы. Сцены Касцельнай вежы, як і сцены Шчытоўкі, паступова рабіліся танчэйшымі ўверсе, але значна ёй саступалі ў таўшчыні — 2,15 м. Прасла сцяны, што злучае гэтыя вежы, мае ў даўжыню 30 м, а таўшчыня яе — 2 м.

Ад Касцельнай вежы па ўсходняй строме гары ішло 80-метровае прасла муравана сцяны, якое вяло да другой уваходнай вежы — Малой брамы. З-за надта стромкага схілу сцяну падперлі кантрфорсамі — «быкамі», прыбудаванымі да яе пазней. Сцяна мела тут таўшчыню 2,5 м. Канструкцыйна яна звязвалася з Малой брамай.



Адкапанае прасла сцяны паміж Шчытоўкай і Касцельнай вежамі. Здымак 1929 г.



Выгляд замчышча з усходу. Здымак пачатку XX ст.



Касцельная вежа. Архіўны здымак

Руіны гэтай вежы адкрылі польскія даследчыкі ў час археалагічных работ 1924—1925 гг. У плане яна мела форму прамавугольніка з бакамі 8×10 м пры таўшчыні сцен 2 м.

Уваход замыкалі дзверы на дубовых засаўках, што трымаліся ў тоўшчы сцен у спецыяльных адтулінах. Брамныя праёмы мелі шырыню 1,6 м і вышыню каля 3 м. У вежу заходзілі па цагляных прыступках.

Злева ад Малой брамы, калі глядзець з боку замкавага двара, у прасле сцяны захавалася адтуліна ад кансольнай бэлькі. На такіх бэльках даўней ляжаў памост баявой галерэі, на якую з зямлі вялі драўляныя ўсходкі. З памоста праз невялікі праём шырынёй у 94 см можна было трапіць у сярэдзіну вежы.

Мяркуючы па памерах, Малая брама таксама была трохпавярховай, з перакрыццямі па бэльках. Пра яе знешні выгляд што-небудзь канкрэтнае сказаць цяжка, аднак думаецца, што яна нічым не адрознівалася ад Касцельнай вежы.

У канцы 20-х гадоў, пасля таго, як рэшткі ве-

жы поўнасцю адкапалі, былі праведзены папярэднія кансервацыйныя работы.

Ад Малой брамы, паварочваючы на захад, ідзе самае моцнае ў замку 70-метровае прасла сцяны, якое мела тут таўшчыню 2,6 м. Гэтая сцяна канструкцыйна звязана з яшчэ адной вежай — Пасадскай, якая першай прымала ўдары заваёўнікаў. Гэта добра разумелі дойліды Навагрудскага замка. Пры таўшчыні сцен у 2,6 м вежа мела ў аснаванні форму квадрата з памерамі 7,7×7,7 м. У вежу вёў праход шырынёй 1,5 м. Падобная Малой браме, Пасадская вежа таксама была знішчана ўшчэнт, таму пра яе знешні выгляд мы нічога сказаць не можам. Вядома, што злева ад вежы ў тоўшчы сцяны быў спецыяльны праём — байніца, разлічаная, мусіць, на тое, каб весці дадатковы агонь з гармат. Шырыня байніцы 1,0 м, вышыня — 1,3 м.

Правае прасла сцяны, якое ідзе ад Пасадскай вежы да паўночнага краю гары, змыкалася з драўлянымі ўмацаваннямі на самым паўночна-заходнім краі замкавага вала. Гэты адзіны ацалелы ўчастак драўляных умацаванняў існаваў тут, як сведчаць археалагічныя дадзеныя, аж да канца XV ст. Чым растлумачыць гэта? Перш за ўсё тактычна выгадным размяшчэннем участка абароны замка. Справа, з усходу, гэты 50-метровы адрэзак землянога вала, вышынёю да 5 м, бараніўся Шчытоўкай. Вежа паспяхова фланкіравала яго любым відам зброі. З поўначы ўчастак бараніўся ніжнім валам, перадзамкавым ровам і схілам гары, якая тут, дарэчы, мае найбольшую вышыню — звыш 27 м, адхон каля 60° і цягнецца аж на 50 м. Калі ж да гэтага дадаць моц драўляных сцен-горадняў, вышыня якіх была не менш як 3 м, дык прычына такой прыхільнасці да традыцыйных драўляных умацаванняў стане зразумелай. Нарэшце, акрамя ўсяго названага трэба ўлічваць і эканамічны фактар. Мураванае будаўніцтва было ўсё ж вельмі дарагое. З гэтае прычыны там, дзе дазвалялі абставіны, драўляныя абарончыя збудаванні суіснавалі побач з мураванымі.



Кансервацыя Малой брамы. Здымак 1929 г.

На жаль, да нашага часу абарончыя сцены Навагрудскага замка на поўную вышыню не захаваліся. Толькі на фотаздымку 1900 г. адзін фрагмент сцяны левага прасла Шчытоўкі відзён да вышыні прыблізна другога паверху, г. зн. каля 8 м. На нашу думку, вышэйшай сцяна і не была. Вонкавая паверхня ніжняй зоны сцен замка, мяркуючы па ацалелых фрагментах і рэштках вежаў, была ўзведзена ў тэхніцы «паласатай» * муроўкі.

У верхніх зонах сцен, падобна як у Лідскім і Крэўскім замках, абліцоўка была цагляная. Цэглаю, несумненна, і завяршалі сцены, у якіх меліся байніцы, прыстасаваныя для стральбы з тагачаснай зброі — лукаў, арбалетаў, а пазней — і з лёгкай вогнестрэльнай зброі. Цэглай былі аздоблены і арачныя перамычкі, і байнічныя праёмы.

Узвядзеннем сцен і вежаў закончыўся першы будаўнічы этап на Навагрудскім замку.

Адзначым таксама, што ў XIV ст. на замкавым двары існавала яшчэ адно мураванае збудаванне — аднаапсідны храм.

Храм узвялі ў пачатку XIV ст. Ён быў квадратным у плане (13,5×13,5), меў з усходу круглявую апсіду * і невялікі бабінец *. Спачатку храм быў бясстоўпным, меў скляпенне на нервюрах, але потым, відаць у тым жа XIV ст., пабудавалі чатыры падкупальных слупы крыжовай формы. Царкву павялічылі ва ўсходнім кірунку, прычым круглявую апсіду замянілі прамавугольнай. Сцены, у якіх меліся каналы драўляных сувязей, былі ўзведзены з брусковай цэглы і дасягалі таўшчыні 1,2 м. Каменны падмурак меў глыбіню 2 м.

Пазней царкву павялічылі ў заходнім напрамку да памераў 34×13,5 м. Яе цалкам перабудавалі ў барочным * стылі, шчодра ўпрыгожыўшы сцены карнізамі, цягамі *і нішамі. Па цэнтру заходняй сцяны, якая мела крывалінейную канфігурацыю, узвялі высокую стройную вежу.

Да 1775 г. у храме адбываліся сесіі Трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда Вялікага княства Літоўскага.

У гісторыі архітэктуры Беларусі царква пачатку XIV ст. займае асаблівае месца, паколькі больш такіх пабудоў не знойдзена.

Другі этап будаўніцтва ўмацаванняў Навагрудскага замка, які не выходзіць за рубеж XIV ст., звязаны з пабудовай ля падэшвы замкавай гары Калодзежнай вежы. Праблема водазабеспячэння заўсёды стаяла перад будаўнікамі сярэдневяковых гарадоў і замкаў. Прычынамі капітуляцыі абложаных гарадоў пісьмовыя крыніцы неаднаразова называлі голад і смагу.

У Навагрудскім замку, размешчаным на высокай гары, калодзежа не было, але на яе ўсходнім схіле білі моцныя крыніцы. Над адной з іх паставілі Калодзежную вежу.

Калодзежная вежа ў плане мае форму квадрата 8×8 м. Ад самага цокаля вежа абліцавана буйнапамернай брусковай цэглай. Таўшчыня цагляных «шчок» дасягае 35 см. Забутоўка сцен — з камення і вапнавага раствору. Цэгла сваімі памерамі (30—27,5)×12×9 см адрозніваецца ад

цэглы Шчытоўкі. Аднак муроўка ў вежах аднолькавая — «балтыйская»: чаргаванне ў ёй двух лажкоў і аднаго тычка цаглін.



Навагрудак у канцы XVIII ст. Акварэль І. Пешкі

Падмурак Калодзежнай вежы вышынёй каля 2,5 м, складзены з грубаабчасаных камянёў на вапне.

Вежа злучаецца з замкам праслам сцяны. Таўшчыня сцяны — 2 м, даўжыня — 21 м. У сярэдзіне сцяны быў патаемны праход да вады. Шырыня праходу — 1,06 м, прыступкі — каменныя шырынёй 30 см і са спускам на 15 см. Вышыню гэтага, несумненна, скляпеністага праходу вызначыць нельга, бо сцяна дарэшты разбурана.

Другі будаўнічы этап быў, напэўна, закончаны да 1410 г.

Наступны этап умацавання Навагрудскага замка прыпадае, як паказваюць даследаванні, на канец XV — пачатак XVI ст. Звязаны ён, хутчэй за ўсё, з нападам у пачатку XVI ст. загонаў перакопскіх татар на беларускія землі. У 1505 г., напрыклад, Навагрудскі замак вытрымаў аблогі татарскіх войск на чале з султанам Біці-Гірэем. Абаронай замка кіравалі ваявода В. Гаштольд і гараднічы Маскевіч. Напад паўтарыўся ў 1506 г., калі татары дасягнулі раёна Ліды. Неспакойна было і на ўсходніх землях Беларусі, дзе ў канцы XV — пачатку XVI ст. раз-пораз успыхвалі ваенныя дзеянні паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай.

Гэта паклала пачатак новаму этапу будаўніцтва замкаў на землях Вялікага княства Літоўскага.

У Навагрудскім замку, у паўночна-заходняй яго частцы, паўстала тады магутная мураваная вежа Дазорца. Канструкцыйна гэтая вежа, якая мела ў аснаванні квадрат 14×14 м, не звязана з правым праслам, адыходзячым ад Пасадскай вежы — гэта самастойнае збудаванне больш позняга часу. У адрозненне ад іншых вежаў замка, падмурак Дазорцы меў 4-метровую вышыню і ганкападобную форму. Сам падмурак узведзены з каменю і цэглы на вапнавым растворы ў традыцыйнай тэхніцы «паласатай» муроўкі: чаргаванне радоў каменю і цэглы.

Выгляд вежы можна рэканструяваць па гравюры А. Аляшчынскага, зробленай з натуры ў першай трэці XIX ст. На ёй мы бачым вежу з квадратным аснаваннем, якая паступова пераходзіць у васьмярык. У ніжняй частцы добра відны байніцы падэшвеннага бою, разлічаныя на стральбу з гармат. З выгляду Дазорца вельмі падобная на нарожныя вежы Мірскага замка, узведзенага ў пачатку XVI ст. У іх таксама назіраецца пераход ад чацверыка да васьмерыка. Мяркуючы па значных памерах падмурка, новая вежа Навагрудскага замка была даволі высокая — да 20 м.



Замак на гравюры А. Аляшчынскага. Пачатак XIX ст.



Навагрудскае замчышча. Малюнак Н. Орды. Сярэдзіна XIX ст.

Адначасова з Дазорцай было змуравана і прасла сцяны паміж ёю і Цэнтральнай вежай, якое замкнула такім чынам кальцо замкавых сцен. Прасла мела ў даўжыню 51 м, таўшчыня — 2 м.

Сцяне папярэднічалі драўляныя горадні, якія згарэлі ў канцы XV — пачатку XVI ст. у час адной з аблог замка.

Хуткае развіццё артылерыі ў XV ст. і ўдасканаленне тактыкі аблогі зрабілі Малую браму не зусім надзейнай.

Калодзежная вежа фланкіравала падыход да брамы, але ў новых умовах гэтага ўжо было недастаткова. Між тым, брама па-ранейшаму заставалася найбольш важным і адказным участкам абароны замка. Гэта прымусіла ў пачатку XVI ст. распачаць будаўніцтва яшчэ адной вежы ля паўднёва-ўсходняга схілу гары, якая бараніла б з боку «места» подступы да ўваходу



Навагрудскія вежы. Гравюра невядомага мастака XIX ст.

ў замак. Злучыўшыся праслам і сцен з Калодзежнай вежай і Малой брамай, новая, Меская вежа, такім чынам, стала цэнтрам своеасаблівага мураванага бастыёна. Дадатковыя ўмацаванні намнога павысілі фартыфікацыйныя якасці Навагрудскага замка. Новая вежа акрамя ўсяго выконвала і ролю першай брамы. Толькі прайшоўшы праз яе, можна было трапіць на тэрыторыю форбурга, пад аховай якога цяпер знаходзілася пешаходная дарога ў замак.

Сёмая вежа, пра якую зрэдку ўпаміналі гістарычныя крыніцы, была знойдзена ў 1970 г. пад адной з пабудоў ля падножжа гары. Вызначыць сапраўдныя памеры яе з прычыны цеснай забудовы тэрыторыі цяпер пакуль што немагчыма.

Меская вежа звязана праслам муранай сцяны з Калодзежнай. Другое прасла — да Малой



Руіны Навагрудскага замка. З акварэлі невядомага мастака сярэдзіны XIX ст.



Замак у Навагрудку. Рэканструкцыя па матэрыялах аўтара. Малюнак Я. Куліка

брамы — дэталёва не вывучана. Вызначаны толькі яго агульны напрамак.

Такім чынам, у XVI ст. Навагрудскі замак меў 7 вежаў і быў адным з наймагутных на Беларусі. Аднак яго характарыстыка была б няпоўнай, калі б мы не ўлічылі вал і роў з паўночнага і паўночна-заходняга бакоў замка. Паміж валам, што агінаў Вялікі і Малы замкі, і замкам быў выкапаны роў шырынёй каля 30 м і глыбінёю да 4 м. Паводле сведчання некаторых гісторыкаў, у час небяспекі яго запаўнялі вадою, чым стваралі дадатковыя перашкоды для ворага.

Унутраны схіл вала абкладзены слоем гліны, якая дапамагала затрымліваць ваду. Яе, відаць, збіралі доўгі час з дапамогай плаціны, якую можна было ўзвесці паміж ніжнім валам і пагоркам, дзе цяпер стаіць фарны касцёл. Іпацьеўскі летапіс захаваў цікавы факт, які ўскосна нібыта пацвярджае існаванне рова з вадою ў абароне Навагрудскага замка. Апісваючы паход галіцка-валынскіх і татарскіх войск на Навагрудак у канцы зімы 1274 г., летапіс гаворыць, што войска саюзнікаў спынілася, не дайшоўшы да горада. Велізарныя клубы пары, што ўзнімаліся з-пад Замкавай гары, навялі праціўніка на думку, што гэта конніца навагрудцаў. Аднак неўзабаве татарскія разведчыкі высветлілі, што гэта была не конніца, а пара ад моцнай плыні вады, што сцякае з гор.

У перыяд руска-польскай вайны 1654—1663 гг. рускія войскі на чале з князем Трубяцкім узялі Навагрудак. Замак пасля працяглай аблогі быў разбураны, а горад — зруйнаваны. У 1661 г. Сейм Рэчы Паспалітай нават вызваліў горад ад падаткаў на 4 гады.



Руіны млына-ветрака, узведзенага ў XVII ст. на рэштках баявой вежы Малога замка. Малюнак Я. Куліка

У час той аблогі асабліва пацярпелі паўднёвы і заходні бакі замка. Вежы Меская, Калодзежная, Малая брама і Пасадская, а таксама праслы сцен былі разбураны да падмуркаў. Лепш захаваліся Шчытоўка, Касцельная і Дазорца. Аднак Навагрудскі замак страціў сваё стратэгічнае значэнне і паступова пачаў ператварацца ў руіны.

Неабходна таксама сказаць пра ўмацаванні Малога замка. На заходнім краі яго пляцоўкі, там, дзе ўзвышаецца мураваны стары вятрак, калісьці стаяла магутная баявая вежа. Прамавугольная ў плане (12,3×10,9 м) яна была пабудавана ў канцы XIII — першай палове XIV ст. з палявога каменю і цэглы. Таўшчыня яе сцен дасягала 2,6 м. Паводле тэхнікі будавання вежа блізкая да вежаў Навагрудскага замка XIV ст.— Шчытоўкі і Касцельнай. Узведзеная па-над стромай гары, вежа грозна ўзвышалася над старажытным уездам на Малы замак. Баявая вежа, што стаяла абкружаная драўляна-землянымі ўмацаваннямі, разам з горадам і замкам зведала ўсе ліхалецці крыжацкай навалы XIV ст. На рубяжы XV і XVI ст. яе разбурылі і перабудавалі. Да ўсіх чатырох сцен падмурка зрабілі прыкладкі таўшчынёю ў метр і вымуравалі новую 8-гранную вежу з цэглы. Вежа прастаяла да сярэдзіны XVII ст., калі яе зноў разбурылі, а будаўнічы матэрыял скарысталі, узводзячы сцены мураванага млына-ветрака. На планах канца XVIII ст. замест вежы ўжо значыцца вятрак.

У царскай Расіі не клапаціліся пра ахову старажытных помнікаў ваеннага дойлідства. У якасці доказу прывядзём цікавы факт, які датычыцца Навагрудскага замка. У 1802 г. гродзенскі губернатар Бенігсон даў дазвол навагрудскаму гараднічаму Скалону разабраць рэшткі замкавых вежаў з умовай, што каменнем забрукуюць вуліцы Навагрудка. Відаць, работа ішла марудна, бо ў 1828 г. у данясенні Літоўска-Гродзенскаму губернскаму праўленню паведамлялася, што ў Навагрудскім старажытным замку яшчэ ёсць «...две башни довольно... крепкие, немного вверху поврежденные, состоящие в ведомстве Новогрудской экономии».

У канцы XIX ст. на тэрыторыю замчышча праз праломы ў мурах пачалі звозіць з усяго Навагрудка смецце, якое пакрыла больш як 2-метровым пластам руіны старажытных збудаванняў.

Час і людзі рабілі сваю справу. У 1906 г. абвалілася Касцельная вежа. Дзякуючы намаганням мясцовага аматара старажытнасцей Т. Корзана, рэшткі вежы падпёрлі двума аскарпамі *. У гады першай сусветнай вайны абрушылася паўднёвая сцяна Шчытоўкі.

У 1921 г. Навагрудскі замак узялі пад ахову, а ў 1922—1930 гг. правялі частковую кансервацыю рэштак вежаў. Прычым сцены Касцельнай вежы былі фактычна складзены нанава.

З 1956 г. Навагрудак і яго старажытнасці сталі аб'ектам пільнай увагі археолагаў, якія, будзем спадзявацца, прачытаюць яшчэ шмат невядомых старонак яго гісторыі.

# ГРОДЗЕНСКІ ЗАМАК

Над імклівай плынню славутага Нёмана, ля сутокі з шумнацечнай рачулкай Гараднічанкай, паўстаў больш як 800 гадоў таму назад горад. Назвалі яго Гародняй. У XII ст., хутчэй за ўсё — у яго трэцяй чвэрці, горад ужо меў магутныя ўмацаванні, у лінію якіх уваходзілі вежы — самыя старадаўнія мураваныя абарончыя збудаванні Беларусі. Іх сцены, узведзеныя з цэглы і палявога каменю, мелі таўшчыню ад 1,04 да 1,40 м і падмурак 10×10 м. Перакрыцці, напэўна, былі з бэлек і накатаў з люкамі і лесвіцамі, каб падымацца наверх. У XIII і XIV ст. вежы яшчэ існавалі. Аднак у канцы XIV ст., пад час генеральнай рэканструкцыі замка, іх разабралі, а матэрыял скарысталі, каб узвесці новыя абарончыя збудаванні.

У XIII ст. акрамя мураваных вежаў XII ст. у Гродзенскім замку ўзвялі яшчэ адну вежу. Іпацьеўскі летапіс, расказваючы пра аблогу замка ў 1277 г., паведамляе: «Столб бе бо камен высок стоя пред вороты города. И бяху в нём запёрлися Прузи и не бысть имь мимо нь поити к городу, побивахуть бо со столпа того». Вежу добра відаць на гравюры Гродна XVI ст.

На жаль, пазней, у XVI ст., пад час чарговай перабудовы ўмацаванняў, вежу разабралі, і таму нічога нельга сказаць пра яе архітэктурна-будаўнічыя асаблівасці.

Вежы абкружаў земляны вал з дубовымі сценамі-гараднямі наверсе. Знешні схіл вала і яго тыльны бок былі забрукаваны каменем, які не даваў апаўзаць насыпу з пяску і жвіру.

На працягу другой паловы XIV і ў пачатку XV ст. сцены Гродзенскага замка неаднойчы вытрымлівалі штурмы. У пачатку 1393 г. вялікае рыцарскае войска з іншаземным папаўненнем аблажыла Гродна, пасля трохдзённага штурму авалодала замкам, спаліла яго і захапіла шмат палонных.

Пасля раптоўнага пажару 1398 г., калі аднаўлены замак згарэў дашчэнту, тут зноў распачаліся вялікія будаўнічыя работы. Сцены новага мураванага замка, узведзеныя па перыметры Замкавай гары, утварылі няправільны ў плане трохкутнік. Сцяна, звернутая да Нёмана, мела 120 м даўжыні; сцяна з боку Гараднічанкі — 90 м; трэцяе прасла сцяны, узведзенай з боку горада, складалася з дзвюх частак — 46 м і 24 м. Таўшчыня сцен дасягала 2,5—3 м. Высокія і стромкія схілы гары вышынёю да 30 м над узроўнем вады ў Нёмане яшчэ больш узмацнялі фартыфікацыйныя якасці замка.

У замку было пяць вежаў. Першая — уязная вежа-брама, пад якой размяшчалася вязніца, мела пад'ёмны мост. Вежу аддзяляў ад горада 50-метровы сухі роў. Другая вежа стаяла на поўдзень ад першай, трэцяя — на заходнім баку гары, на мысе па-над Гараднічанкай, чацвёртая — у паўночна-ўсходнім нарожніку з боку горада, пятая — у заломе муроў з усходняга боку, блізка ад уязной вежы. Паміж чацвёртай і пятай вежамі знаходзіўся палац. Княскі палац меў невялікія памеры (45×15 м), быў двухпавярховым. Паверхі ў пакоях размяшчаліся ў адзін рад. Палац як бы зліваўся ў адно цэлае з усёй сістэмай умацаванняў.

Са старажытных часоў самастойную лінію абароны меў і гандлёва-рамесны пасад Гродна, які размяшчаўся на суседняй пляцоўцы берагавога ўзвышша Нёмана. У канцы XIV — пачатку XV ст. ст. яго драўляныя ўмацаванні былі заменены мураванымі і выконвалі ролю дадатковага заслона, якім замак прыкрываўся ў часы небяспекі. Пятая вежа была круглая, астатнія — квадратныя (12×12 м). Ключом да зямель беларускага Панямоння называлі Гродзенскі замак сучаснікі. І авалодаць ім для крыжакоў было вялікай спакусай. Пачынаючы з 1284 г., калі магістр тэўтонцаў Конрад Тырнберг са сваім войскам упершыню асадзіў Гродзенскі замак, паходы крыжакоў адбываліся ў 1296, 1306, 1311, 1312, 1328, 1361, 1363, 1373, 1376, 1393 гг. Пяць разоў, у 1284, 1306, 1311, 1328 і 1393 гг., ворагу ўдавалася захапіць замак.




План Гродзенскага замка XIV ст.



Узор муроўкі сцяны Гродзенскага замка

Аднак авалодаць Панямоннем крыжакі так і не здолелі. Кожны раз над спаленымі сценамі замка паўставалі новыя, больш магутныя збудаванні.

Паступова Гродзенскі замак разбураўся. Так,



Гродзенскі замак на гравюры 1568 года. М. Цюндта

вежу-браму і стоўп XIII ст. разабралі ў 1580 г. у час пабудовы палаца Стэфана Баторыя. Вежа, што стаяла на мысе, у інвентары 1578 г. не ўпамінаецца зусім, аднак у інвентары 1653 г. згадваецца як «старая знесеная вежа».




Гродзенскі замак у XV—XVI ст. Рэканструкцыя Т. Андрыячака



Палац Стэфана Баторыя ў Гродзенскім замку, каля 1580 г. Фрагмент гравюры

Новы двухпавярховы рэнесансавы палац Стэфана Баторыя, пабудаваны па праекту італьянскага архітэктара Скота, у плане нагадваў выцягнуты ў даўжыню і крыху перакошаны прамавугольнік, памерамі 21×60 м, падзелены на некалькі пакояў і залаў. Сіметрыя ў разбіўцы памяшкання адсутнічала. На першым паверсе знаходзіліся вартоўня, кладовыя, канцылярыя, скарбоўня і архіў. Другі паверх палаца займалі каралеўскія пакоі, багата аздобленыя шліфаваным гіпсам, каменнай рэззю і кафляю, з тонкімі ліштвамі на вокнах, з падлогамі, выкладзенымі керамічнымі і мармуровымі пліткамі. Разам з тым, палац меў і абарончае прызначэнне, што падкрэс-

лівалася тоўстымі вонкавымі сценамі і цеснай сувяззю яго планіроўкі з іншымі замкавымі пабудовамі.

Інвентары XVI—XVII ст.— адзіныя дакументы, якія даюць нам магчымасць уявіць, як выглядаў замак у тыя часы.



Палац Стэфана Баторыя. Рэканструкцыя Я. Вайцахоўскага

Яны дазваляюць увогуле скласці пэўнае ўяўленне пра многія дэталі яго абароны. Вельмі цікавы ў гэтым плане інвентар Гродзенскага каралеўскага замка за 1650 г. На падыходзе да мураванага замка існаваў драўляны, абнесены парканам, што ішоў па строме гары. Праз сухі абарончы роў, што падзяляў абодва замкі, ляжаў мост на пяці мураваных апорах. Перш чым трапіць на мост, неабходна было прайсці праз браму, збудаваную ў самым яго пачатку. Каменны мост абгароджвалі паабапал мураваныя парапеты з байніцамі ў іх, па 8 з кожнага боку. У дадатак, тых, хто страляў з гэтых байніц, відаць, ад стрэлаў ворага хавалі папярэчныя ахоўныя сценкі. Гэта дало падставу пісару, які рабіў інвентарызацыю, назваць тыя агнявыя пункты невялікімі вежамі.

Аднак мост быў мураваны не ўвесь. Апошні яго пралёт, перад самай вежай-брамай, быў драўляны, і відаць, падымаўся. Адсюль траплялі ў браму, вымураваную з часанага каменю. Абодва палотнішчы варот трымаліся на 12 завесах. Злева, пры ўваходзе ў браму, знаходзілася памяшканне, дзе размяшчаўся пад'ёмны калаўрот. Другі праём брамы зачыняўся палотнішчамі, абабітымі жалезам (у тэксце паведамляецца, што яны ўвогуле былі раней «жалезныя»). Па выхадзе з брамы, справа, у сцяне быў уваход, каб падымацца наверх, дзе, відаць, таксама меліся байніцы.

Гродзенскі замак тае пары ўжо страціў сваю былую моц і веліч. Побач з мураванымі сценамі, якія патроху абсыпаліся, стаялі і драўляныя парканы. Ніякай ролі не адыгрывалі вежы замка, якія ўжо ў сярэдзіне XVII ст., напэўна, не існавалі. Прынамсі, у 1657 г. рускія ваяводы, якія занялі горад, дакладвалі цару Аляксею Міхайлавічу, што ў Гродна «...городовые и острожные крепости погнили и обвалились, а каменная городовая стена обрушилась. И тайники и колодежы зарушились...». Таму давялося «те рухомые места... сделать и... острог поставить, где преж сего бывал... И четыре башни срубить до третьих боев и колодец выкопать и от Нёмана реки к колодезу вал завалить...». Адзін з патаемных выхадаў з замка быў знойдзены пад паўднёвым праслам сцяны. Ён меў выгляд прамавугольнага праёма і выводзіў на схіл гары.



Гродзенскі замак на сценным роспісе езуіцкага касцёла




Гродна. XVIII ст. Гравюра.

# ЛІДСКІ ЗАМАК

Лідскі замак — своеасаблівае ваенна-абарончае збудаванне XIV ст. Ён узнік у тыя трывожныя для Беларусі гады, калі націск крыжакоў на беларускія і літоўскія землі дасягнуў найбольшай сілы. Разам з літоўцамі і ўкраінцамі насельніцтва Беларусі мужна змагалася з чужынцамі. Асабліва вабілі захопнікаў урадлівыя землі Панямоння.

Каб закрыць рыцарам дарогу ў глыб зямель Вялікага княства Літоўскага, вялікі князь Гедымін у 1323 г. загадаў залажыць у Лідзе мураваны замак. Новы баявы фарпост прынёманскіх зямель будавалі каля пяці гадоў.

Процістаяць націску крыжакоў тады маглі толькі тыя абарончыя збудаванні, якія адпавядалі тактыцы аблогі войск, узброеных першакласнай на той час аблогавай тэхнікай. З XII па XIV ст. у Паўночнай Еўропе і Прыбалтыцы ўсталяваўся тып замкаў-кастэляў *. Іх аснова — высокія і магутныя сцены ў выглядзе чатырохкутніка, пад аховай якіх размяшчаўся і жыў гар-




План Лідскага замка

нізон. Асабліва многа кастэляў пабудавалі лівонскія рыцары на захопленых землях Прыбалтыкі. Невялікія сваімі памерамі, гэтыя кастэлі былі базамі захопнікаў, пунктамі збору даніны з заняволеных народаў, а часам і месцам кірмашоў тутэйшага насельніцтва.

Узяўшы за аснову тып рыцарскага кастэля, дойліды Лідскага замка творча падышлі да вырашэння складанай задачы: зыходзячы з мясцовых будаўнічых традыцый, яны стварылі магутнае збудаванне, прыдатнае для надзейнай абароны. За яго сценамі шукалі паратунку ад гвалту захопнікаў жыхары горада і бліжэйшага наваколля.

Будаўнікі ўдала скарысталі рэльеф мясцовасці, абраўшы балоцістую нізіну, там, дзе рачулка Каменка ўпадала ў Лідзею. На штучнай выспе, насыпанай з пяску і жвіру, і быў узведзены замак.

Сцены Лідскага замка ў плане нагадваюць трапецыю, большае асnaванне якой глядзіць на поўнач, туды, адкуль найчасцей пагражала ваенная небяспека. Перад паўночнай сцяной (даўжыня блізка 93,5 м) ляжаў глыбокі і шырокі роў, які, відаць, заліваўся вадою. Паўднёвую сцяну (даўжыня каля 80 м) прыкрывалі балоцістыя берагі Каменкі і Лідзеі. Даўжыня заходняй і ўсходняй сцен — адпаведна 84 і 83,5 м.

Два ўваходы праразалі тоўшчу ўсходняй сцяны непадалёку ад паўночна-ўсходняй вежы. Меншая брама пры шырыні праходу 2,5 м і вышыні 3 м мела спічастую арку, абліцаваную цэглай.



Руіны паўночна-ўсходняй вежы. Здымак канца XIX ст.

Другая (прыблізна 4,5 м шырыні і каля 6 м вышыні), моцна пашкоджаная ў час войнаў, цяпер замуравана. На падставе графічных малюнкаў XIX ст. можна меркаваць, што брама мела паўцыркульную арку.

Тое, што замак меў два ўваходы блізка адзін для аднаго, іх розныя памеры, наводзіць на думку, што прызначэнне ў іх было рознае. Меншая брама, пэўна, служыла як бы «чорным» ходам. Другая, бліжэйшая да вежы, адчынялася толькі дзеля ўрачыстай сустрэчы князя або яго гасцей.

У паўднёвай сцяне замка, на вышыні каля 2 м, захаваліся сляды паўцыркульнага праёма шырынёю ў 2,5 м і вышынёю каля 3,9 м. Гэты праём, як і аналагічны яму ў Крэўскім замку, знаходзіцца ў найбольш спакойным месцы, якое лепш за іншыя бараніла сама прырода. Таму і няма тут штучных умацаванняў. Можна меркаваць, што праём быў як бы запасным выхадам для гарнізона ў крытычныя моманты абароны.

Паўднёвая сцяна цікавая для нас яшчэ і тым, што тут захаваліся (праўда, часткова, у дэфар-



Ліда. Акварэль І. Пешкі. Канец XVIII ст.

маваным выглядзе) байніцы. Яны бяскамерныя і ў плане маюць форму трапецыі, звернутай шырокім аснаваннем да замкавага двара. Пры аднолькавай вышыні байніцы мелі розную шырыню, і тры іх тыпы чаргаваліся на сцяне. Байніцы прызначаліся для стральбы з лукаў і арбалетаў, а пазней — і з лёгкай вогнестрэльнай зброі. У сценах ніжэй байніц да гэтага часу ацалелі скразныя адтуліны ад бэлек; яны, відаць, служылі апорай для драўлянай галерэі-памосту, якая ішла па перыметры замкавых сцен.

Падымаліся на памост па драбінах з парэнчамі, якія размяшчаліся ў паўночна-заходнім і паўднёва-усходнім кутах замка. Па два выхады на галерэю было і ў кожнай вежы.



Лідскі замак. Малюнак невядомага мастака. Першая палова XIX ст.

Баявая галерэя накрывалася спецыяльнай стрэшкай, якая мела схіл у бок замкавага двара.

Адначасова са сценамі ў паўднёва-заходняй частцы замка была збудавана вежа. Яе падмурак, адкапаны ў час раскопак 1970 г., і падмурак сцяны замка канструкцыйна звязаны паміж сабою. Таўшчыня вежавых сцен (у плане вежа блізкая да квадрата памерамі 11,3×11,3 м) дасягала 3 м.

Цяжка ўявіць сабе архітэктурныя і фартыфікацыйныя асаблівасці вежы, ад якой застаўся толькі падмурак. Але дакументы канца XIX ст. (асобныя фрагменты вежы былі тады цэлыя) дазваляюць сцвярджаць, што яна была значна вышэй за 12-метровыя сцены замка. Яе апошні паверх быў выкладзены з цэглы і, пэўна, меў байніцы.



Замак у Лідзе. Гравюра паводле малюнка В. Дмахоўскага. Першая палова XIX ст.

Ёсць меркаванні, што менавіта ў вежы знаходзілася праваслаўная замкавая царква. Гісторык Т. Нарбут, напрыклад, лічыць, што царква месцілася ў адной з вежаў з часу заснавання замка аж да 1533 г., калі яе перанеслі ў горад і назвалі царквой Георгія Пераможаносца. Сапраўды, у час археалагічных пошукаў на падлозе колішняга першага паверха знойдзены рэшткі абліцовачных плітак і абломак нейкага аздаблення з каменю.

Унутранай прасторы вежы (8,3×8,3 м) хапала, каб у ёй размясцілася невялічкая каплічка.

Ад паўднёва-заходняй вежы ацалеў амаль адзін фундамент, а паўночна-ўсходняя дайшла да нашых дзён у выглядзе руін, якія і сёння дася-

адзначыць кавалкі непаліванай і паліванай кафлі, абломак паліхромнай пліткі са слядамі чырвонага і чорнага роспісу, рэшткі глінянага і шкляного посуду XIV—XVII ст. Усё гэта сведчыць аб тым, што асобныя паверхі вежы служылі



Ліда. Малюнак Н. Орды. Сярэдзіна XIX ст.



Лідскі замак. Малюнак В. Гразнова. Першая палова XIX ст.

гаюць вышыні каля 4 м. Дакладна вызначыць, калі яна была ўзведзена, цяжка; магчыма, пасля 1384 г., калі крыжакі часткова зруйнавалі замак, альбо на рубяжы XIV і XV ст., калі скрозь па Беларусі, рыхтуючыся даць рашучы адпор крыжакам, княжаскія ўлады ўдасканальвалі свае абарончыя збудаванні. План вежы — перакошаны рознабаковы чатырохкутнік. Уражанне такое, нібыта будаўнікі вельмі спяшаліся. Археалагічнае вывучэнне стыкаў падмуркаў вежы і сцяны замка паказала, што паміж імі няма канструкцыйнай сувязі,— важкі доказ, што будавалі іх у розныя часы. Вежу ўзводзілі метадам даволі пашыранай на Беларусі «лусковай» муроўкі — «шчокі» сцен выкладвалі з цэглы, а забутоўка — валуны і шчэбень на вапне. Абліцоўка, якая пачыналася ад самога цокаля,— з буйнапамернай цэглы. Памеры вежы: 12×12,5×12,3×12,15 м.

Дах вежы быў з чарапіцы, рэшткі яе знойдзены пры раскопках. З іншых знаходак хочацца

жытлом. Знаходкі пацвярджаюць думку таго ж Т. Нарбута, што на верхнім паверсе вежы размяшчаліся раскошныя пакоі і залы, а ў ніжніх — суд, архіў і вязніца, сляды якіх можна было яшчэ ўбачыць у канцы XVIII ст.

Калі дакранаешся рукой да заімшэлых замкавых сцен, міжвольна думаеш: як жа людзі маглі тады, у далёкім XIV ст. узвесці яго без механізмаў і машын? Любы сярэдні камень з кладкі сцяны важыць столькі, што яго ледзь адарвуць ад зямлі двое дужых мужчын. А колькі іх, такіх пасляледніковых «гарошын» у сценах двухметровай таўшчыні! Самыя сціплыя падлікі паказваюць, што тут сабрана каля 23 000 м$^3$ валуноў. Кожны з іх падабраны адпаведна колеру, памеру і старанна абчасаны. А колькі «тварылаў» спатрэбілася, каб гасіць вапну! Ці ўзяць тую ж цэглу. Каля паўтара мільёна цаглін лягло ў сцены!



Выгляд Лідскага замка з усходу. Архіўны здымак канца XIX ст.

Размяшчэнне замка на балоцістай нізіне, на штучнай пясчанай выспе вымагала будаўнікоў вырашыць вельмі важную праблему — забеспячэнне вадою. У замку несумненна была студня, якой карысталіся не толькі ў дні аблог, але і штодня, для гаспадарчых патрэб. Сёння мы не знаходзім на колішнім дзядзінцу варонкападобнай упадзіны, якая звычайна ўказвае на месцазнаходжанне старых, закінутых калодзежаў са струхлелымі драўлянымі зрубамі. Аднак у замку, дзе жыў князь, сценкі студні маглі ацымбраваць каменем, з-за чаго цяпер яе засыпаныя сляды цяжка знайсці.



Руіны паўночна-ўсходняй вежы. Здымак канца XIX ст.

Немалое значэнне для замка меў вялікі стаў, які выразна відзён на малюнках канца XVIII — пачатку XIX ст. Ён збіраў ваду Лідзеі і Каменкі і закрываў подступы да замка з усходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў.

У час археалагічных раскопак давялося пераканацца, што Лідскі замак каменны ў поўным сэнсе слова. Тут нават замкавы дзядзінец цалкам забрукаваны. Ды не ў адзін, а ў тры ярусы. Забрукаваны таксама ўсе схілы замкавай выспы.

Сёння цяжка сабе ўявіць, што значыла ў тыя часы замкавая павіннасць. Страшэнным цяжарам клалася яна на плечы гвалтам адарванага ад дому, сям'і, гаспадаркі рамесніка і селяніна-ратая...

Няма сумнення, што замак у Лідзе будавалі перш-наперш самі гараджане, а таксама сяляне бліжніх і дальніх ваколіц. Але паколькі гэта быў важны стратэгічны фарпост супраць псоў-рыцараў, то для нарыхтоўкі жвіру, каменю, вапны і цэглы браліся, трэба думаць, рабочыя рукі з іншых тэрыторый Беларусі і суседняй Літвы.

Між тым, з лёгкай рукі гісторыкаў Т. Нарбута і М. П. Бацюшкава, усталявалася думка, быццам будаўнікамі Лідскага замка былі майстры-кіяўляне і палонныя валыняне... Калі будаўнікамі лічыць кіяўлян, дык у той зямлі, адкуль яны прыйшлі, слядоў мураваных кастэляў з іх тыповымі будаўніча-тэхнічнымі асаблівасцямі не знойдзена. Што да «палонных валынян», то адкуль яны маглі ўзяцца ў пачатку XIV ст., калі ў Валыні ў той час правілі князі Гедымінавічы, падпарадкаваныя вялікаму князю Літоўскаму?

Старажытная Ліда складалася з замка, княскага двара, уласна горада з падзамчам і Зарэчча.

Княскі двор, або замкавы фальварак, як яго часта называлі яшчэ ў XVIII ст., размяшчаўся над рачулкай Каменкай, на паўночны захад ад



Усходняя сцяна замка. Малюнак Я. Драздовіча. 1929 г.

замка. Пры ім былі млыны, вінакурня і розныя іншыя гаспадарчыя службы.

«Места» ляжала на поўнач ад замка. Яго гістарычным цэнтрам лічыўся рынак, ад якога адыходзілі ўсяго чатыры вуліцы: Віленская — у бок Вільні, Замкавая — да замка, Каменская — да Каменкі і далей па дарозе на Васілішкі і Астрыну і Крывая, што злучала Каменскую вуліцу з рынкам.

Зарэчча ў тыя часы было невялікае — некалькі дзесяткаў хат...

За вякі свайго існавання Ліда і яе замак неаднойчы зведалі ўдары хцівых чужынцаў. Ужо пасля смерці Гедыміна, калі Ліда стала сталіцай удзела князя Альгерда, а потым яго сына Ягайлы, паміж князямі пачаліся доўгія звады за вялікакняскі прастол. Гэта скарысталі крыжакі. У 1384 г., пасля працяглай аблогі і штурму, яны захапілі замак. У снежні 1392 г. атрады рыцараў на чале з камандорамі Янам Румпенгаймам, Конрадам Ліхтэнштэйнскім і іх саюзнікам князем Вітаўтам пераправіліся ля м. Аліта цераз Нёман і праз скаваныя маразамі балоты падышлі да лідскіх сцен. Разам з імі паспытаць рабаўнічага шчасця прывалакліся і англійскія рыцары, якіх узначальваў малады граф П. Нартумберленгскі.

Запаліўшы падзамча і абрабаваўшы горад, драпежнікі аблажылі замак. Князь Дзмітрый Карыбут, што кіраваў абаронай, меў даволі сілы, але, напалоханы рыцарамі, вырашыў здаць замак. Прычакаўшы ночы, князь з гарнізонам пакінуў замак і падаўся да Навагрудка. Рыцарам дасталося шмат зброі і ваеннага рыштунку.

Зімою 1394 г. рыцары зноў напалі на Ліду, і зноў у паходзе бралі ўдзел англічане на чале з графам Бэдфардам, а таксама французскі ат-

рад. Але на гэты раз чужынцам пажывіцца не ўдалося: жыхары самі спалілі свой горад і, запёршыся ў замку, мужна адбілі ўсе варожыя штурмы.

З 1396 па 1399 гг. у Лідзе жыў выгнаны з Залатой Арды хан Тахтамыш: князь Вітаўт спадзяваўся вярнуць яму трон, а потым выкарыстаць яго ў барацьбе супраць Маскоўскага княства. Але ў бітве на Ворскле і дружыны Вітаўта, і ягоныя планы былі знішчаны войскамі саперніка няўдаліцы-хана.

А 5 жніўня 1406 г. пад сценамі Ліды з'явіліся атрады смаленскага князя Юрыя Святаслававіча. Князь ішоў выручаць з няволі сваю сям'ю, якую годам раней Вітаўт паланіў, захапіўшы Смаленск. Пасля некалькіх марных штурмаў смаляне знялі аблогу. Не паддаўся замак і князю Свідрыгайлу (1433 г.), які вёў доўгую вайну з Жыгімонтам.

З 1434 па 1443 гг. замак стаў прытулкам для яшчэ аднаго хана-выгнанніка — Даўлет Хаджы-Гірэя. Праўда, лёс яго быў шчаслівейшы за Тахтамышаў: з дапамогай Вялікага княства Літоўскага ён стаў ханам перакопскіх татар.

Пасля доўгага зацішша толькі ў 1506 г. пад сценамі Ліды з'явіўся адзін з загонаў крымскіх татар, аднак пачаць штурм замка яны не рызыкнулі.

У 1568 г. лідская шляхта прасіла караля Жыгімонта Аўгуста, каб павятовыя земскія суды праводзіліся не «па карчмах у месце», а ў замку. Кароль згадзіўся. Для захоўвання кніг Лідскага земскага суда было таксама дазволена за кошт жыхароў пабудаваць у замку, ля адной са сцен, спецыяльны склеп. З канца XVI ст. акрамя судоў тут сталі праводзіць павятовыя сеймікі.

У час зацяжных войнаў паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай мураваныя сцены і вежы замка адчулі моц найноўшай у тую пару аблогавай тэхнікі. Пасля працяглай аблогі і гарматнага абстрэлу ўлетку 1659 г. 30-тысячнае маскоўскае войска князя Мікіты Хаванскага ўзяло замак штурмам. Моцна пашкоджаны, ён быў разбураны дашчэнту ў 1702 г., калі адзін са шведскіх атрадаў падарваў замкавыя вежы. Пад час Паўночнай вайны з Карлам XII, у 1710 г., Лідскі замак стратэгічнага значэння ўжо не меў. Ён разбураўся ўсё больш і больш, пакуль не засталіся адны руіны. У канцы XIX ст. мясцовыя дзялкі пачалі разбіраць замкавыя муры і пускаць матэрыялы на продаж. Аднак пасля пратэстаў мясцовых аматараў даўніны гэты вандалізм удалося спыніць.

На пачатку нашага стагоддзя імператарская археалагічная камісія выдзеліла 946 руб. на правядзенне работ па кансервацыі Лідскага замка, але зроблена было няшмат: замак часткова абмерылі, зафатаграфавалі і раскідалі ненадзейныя месцы кладкі.



Лідскі замак. Рэканструкцыя па матэрыялах аўтара. Малюнак Я. Куліка



Паўднёвая сцяна Лідскага замка. Малюнак Я. Драздовіча. 1929 г.

У 20-я гады частковыя кансервацыйныя работы правялі польскія рэстаўратары. У такім выглядзе замак захаваўся да нашых дзён. Руіны яго ў свой час вабілі вока не аднаго мастака. У канцы XVIII ст. замак маляваў Іосіф Пешка. Не абмінуў яго і беларускі «летапісец у графіцы» Напалеон Орда. Але найбольш дасканала і дакладна падаў замак на сваім малюнку мастак Васіль Гразноў. Дзякуючы мастакам і невядомаму фатографу, які сфатаграфаваў руіны замка ў канцы XIX ст., захаваліся неацэнныя матэрыялы, якія дазваляць рэстаўратарам аднавіць гэты выдатны помнік мясцовага дойлідства.

# ЗАМАК У КРЭВЕ

Цікавы помнік ваеннай архітэктуры XIV ст.— замак-кастэль у Крэве (Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці). У даліне паміж высокіх пагоркаў, што расцягнуліся ланцугом абапал маленькай рачулкі Крэвянкі, на нізкім поплаве, ля сутокі яе з ручаём Шляхцянкай і ўзняўся ў 30-я гады XIV ст. мураваны замак Крэўскага княства. У Крэве правіў тады сын Гедыміна — Альгерд, які жыў тут да 1345 г.

У сваёй планіроўцы Крэўскі замак мае шмат агульнага з Лідскім. Форма яго — няправільная трапецыя, звернутая большым аснаваннем у напольны бок. З усходу, поўдня і часткова з захаду і поўначы замак баранілі воды рачулак, падпёртых плацінаю. Як і ў Лідскім замку, тут усяго дзве вежы, размешчаныя па дыяганалі. Аднак Крэўскі замак мае некаторыя асаблівасці, уласцівыя толькі яму. Тут на паўночна-заходнім рагу замка была адна вялікая (Княская) вежа, памерамі 18,65×17 м, якая выступала за перыметр




План Крэўскага замка

замкавых муроў, надзейна фланкіруючы заходнюю і паўночную (з брамай) сцены. Вежа мела тры паверхі і склеп-турму. У вежы жылі князь, яго чэлядзь і начальнік замкавай варты. Княжаскія пакоі размяшчаліся на другім паверсе. Над трэцім паверхам, абарончым, відаць, існаваў яшчэ адзін ярус бою, аб чым сведчаць рэшткі каменнай лесвіцы ў тоўшчы вежавай сцяны, якая вяла наверх. Гэта мог быць або яшчэ адзін паверх, або баявыя пляцоўкі, размешчаныя на самым версе вежы. Пры таўшчыні сцен у 3 м унізе і 2,5—2,6 м на ўзроўні трэцяга паверха, вежа мела больш як 25 м у вышыню, бо нават і сёння ацалелыя рэшткі яе дасягаюць вышыні каля 17,5 м.

Падмурак вялікай вежы вышынёю 3 м. Ён мае паўметровую «падушку» з дробнага камення і гліны, пад якія будаўнікі панасцілалі дубовыя і сасновыя лаўжы і галлё.



Крэўскі замак. Здымак пачатку XX ст.

Аснаванне вежы да вышыні 3 м ад цяперашняй паверхні вымуравана з камення. Вышэй ідзе кладка з буйнапамернай цэглы. Кладка «лусковая», таўшчыня «шчок» каля 0,7 м. Вышыня колішніх паверхаў вежы — 4,8—5 м. Перакрыцці паміж імі былі зроблены на бэльках, памерамі 30×30 см.

Паверхі злучаліся паміж сабой драўлянымі лесвіцамі.

Усярэдзіне вежавых сцен ідуць каналы ад драўляных бэлек памерам 40×40 см. Прызначэнне бэлек — умацоўваць сцены, прадухіляць нераўнамерную асадку і іншыя дынамічныя ўздзеянні.

Высокі 4-х схільны дах Княскай вежы спачатку пакрываўся гонтам, а ў XV—XVI ст.— чарапіцай-дахоўкай двух форм.



Княская вежа замка. Здымак пачатку XX ст.

Улічваючы, што з усходняга боку блізка да замка падступала вада падпёртых плацінаю Крэвянкі і Шляхцянкі, будаўнікі замка да падмурка сцяны насыпалі пясчаны пласт узмацнення і забрукавалі яго.

Даўжыня замкавых сцен розная: паўночная сцяна, якой найчасцей пагражала небяспека,— 85 м (даўжыня Княскай вежы замка не ўлічваецца), усходняя — 108,5 м, паўднёвая — 71,55 м і заходняя, што перад вежай крыху адхіляецца ад асноўнай трасы,— 97,2 м.

Таўшчыня замкавых сцен дасягае 2,75 м, падбэлек унутранай драўлянай сувязі, аналагічныя адтулінам вялікай вежы. Яны ішлі ўсярэдзіне сцяны, раўналежна яе трасе. Мяркуем, што такія бэлькі былі ў кожнай сцяне.

Даўней сцены Крэўскага замка дасягалі вышыні 12—13 м. Цяпер толькі асобныя іх фрагменты (на паўночнай сцяне) маюць вышыню каля 10 м. Прынцып абароны замкавых сцен такі ж, як і ў Лідскім. На вышыні 10 м па ўсім перыметры на драўляных бэльках размяшчалася баявая галерэя-памост. Сляды бэлек яшчэ выразна былі відаць у XIX ст. Стралялі абаронцы




Крэўскі замак. Выгляд з паўднёва-ўсходняга боку. Малюнак 1827 г.



Крэва. Малюнак Н. Орды. Сярэдзіна XIX ст.

замка праз байніцы, што былі на адлегласці 2,4 м адна ад адной. Цяпер цяжка ўзнавіць форму і абрысы байніц, бо зверху сцены разбураны, але мяркуем, што яны аналагічныя Лідскім.

На стыку ўсходняй і паўднёвай сцен, выступаючы ў бок замкавага двара, стаяла яшчэ адна вежа, памеры якой — 11×10,65 м. Вежа была прыбудавана да сцен і адрозніваецца ад іх глыбінёй залягання фундаментаў. Несумненна, яе ўзвялі пазней, бо сцены вежы закрылі некалькі адтулін ад бэлек баявой галерэі-памоста.

Некалі вежа ўзвышалася над замкавымі сценамі, аднак цяпер яе вышыня 6,6 м. Як і Княская, яна мела перакрыцці на бэльках, ад якіх у сценах захаваліся адтуліны памерамі 30×30 см. Вышыня колішняга першага паверха — 3,5 м, другога — 2,3, трэцяга — не менш за 3 м. Існаваў, несумненна, яшчэ адзін, чацвёрты паверх, аднак мы пра яго нічога не ведаем, бо сцены яго разбураны. Цікава, што таўшчыня вежавых сцен была меншая, чым у сценах замка, усяго 2,2 м.

У паўднёвай сцяне Крэўскага замка быў

мурак вышынёй да 2 м, з 30-сантыметровым цокалем, зроблены з камянёў сярэдняй велічыні, на вапне. Аднак ніжнія рады падмурка ў паўночнай сцяне пакладзены на гліне — відаць, таму што замак узводзіўся на балоцістым поплаве. Гэты падмурак таксама ляжыць на «падушцы» з дубовых і яловых лаўжоў і галля.

Замкавыя сцены да вышыні 4 м зроблены з каменю. Вышэй (і толькі з вонкавага боку) пакладзена цагляная абліцоўка. Таўшчыня яе — 65 см. У заходняй сцяне захаваліся адтуліны ад

такі ж праём, як і ў Лідскім. Цяпер праёма няма, бо сцяна ў гэтым месцы абвалілася. Аднак прамеры, зробленыя ў 70-х гадах XIX ст., сведчаць, што шырыня яго дасягала 2,84 м, а вышыня — 4,26. На фотаздымках і малюнках канца XIX — пачатку XX ст. праём добра відзён. Мяркуем, што як і ў Лідскім замку, ён выконваў ролю запаснога выхаду.

Заходнюю сцяну, ля самага долу, прарэзае яшчэ адзін праём спічастай формы вышынёй каля 2,5 м і шырынёй 2,25 м. Некаторыя даследчыкі лічаць яго адтулінай, праз якую пускалі ваду ў замкавы стаў-сажалку. Магчыма, гэта і так. Але калі ўлічваць чыста функцыянальную мэтазгоднасць і самі памеры праёма, прыходзіць думка, што гэта — дадатковы запасны выхад. Да пэўнага часу ён мог быць замураваным у 1—2 рады камянёў, якія пры патрэбе разбіраліся або выбіваліся бервяном. Нізка размешчаны і напалову закрыты з надворнага боку, праём было няцяжка абараняць, паколькі такое месцаразмяшчэнне амаль выключала паражэнне яго каменямётамі праціўніка.

На тэрыторыі замкавага двара знойдзена позняя кераміка XIV—XV ст. Сустракаюцца кавалкі паліванай і непаліванай кафлі, шкла, чарапіцы.

У адрозненне ад Лідскага замка, у Крэве замкавы двор не забрукаваны каменем. Толькі ад уваходнай брамы, якая праразала тоўшчу паўночнай сцяны, да малой паўднёва-ўсходняй вежы ішла выбрукаваная дарога шырынёй каля 8 м. Паколькі паўднёва-ўсходні ўчастак замкавага двара быў балоцісты і мокры, дарогу «забралі» ў каркас з бярвення. Усярэдзіну насцілалі рознае галлё і лаўжы і толькі потым насыпалі каменне. Справа ад гэтай дарогі, у паўднёва-заходнім куце двара, пэўна, знаходзілася тая сажалка, пра якую пісалі даследчыкі і гісторыкі XIX ст.

На замкавым падворку ёсць толькі два ўзвышэнні. Адно (50×35 м) прымыкае да вялікай вежы, займаючы паўночна-заходнюю частку двара. Пясчаная выспа забрукавана. Тут, відаць, стаялі княжаскія гаспадарчыя службы.

На другім пясчаным узвышэнні, насыпаным у нізкай паўднёва-ўсходняй частцы двара, пазней паставілі малую вежу. Увогуле, увесь усходні участак тэрыторыі, які прымыкае да ўсходняй сцяны, крыху падвышаны. Асабліва гэта прыкметна звонку. Прычым невялікі вонкавы адхон забрукаваны, відаць, таму, што тут да самых муроў падступала вада.


Крэўскі замак з усходняга боку. Фрагмент малюнка Б. Тамашэвіча сярэдзіны XIX ст.


Крэўскі замак. Малюнак Я. Драздовіча. 1929 г.

Крэўскі замак быў сведкам многіх гістарычных падзей. У 1382 г. у падзямеллі цэнтральнай вежы па загаду Ягайлы задушылі яго дзядзьку князя Кейстута, асноўнага прэтэндэнта на вялікакняскі прастол і галоўнага праціўніка Ягайлы. У 1385 г. у Крэўскім замку складалі ўмовы аб'яднання Вялікага княства Літоўскага і Польшчы пад уладай Ягайлы (Крэўская унія). У 1503—1506 гг. замак вельмі пацярпеў ад аблогі перакопскіх татар. Пазней тут некаторы час жыў беглы князь Андрэй Курбскі. Аднак у XVI ст. вядомы падарожнік Сігізмунд Герберштэйн ужо адзначаў, што Крэва — горад з «пакінутым замкам».

Крэўскі замак паступова тра-


Замак у Крэве. Рэканструкцыя па матэрыялах аўтара. Малюнак Я. Куліка.

ціў сваё значэнне як абарончы пункт. У XVIII ст. ужо была моцна разбурана вялікая вежа, дах і перакрыцці праламаліся, абвалілася частка ўсходняй сцяны. У сярэдзіне XIX ст. Крэўскі замак замаляваў мастак Н. Орда.

Асабліва пацярпеў замак у час першай сусветнай вайны. Больш за 3 гады Крэва было фактычна на лініі фронту. Замак апынуўся на нямецкім баку абароны. Тут былі пароблены бетонныя сховішчы (у малой вежы і ля паўднёвай сцяны), назіральныя пункты, у час абстрэлу якіх сцены замка і вялікая вежа дужа пацярпелі. Шмат дзе цагляная абліцоўка сцен адслаілася, а месцамі нават паабвальвалася. Паўночная сцяна замка пахілілася да 10°. У 1929 г. яе ўмацавалі кантрфорсам шырынёй у 2 м і закансервавалі. Абліцоўку галоўнай вежы звязалі жалезнымі зацяжкамі, а шчыліны залілі вапнай. Тады ж падмуравалі рэшткі паўночна-ўсходняй сцяны, умацаваныя эскарпам. Правялі шэраг іншых кансервацыйных работ, якія палепшылі стан замка.

Дарэчы, некаторыя сучасныя даследчыкі Крэўскага замка памылкова лічаць прымураваны ў 1915 г. да паўднёвай сцяны нямецкі бункер за яшчэ адну старажытную замкавую вежу. Так гэты бункер трактуецца ў шэрагу апублікаваных прац, падаецца на некаторых сучасных планах замка і нават у рэканструкцыях. Цяпер устаноўлена, што гэта прыбудова складзена з камянёў, павыбіваных з замкавых муроў снарадамі, прытым на цэментавым, а не на вапнавым растворы. Да таго ж тут выкарыстаны жалезабетонныя канструкцыі, якія да XIV ст. не маюць ніякага дачынення.

Вельмі падобны на замкі ў Лідзе і Крэве замак-кастэль у Medніках (цяпер Мядзінінкай Літоўскай ССР), які таксама ўзнік у першай палове XIV ст. Медніцкі замак узвышаецца на штучнай пясчанай выспе і мае даволі значныя памеры. Паўночная сцяна яго мае даўжыню 128,7 м, усходняя — 161,2 м, паўднёвая — 127,7, а заходняя — 147,9 м. У замку існавала 2 вежы. Вялікая мела ў плане форму прамавугольніка з памерамі 15×14 м пры таўшчыні сцен 2,9—3,0 м унізе і 2,4—2,6 м уверсе. Памеры другой вежы, прыбудаванай да паўночнай сцяны,— 9×8,5 м.



Медніцкі замак. Малюнак Н. Орды. Сярэдзіна XIX ст.

Планава-тыпалагічны аналіз Крэўскага і Медніцкага замкаў выяўляе іх вялікае падабенства. Праўда, малая вежа ў Medніках ужо вынесена за сцены. Яна фланкіруе прасла сцяны. Але ў астатнім замкі амаль аднолькавыя. Нездарма, відаць, сярод насельніцтва гэтых мясцін жыве старое народнае паданне, паводле якога абодва збудаванні ўзводзіліся адначасова, а іхнімі дойлідамі былі два браты-асілкі. Яны пазычалі адзін аднаму будаўнічыя матэрыялы, а ў час працы перакідваліся кельмамі.

Медніцкі замак таксама быў моцна разбураны і ў 1514 г. ужо стаяў пусты.

У нашы дні ў замку праведзена грунтоўная кансервацыя яго руін, створаны музей. Помнік уключаны ў турыстычныя маршруты.





План Медніцкага замка і яго рэканструкцыя паводле С. Абрамаўскаса.

Узвядзенне замкаў-кастэляў было важным крокам на шляху развіцця мясцовага ваеннага дойлідства. Тут атрымаў пачатак і развіваўся прынцып фланкіруючага агня з вежаў, вынесеных за перыметр сцен. Планавая кампазіцыя чатырохвугольнага абарончага збудавання ў далейшым стане характэрнай асаблівасцю дойлідства XV і XVI ст. Гэтыя замкі адыгралі важную ролю ў абароне Панямоння ад крыжацкай навалы і ўнеслі немалы ўклад у справу канчатковага разгрому Тэўтонскага ордэна.



III. ПРЫВАТНАЎЛАСНІЦКІЯ ЗАМКІ XV—XVIII СТ.

Мірная перадышка, заваяваная народамі Вялікага княства Літоўскага пасля Грунвальдскай бітвы 1410 г., была нядоўгай. Аднак яна дабратворна паўплывала на эканамічнае і культурнае жыццё дзяржавы, дзе адбываўся працэс далейшага развіцця феадальнага грамадства і яго вытворчых сіл.

Між тым Беларусь з яе развітымі гандлёвымі гарадамі, урадлівымі землямі, багатымі пушчамі і лясамі не давала спакою сквапным суседзям. З канца XV і да сярэдзіны XVII ст. яна неаднойчы ператваралася ў арэну спусташальных ваенных дзеянняў. Як вынік — манументальнае дойлідства тае пары мела выразныя абарончыя рысы. Уплывала на ваеннае дойлідства і тая атмасфера вострай сацыяльнай і міжусобнай феадальнай барацьбы, у якой нікому — ні магнатам, ні падуладнаму насельніцтву — не гарантавалася асабістая бяспека.

З другога боку, узмацнелая эканамічная магутнасць буйных тутэйшых магнатаў, што валодалі цэлымі староствамі з багатымі гарадамі і мястэчкамі, велізарнымі латыфундыямі і дзесяткамі тысяч запрыгоненых сялян, дазваляла ім будаваць уласныя замкі і палацы. Баючыся справядлівага гневу задушанага працай сялянства і шукаючы ад яго надзейнага паратунку, феадалы ставілі свае замкі-сядзібы воддаль ад населеных пунктаў, аддзяляючыся ад іх рэкамі і штучнымі ставамі, грэблямі і пад'ёмнымі мастамі.

Феадальныя замкі гэтай пары паступова страчваюць аскетычныя рысы чыста абарончых збудаванняў. Яны ўсё больш пачынаюць адпавядаць не толькі утылітарна-ваенным мэтам, але і задачам прадстаўніцтва.

Пачынаючы з другой паловы XV ст. у мясцовым замкавым дойлідстве вызначыліся дзве характэрныя тэндэнцыі. Першая сведчыла пра далейшае развіццё мясцовых будаўнічых традыцый (замкі ў Міры, Геранёнах, Любчы і інш.), з уласнай інтэрпрэтацыяй і выкарыстаннем найноўшых дасягненняў еўрапейскай фартыфікацыі. Другая тэндэнцыя адлюстроўвала выразную цягу да ўзораў еўрапейскага замкавага будаўніцтва (замкі ў Заслаўі, Нясвіжы, Ляхавічах і інш.), праламляючыся ў даўніх традыцыях тутэйшага манументальнага дойлідства. Менавіта ў гэтыя часы ўзніклі славутыя «брамы» — неад'емныя элементы абароны сярэдневяковых беларускіх гарадоў і замкаў.

## МІРСКІ ЗАМАК

Замак у мястэчку Мір Гродзенскай вобласці ўзведзены на процілеглым ад мястэчка правым беразе рачулкі Міранкі. У плане ён нагадвае крыху перакошаны чатырохкутнік, утвораны замкавымі мурамі. На кожным рагу, выступаючы за перыметр сцен, узвышаюцца магутныя вежы. Пятая — уязная вежа-брама — размешчана ў цэнтры заходняй сцяны, звернутай да горада. Усярэдзіне замкавага двара стаіць трохпавярховы палац, прыбудаваны да паўночнай і ўсходняй сцен замка, збудаванага ў 1506—1510 гг.

На будаўніцтва замка быў загад брэсцкага старасты, надворнага маршалка Вялікага княства Літоўскага князя Юрыя Ільініча. Мірскі замак на працягу стагоддзяў не раз зведаў цяжкія выпрабаванні, неаднойчы мяняў гаспадароў.

У 1568 г. ад Ільінічаў ён перайшоў да Радзівілаў нясвіжскай лініі і належаў ім аж да канца XVIII ст. Пасля замкам валодалі розныя асобы — графы і князі Гогенлоэ, Берленбургі, Вітгенштэйны, а з другой паловы XIX ст. і па 1939 г.— князі Святаполк-Мірскія.

Замак вельмі пацярпеў у 1655 г., пад час працяглай шведскай аблогі. У гады Паўночнай вайны, у 1705 г., шведы зноў бралі замак штурмам і спалілі яго. У 1794 г. замак узяло штурмам войска А. В. Суворава. Але, бадай, найбольш быў разбураны Мірскі замак у Айчынную вайну 1812 г. 9—14 ліпеня 1812 г. пад яго сценамі адбыліся жорсткія баі паміж ар'ергардам 2-й рускай арміі Баграціёна — кавалерыяй генерала Платава і французскай кавалерыяй маршала Даву. У час баёў былі разбураны і спалены палац, адна вежа, пашкоджаны вонкавыя земляныя ўмацаванні. Паўторны бой пад сценамі замка адбыўся 10—11 лістапада 1812 г. паміж арміяй адмірала Чычагава і французамі.

Толькі ў 1870 г. на чатырох вежах замка (акрамя узарванай паўночна-ўсходняй) аднавілі шатровыя дахі, а пазней адрамантавалі палац. У канцы XIX ст. на поўдзень ад замка выкапалі вялікі стаў.




План Мірскага замка паводле А. Я. Міцяніна і аўтара



Галоўны фасад Мірскага замка. Паводле абмераў А. Я. Міцяніна

Усе вежы Мірскага замка маюць аднолькавую аб'ёмную будову: ніжняя 4-гранная аснова ўверсе пераходзіць у 8-граннік, адначасова памалу памяншаецца і аб'ём.

Акцэнт мастацкага аздаблення замка зроблены на вежах. Архітэктурная апрацоўка іх фасадаў грунтуецца на розных формаю і велічынёй дэкаратыўных нішах і арнаментальных паясах. Такі прыём у беларускім дойлідстве XVI ст. быў шырока распаўсюджаны.

Як і сцены вежаў, замкавыя муры таксама не былі пазбаўлены архітэктурнага дэкору. Па ўсім перыметры, на вышыні блізка 8 м ад зямлі, праходзіць арнаментальны пояс шырынёю каля 70 см у выглядзе 6 радоў цаглянай кладкі. Верхні і ніжні рады — цагліны, пакладзеныя навугол. Паміж імі праходзіць паласа заглыбленай кладкі. Пабелены вапнай, гэты пояс выразна чытаўся на чырвоным фоне цаглянай сцяны, таксама як і другі арнаментальны пояс, што ішоў па самым версе.

Багацце і разнастайнасць архітэктурных дэталяў Мірскага замка, яго маляўнічасць яшчэ больш узмацняюцца каляровым афармленнем. Унутраная паверхня розных формаю і велічынёй нішаў, цяг і паясоў, атынкаваных і пабеленых вапнай, у спалучэнні з цёмна-чырвонай фактурай асноўнага поля сцен і праёмамі вежавых байніц надавалі пэўную выразнасць архітэктуры збудавання. Усе вежы Мірскага замка, канструкцыйна і стылістычна блізкія між сабою, разам з тым мелі сваё індывідуальнае архітэктурнае аблічча. Мастацкая дасканаласць фасада замка асабліва падкрэсліваецца прадуманасцю і злітнасцю арнаментальных паясоў вежаў. Іх, у сваю чаргу, арганічна працягваюць ідэнтычныя, паводле малюнку і тэхнікі выканання, паясы на праслах і паўцыркульныя нішы. Дзякуючы гэтаму ўсе элементы замка звязваюцца ў цэласную архітэктурную кампазіцыю, а іх прыгажосць і велічнасць як бы адсоўваюць магутнасць сцен на другі план, ствараючы вобраз непаўторнага збудавання.

Замкавыя вежы былі пастаўлены з такім разлікам, каб зручней было весці флангавы агонь



Мірскі замак. Здымак пачатку XX ст.

уздоўж прасел сцен. Вежы — аснова агнявой магутнасці замка, бо большасць байніц прызначалася на стральбу з гармат. Усе вежы былі запланаваны як самастойныя вузлы абароны: на выпадак, калі вораг прарвецца ў замак, у вежах з усіх бакоў былі байніцы для кругавога абстрэлу. Кожная вежа мела па 5 ярусаў-баёў з вялікай колькасцю байніц і складаную сістэму пераходаў. Завяршаліся вежы байніцамі-машыкулямі *, праз якія на ворага кідалі каменне, лілі вар або смалу.

З усіх нарожных вежаў XVI ст. амаль поўнасцю захавалася паўднёва-заходняя, якая дазваляе вывучыць сістэму планіроўкі і арганізацыю бою з усіх паверхаў вежы. У сваім аснаванні вежа ўяўляе сабою крыху перакошаны квадрат памерам 10×10 м. Вышыня яе 23 м. Усярэдзіне існавала пяць перакрыццяў і спецыяльны склеп для ваеннага рыштунку. На першым паверсе — 7 гарматных байніц, з якіх фланкіраваліся агнём замкавая брама, заходняя і паўднёвая сцены і вёўся франтальны агонь. На другі паверх вялі мураваныя прыступкі вузкай і стромкай лесвіцы. Тут размяшчалася 6 гармат. Аднак частка байніц ў XX ст. пераробленa ў вялікія аконныя праёмы.

Перакрыццё другога паверха скляпеністае, а астатніх трох — на бэльках. Тут таксама былі байніцы, каб страляць з гармат і мушкетаў.



Разрэз праездджай брамы замка. Паводле І. Ядкоўскага

На ўзроўні чацвёртага паверха сцены вежы пераходзяць у «васьмярык». Вышэй, на самым версе вежавай сцяны, месцамі захаваліся напаўзакладзеныя цэглай «варавыя вокны».

Астатнія вежы адрозніваюцца ад паўднёва-заходняй памерамі аснаванняў і аб'ёмам памяшканняў. За выключэннем некаторых дэталяў, унутранай планіроўкай, аб'ёмна-прасторавым рашэннем, прызначэннем памяшканняў і насычанасцю агнявымі сродкамі яны вельмі блізкія і падобныя паміж сабою.

Між тым неабходна прызнаць, што з усіх вежаў Мірскага замка галоўная вежа-брама па сваіх формах, па мяккасці пластыкі і арнаментацыі фасадаў найбольш цікавая, яркая і дасканалая. Шасціярусная вежа ўладарна узнялася на 25-метровую вышыню, стоячы на трывалым падмурку (12×12 м). Магутнае цела волата ўпрыгожана арнаментальнымі паясамі і дэкаратыўнымі нішамі рознай велічыні і формы, якія ўвабралі ў сябе ўсё шматвяковае хараство мясцовага мураванага дойлідства, пачынаючы ад старажытнаславянскага парэбрыка XIII ст., аркатурных фрызаў XIV ст. і канчаючы круглымі, трохчасткавымі з вісячымі гіркамі, паўцыркульнымі, спічастымі, прамавугольнымі і іншымі нішамі, народжанымі рукамі і розумам тутэйшых «мураляў» у славутым XVI ст.



Перспектыўны выгляд Мірскага замка. Паводле І. Ядкоўскага

Тоўшчу першага паверха вежы праразае адзіны ў замку праезд. Дзве дубовыя брамы — адна пры ўездзе ў вежу, а другая пры выездзе — пільнавалі ўваход на падворак. Палотнішчы брамных створак запіраліся велізарнымі дубовымі брусамі, ад якіх дагэтуль захаваліся ў бакавых сценах спецыяльныя гнёзды (30×30 см). Апроч таго, пярэдняя брама баранілася яшчэ спецыяльнай засцерагальнай рашоткай-герсай з адкаваных і завостраных знізу жалезных палос. Яе апускалі з другога паверха праз спецыяльны праём памерам 2,8×0,4 м. У выпадку небяспекі, перш чым варта паспявала зачыніць браму, герса з маланкавай хуткасцю падала зверху, адсякаючы ўваход і выхад з замка.

Пад вежай-брамай меўся змрочны склеп-вязніца. Яго, як і самую браму, пільнавалі чатыры вартаўнікі.

Паводле інвентара замка за 1688 г., у браме меліся 3 жалезныя гарматы, пакладзеныя ў байніцах. У XVIII і XIX ст. на другім паверсе размяшчалася замкавая капліца, а на сцяне, якая глядзела на дзядзінец, месціўся гадзіннік.





Адкапаныя аўтарам рэшткі барбакана. Малюнак А. Мемуса

Мірскі замак. Літаграфія сярэдзіны XIX ст.

Знізу пачыналася і ішла ў тоўшчы сцяны каменная лесвіца. Яна даходзіла ажно да чацвёртага паверха, дазваляючы выходзіць на кожны ярус бою.

Другі і трэці паверхі са скляпеністымі перакрыццямі мелі адпаведна 6 і 7 байніц для стральбы з мушкетаў і гармат. Астатнія паверхі сваёй планіроўкай падобныя паміж сабою: перакрыцці на бэльках і па 8 гарматных байніц. Завяршалася вежа поясам «варавых вокнаў», якія існавалі да перабудовы і рамонту вежы ў другой палове XIX ст.

Надаючы важнае значэнне абароне адзінага ўваходу ў замак і ўлічваючы моц артылерыі, што набывала ўсё большую сілу, уладальнікі замка праз нейкі час пачалі турбавацца, каб узмацніць ахову брамы. Да цэнтральнай вежы прыбудавалі спецыяльны мураваны барбакан у выглядзе паўкруглай сцяны таўшчынёю ў 1,25 м. Пасярэдзіне яе была яшчэ адна, меншая брама на два палотнішчы, якая таксама зачынялася на драўляны брус. Верх барбакана заканчваўся зубцамі.

Унутры барбакана выкапалі двухметровы катлаван, якім брама барбакана аддзялялася ад вежавай. Траплялі ў замак толькі па пад'ёмным мосце, які падымаўся і апускаўся на ланцугах спецыяльным калаўротам, размешчаным на трэцім паверсе вежы. Зыходзячы з формы і памераў барбакана, можна меркаваць, што насціл моста меў форму ляза рыдлёўкі і быў даўжынёю каля 9,75 м і шырынёю 9,5 м. Апускаючыся, мост клаўся на спецыяльны апорны выступ у фундаменце барбакана і закрываў катлаван. Падняты насціл моста, акаваны спадыспаду жалезнымі палосамі і шыпамі, цалкам закрываў пярэднюю браму вежы.

Памеры моста дазваляюць вызначыць, што вышыня сцяны барбакана дасягала 10 м.

Барбакан існаваў да канца XIX ст.

Агнявая магутнасць вежаў Мірскага замка і яго сцен арганічна спалучалася. Адметная асаблівасць — наяўнасць у сценах трох ярусаў бою. Ніжнія зоны ўсіх чатырох сцен праразалі гарматныя байніцы падэшвеннага бою ў выглядзе камер-пячур. Гэты ярус самы магутны: у паўночнай сцяне — 9 байніц, ва ўсходняй — 9, у паўднёвай — 8, і ў заходняй — 5.

Асабліва арыгінальна зроблены сярэдні ярус бою. Усярэдзіне сцен, прыкладна на вышыні 8 м ад зямлі, ідзе калідор-галерэя вышынёю крыху больш 2 м з паўцыркульным скляпеннем. У абедзвюх сценах галерэі былі зроблены шматлікія ружэйныя байніцы, каб, калі спатрэбіцца,



Мірскі замак. Малюнак Н. Орды. Сярэдзіна XIX ст.

весці агонь як вонкі, так і па замкавым двары. Траплялі сюды з другога паверха.

Верхні ярус насценнага бою — баявая пляцоўка, размешчаная на самым версе. Пляцоўку прыкрывалі парапеты з байніцамі.

У пачатку XVII ст. важнымі элементамі абароны Мірскага замка сталі земляныя валы, якія ў выглядзе чатырохкутніка абкружалі яго з усіх бакоў. На кожным рагу ўмацаванняў былі бастыёны * галандскага тыпу.

Будаўніцтва замка мела некалькі этапаў.

У першым дзесяцігоддзі XVI ст. узвялі толькі сцены і вежы, а на паўднёва-заходнім участку замкавага двара паставілі цагляны аднапавярховы жылы будынак. Другі этап датуецца 20—30-мі гг. XVI ст., калі да паўднёвай і ўсходняй сцен прыбудавалі аднапавярховы корпус са склепам пад ім. Новы корпус заняў амаль палову двара. Тады ж узвялі і барбакан.

На трэцім будаўнічым этапе (другая палова XVI — першая палова XVII ст.) над аднапавярховым корпусам надбудавалі яшчэ два паверхі. Знешнімі сценамі палаца сталі замкавыя сцены — паўночная і ўсходняя. У іх замуравалі байніцы, а на ўзроўні другога і трэцяга паверхаў прабілі вялікія аконныя праёмы. Усярэдзіне таксама адбылася поўная рэканструкцыя.

Уявіць сабе Мірскі замак тае пары даюць магчымасць інвентары. Паводле аднаго з іх, за лeўскага, венгерскага і канчаючы бочкамі сычанага мёду, «дамовым і карэліцкім півам».

Высокі ганак «з усходкамі і парэнчамі маляванымі» вёў у шматлікія пакоі і залы палаца. Там усё зіхацела чысцінёю і багаццем, на якое дзівілася адно толькі сонца, што зазірала сюды праз каляровыя шыбіны вокнаў, апраўленых у алавяныя і драўляныя рамы дзівоснай работы. Паркетная падлога, высокія печы, абкладзеныя багатай кафляй, каваная медзь вісячых падсвечнікаў, славутыя карэліцкія шпалеры...



Замак у Міры. Малюнак Я. Драздовіча. 1927 г.



Мірскі замак у пачатку XVII ст. Рэканструкцыя па матэрыялах аўтара. Малюнак Я. Куліка

1688 г., на перадзамчы, абкружаным валам, стаялі розныя гаспадарчыя пабудовы — «стайня з вазоўняй і абозняй, усё крытае гонтай», а таксама «невялікі гародчык». Ля брамы стаяла вартоўня — «кардыгарда», дзе меліся печка «з белай кафлі, выведзеная ўверх, 3 лавы, 1 стол і 1 шкляное акно». Былі ў замку вялікая пякарня, княжаская стайня з нарыхтаванымі сенам і аўсом, замкавы бровар, лазня, гаспадарчыя склепы, дзе захоўвалася ўсё, пачынаючы ад міног, віна кара-

Мірскі замак XVII—XVIII ст. — гэта ўжо палацава-замкавы комплекс, дзе на дзіва ўдала спалучаліся рысы ваенна-фартыфікацыйнага збудавання і мяккасць, пыха і велічнасць палацавай пабудовы. Суровае аблічча замка-воіна, аздобленае цудоўнай гармоніяй фарбаў і разнастайных архітэктурных дэталяў, прыгажосць, непаўторнасць і нацыянальны каларыт комплексу дазволілі сучаснікам заслужана назваць Мірскі замак «...сапраўднай кветкай сярэдневякоўя».





Замак у Любчы. Сучасны стан

Унізе: Замак на здымку пачатку XX ст.

# ЗАМАК У ЛЮБЧЫ

Паселішча Любча (Любч, Любеч), цяпер гарадскі пасёлак Гродзенскай вобласці, існавала ўжо ў XV ст. Вялікі князь Аляксандр у 1499 г. падараваў «двор Любч» падскарбію Фёдару Храбтовічу.

Хутчэй за ўсё само мястэчка ўзнікла ў пачатку XVI ст. Ва ўсякім разе ў 1517 г. і 1528 г. у шэрагу дакументаў Любча называецца мястэчкам, і толькі ў 1590 г. яно атрымала Магдэбургскае права.

Відаць, тады, дзесьці ў сярэдзіне XVI ст., і паўстаў на ўскраіне Любчы мураваны замак. Блізкі па сваіх памерах да квадрата 85×85 м, ён заняў участак левага берага р. Нёмана. Замчышча з трох бакоў абвялі ровам шырынёй да 30 м і глыбінёй ад 7—8 м (захад і поўдзень) да 10 м з усходу. З чацвёртага боку яно баранілася Нёманам. Зямля з рова хутчэй за ўсё пайшла на падсыпку пляцоўкі замчышча. У выніку пляцоўка ўзнялася над ваколіцай на 2—2,5 м.



Любча на малюнку Т. Макоўскага пачатку XVII ст.

У паўднёва-заходнім і паўднёва-ўсходнім кутах замчышча стаяць дзве магутныя мураваныя вежы. Паўднёва-заходняя вежа была праезджая. Яна зроблена ў выглядзе магутнага куба, які на вышыні каля 8 м пераходзіць у васьміграннную прызму. Аснова вежы — квадрат памерам 9,8×9,8 м.

Вежа мела чатыры ярусы бою. На першым ярусе — 8 ружэйных байніц, на другім — 12 гарматных. Такія ж байніцы, толькі іх 8, ёсць на трэцім паверсе. Пад дахам вежы, у кожнай з васьмі сцен, па 2 мушкетныя байніцы.

Па сваёй аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі гэтая вежа вельмі падобная на вежы Мірскага замка і некаторыя абарончыя вежы Віцебскага. Аднак мяшання гатычна-рэнесансная муроўка дазваляе датаваць пабудову вежы сярэдзінай XVI ст. Падмурак вежы з вялікага палявога камення на вапне дасягае 3 м вышыні.

Найбольш праўдападобна, што спачатку гэтая вежа была адзінай у замку, які меў драўляныя сцены. Пра гэта сведчыць прасла мураванай сцяны, пазней прыбудаванай да вежы, а таксама другая, нарожная, паўднёва-ўсходняя вежа. Яна розніцца сваёй формай, памерамі (квадратная — 8,9×8,9 м, тры ярусы бою і інш.) і рэнесанснай муроўкай (чаргаванне суцэльных радоў лажкоў і тычкоў). Мяркуючы па муроўцы, паўднёва-ўсходнюю вежу хутчэй за ўсё ўзвялі ў канцы XVI або ў пачатку XVII ст. (Аб гэтым, здаецца, ускосна гаворыць і герб горада 1644 г., дзе намаляваны 2 вежы). Як і праезджая вежа-брама, паўднёва-ўсходняя вежа стаіць на каменным падмурку вышынёй каля 4 м. Раствор вапнавы. У вежы былі 3 ярусы бою. На першым ярусе — 4 ружэйныя байніцы, на другім — 4 гарматныя і на трэцім — 12 ружэйных байніц.

Прасла замкавай сцяны паміж вежамі таксама рэнесанснай муроўкі, таўшчыня яго параўнаўча невялікая — каля 1,5 м.

Пад вежай размяшчаліся турма і скарбоўня. На сцяне, звернутай у бок замкавага двара, меўся гадзіннік.



Замак у Любчы. Акварэль І. Пешкі. Канец XVIII ст.

Паводле інвентара замка за 1661 г., дзве іншыя вежы замка стаялі па-над Нёманам. На кожнай з іх меліся флюгеры з гербамі Радзівілаў.

У паўночным баку замчышча, паміж гэтымі вежамі размяшчаўся невялікі мураваны палац, які ў канцы XVIII ст. ужо не існаваў.

# ЗАМАК У ГЕРАНЁНАХ

Паселішча Геранёны згадваецца ў пісьмовых крыніцах пачынаючы з першай паловы XV ст. У 1433 г. Жыгімонт Кейстутавіч, вялікі князь літоўскі, падараваў Геранёны разам з Дзявенішкамі, Меднікамі і Тыкоцінам Яну Гаштольду.

У 1493 г. вялікі князь Аляксандр пацвердзіў прывілей на права валодаць Геранёнамі Войцаху Гаштольду, тагачаснаму канцлеру Вялікага княства Літоўскага і віленскаму ваяводу. Мяркуецца, што на рубяжы XV — пачатку XVI ст. і быў пабудаван мураваны замак.

Гаштольды валодалі замкам да 1542 г. Потым ён перайшоў да караля Жыгімонта I, а ад яго — да Жыгімонта Аўгуста. У XVII ст. Геранёны — ва ўладанні Пацаў.

Пад час руска-польскай вайны 1654—1661 гг. замак быў разбураны, але, відаць, неўзабаве яго зноў аднавілі. Вядома, напрыклад, што ў 1670 г. князь Міхаіл Пац аддаў Геранёны разам з Ліпнішкамі ў дзяржаўнае ўтрыманне, а грашовыя прыбыткі ішлі на развіццё вялікакняскай артылерыі.

У пачатку XIX ст. замак пуставаў, а потым, у сярэдзіне стагоддзя, яго пачалі разбураць.

Замак стаяў на штучнай земляной выспе. Сцены ўтваралі квадрат 27×27 м, на кожным рагу якога стаялі мураваныя вежы, узведзеныя на вапнавым растворы, у традыцыйнай для Беларусі тэхніцы «паласатай» кладкі. Шырока выкарыстаны палявы камень. Цэглай у асноўным абліцоўвалі вежы, і, напэўна, завяршалі сцены.

Сцены замка на асобных участках захаваліся да 4 м вышыні.

Падмурак — з вялікіх камянёў, пакладзеных на вапне. Шчыліны старанна запоўнены кавалкамі цэглы і растворам. Вышыня падмурка не больш за 1 м.

Вежы Геранёнскага замка мелі цыліндрычную форму і дыяметр 8 м. Сцены двухметровай таўшчыні складзены з каменю, звонку — цагляная абліцоўка. Кладка гатычная: чаргаванне аднаго лажка і аднаго тычка.

Падмуркі вежаў і сцен маюць аднолькавую глыбіню — каля 1 м, лінія каменнай і цаглянай кладак супадае. Аднолькавая не толькі тэхніка кладкі, але і памеры цэглы. Гэта, думаецца, важкі доказ на карысць таго, што замкавыя сцены і вежы ўзводзілі ў адзін час.

Рэшткі паўночна-заходняй вежы замка сведчаць аб тым, што вежа мела скляпеністае перакрыццё паміж двума ніжнімі паверхамі. Захаваўся аконны праём ніжняга паверха вышынёй у 1 м і шырынёй 0,6 м з гатычнай аркай.

Ля паўднёвай сцяны замка калісьці стаяў палац, які ўзвялі хутчэй за ўсё ў канцы XVI ст. Вядома, што ў 1565 г. панскі палац у замку быў яшчэ драўляны.

Пазней, калі яго перарабілі на мураваны, ён быў двухпавярховым, меў па некалькі пакояў на кожным паверсе, вялікую залу. Усе 12 вакон былі звернуты ў бок дзядзінца. Па цэнтру спічастага даха стаяў флюгер у выглядзе бляшанага бусла, а па краях — дзве бляшаныя зоркі.

Адзначым таксама, што ад самога замка абарончы вал аддалены на адлегласць 80 м. Яго значная вышыня (да 10 м) захоўвала будынак замка ад прамога паражэння пры стральбе з гармат у час аблогі.



Замак у Геранёнах на карце пачатку XVII ст.




План Геранёнскага замка

Шатровы дах замкавых вежаў, дах над баявым ходам сцен і ў палацы пакрывала чарапіца-дахоўка.

Важным элементам абароны замка быў магутны 700-метровы земляны вал вышынёю 9—10 м. У аснаванні ён дасягаў 15 м шырыні. У плане вал нагадвае выцягнуты прамавугольнік з закругленымі вугламі. Ля падножжа вала ляжаў абарончы роў, які вясною, калі раставаў снег, або ўвосень, у пару дажджоў, запаўняўся вадою.

Геранёнскі замак узводзіўся ў тыя часы, калі ўзрастала значэнне артылерыі. Спадзявацца на магутнасць замкавых муроў было ўжо небяспечна, і ўвесь асноўны цяжар абароны пачаў прыпадаць на знешнія ўмацаванні — равы і валы. Мы бачым як бы крок наперад у развіцці тактыкі абароны замкаў. Найбольшая ўвага тут аддаецца знешняму валу, з унутранага боку якога ўзведзена мураваная сцяна таўшчынёй 1,25 м і вышынёй 4,5 м. Сцяна не давала апаўзаць валу ўсярэдзіну замкавага двара. Апроч таго, у час аблогі пад аховай сцяны смялей хадзілі воіны гарнізона.

На кожным рагу вала падпорная сценка пераходзіла ў 7-кантовыя вежы-рандэлі * — асноўныя агнявыя пункты вала. Таўшчыня рандэ-



Руіны замка ў Геранёнах. Малюнак Н. Орды сярэдзіны XIX ст.

ляў — 1,75 м. Ні памерам цэглы і каменя, ні тэхнікай узвядзення яны не адрозніваюцца ад падпорнай сцяны. Рандэлі мелі не больш, як па два паверхі. Прычым, ніжні паверх, вышынёй каля 4,5 м, увесь размяшчаўся ў тоўшчы вала. Тут, відаць, захоўваліся розныя ваенныя прыпасы і рыштунак. Другі паверх пачынаўся на ўзроўні вяршыні вала і нагадваў 7-кантовы мураваны бастыён з перыметрам сцен каля 25 м. Перакрыццё паміж паверхамі хутчэй за ўсё рабілася з бэлек.

Трапіць на другі паверх можна было па прыступках мураванай лесвіцы, якая пачыналася ля самага нізу падпорнай сцяны на стыку са сцяной рандэля.

Немалую агнявую сілу можна было сканцэнтраваць і на самім вале.

Цікавы ўезд у Геранёнскі замак — з усходняга боку, дзе вал асабліва магутны, а абарончы роў мае 4 м глыбіні і 15 м шырыні.

Уязная замкавая брама перарэзала ніжні паверх паўднёва-ўсходняга рандэля, сцены якога, у параўнанні з іншымі, патоўшчаны да 2,2 м. Трапіць да брамы можна было па лёгкім драўляным мосце, перакінутым цераз роў. Магчыма, частка моста перад брамай падымалася.

Пад'езд да брамы надзейна ахоўваўся зверху і з суседніх участкаў вала. Акрамя таго, справа ад брамы вал меў бастыёнападобны выступ, стратэгічнае прызначэнне якога несумненнае: ён фланкіраваў агнём і мост, і бліжнія подступы да брамы. Гэта, так сказаць, праобраз тых бастыёнаў і бастыённай сістэмы ўмацаванняў, якія пачнуць шырока прымяняцца на Беларусі ў другой палове XVI ст., і асабліва ў XVII ст.

Не выпадковае, вядома, і размяшчэнне Геранёнскага муражанага касцёла, узведзенага ў 1529 г. Абнесены муранай сцяной, ён непасрэдна прымыкаў да абарончага рова перад брамай і, такім чынам, з'яўляўся дадатковай перашкодай на шляху да замка.

З поўным правам можна сказаць, што Геранёнскі замак — яркі ўзор замкавага будаўніцтва ў Беларусі на рубяжы XV—XVI ст. Хоць тут і ёсць асобныя элементы еўрапейскай фартыфікацыі, усё ж больш ярка і выразна вылучаюцца мясцовыя ваенна-будаўнічыя традыцыі. Аб гэтым сведчаць і будаўнічыя матэрыялы, і прынцып узвядзення валаў, і мураваны замак з чатырма вежамі, размешчаны на штучнай выспе, што было найбольш характэрна для беларускага ваеннага і царкоўна-цытадэльнага дойлідства тых часоў. Замак стаў як бы звязваючым звяном паміж старымі мясцовымі прыёмамі фартыфікацыі і бастыённай сістэмай умацаванняў, якая неўзабаве набыла шырокае распаўсюджанне.



Замак у Геранёнах. Рэканструкцыя па матэрыялах аўтара. Мастак Я. Кулік

# БЫХАЎСКІ ЗАМАК

Быхаў (Стары Быхаў), вядомы па летапісах з XIV ст., знаходзіцца ў сутоцы р. Макранкі з Дняпром і займае яго высокі правы бераг. У 1568 г. горад стаў валоданнем роду Хадкевічаў, а ў 1621 г. перайшоў да Сапегаў. Канец XVI — пачатак XVII ст. — гэта перыяд, калі Быхаў умацавалі землянымі валамі з бастыёнамі, равелінамі і равамі, якія ў выглядзе 800-метровага паўкруга надзейна баранілі прыватнаўласніцкі горад і прынеслі яму славу непрыступнай цытадэлі.

Горад быў прадумана спланаваны і падзяляўся ўзаемна перпендыкулярнымі вуліцамі на кварталы. Цэнтр горада займала гандлёвая плошча.

Цэнтрам абароны горада з'яўляўся палацава-замкавы ансамбль, пабудаваны ў пачатку XVII ст. і не раз рэканструяваны. Аддзелены ад горада ровам і пад'ёмным мостам, абнесены бастыёнамі, замак у той жа самы час быў неадрыўнай часцінай агульнагарадской сістэмы абароны. Ён надзейна пільнаваў подступы да «места» з поўначы. Галоўны палацавы корпус і казарма, умацаваныя 6- і 8-products гранными вежамі, а таксама розныя падсобныя памяшканні ў плане мелі форму няправільнага 4-кутніка, які з поўначы замыкаўся тоўстай муравакай сцяной. У ёй існаваў праход да валаў.

Другім вузлом абароны Быхава была мураваная сінагога, узведзеная ў пачатку XVII ст. Прамавугольная ў плане, з тоўстымі амаль 2-метровымі сценамі, круглай нарожнай вежай, байніцамі ў атыкавым ярусе, яна запірала выхад з прылягаючых вуліц і была сур'ёзнай перашкодай на шляху наступаючых.




Стары Быхаў. План 1781 г. Паводле А. Квітніцкай




Быхаўскі замак. План першага паверха і разрэз галоўнага корпуса паводле Ул. А. Чантурыі

Уваход у горад пільнавалі традыцыйныя для Беларусі брамы. Іх у Быхаве было тры. На шляху з Магілёва стаяла Магілёўская брама, а Рагачоўская адчыняла дарогу да Рагачова. Трэцяя брама — Падольная — выводзіла з замка да Дняпра, на Падол.

Усе будынкі у горадзе, за выключэннем замка, сінагогі і трох брам, былі драўляныя.

Непрыступнасць горада і замка дазваляла яму ў перыяд войнаў XVII—XVIII ст. вытрымліваць доўгія многамесячныя аблогі.

Цяпер Быхаўскі замак — помнік барока XVII ст. — ацалеў часткова і яго трэба неадкладна ўзяць пад ахову дзяржавы.



Стары Быхаў у канцы XIX ст. Фотаздымак М. Астанковіча

Заслаўскі замак. Сучасны выгляд

Унізе: Кафля з выявай герба князёў Глябовічаў, знойдзеная ў час раскопак на замку





## ЗАМКІ З БАСТЫЁННЫМІ ЎМАЦАВАННЯМІ

У XIV—XVII ст. велізарнае значэнне набыла вогнестрэльная зброя, якая пачала адыгрываць галоўную ролю ў час аблогі гарадоў і замкаў. Увядзенне ў бой артылерыі выклікала павелічэнне таўшчыні сцен і дыяметра вежаў, а таксама далейшае істотнае ўдасканаленне сістэмы ўмацаванняў. У канцы XV ст. фартыфікатары вынайшлі бастыёны, якія зрабілі сапраўдную рэвалюцыю ў сістэме абароны. Сваім нараджэннем бастыённая сістэма абавязана Італіі, дзе ўжо ў канцы XV ст. асобныя гарады ўмацоўваліся бастыёнамі.

Італія стала радзімай дзвюх фартыфікацыйных сістэм — стараітальянскай і новаітальянскай.

Паводле стараітальянскай сістэмы, бастыёны рабіліся невялікіх памераў, затое куртыны — валы паміж бастыёнамі — дасягалі 450 м. Гэта прымушала ўзводзіць на куртынах дадатковыя, прамежкавыя бастыёны. Паступова, з другой паловы XVI ст., укараняецца новаітальянская бастыённая сістэма: куртыны сталі карацейшыя, а бастыёны — намнога большыя. Аднак аднолькавым у абедзвюх сістэмах заставалася тое, што земляныя валы ўмацаванняў на значную вышыню абмуроўваліся каменем і часта мелі мураваны бруствер. У тоўшчы валаў размяшчалі цэйхгаузы, патаемныя вылазы і інш.

На працягу XVI і XVII ст. італьянскую сістэму ўдасканальвалі галандцы, французы і немцы. Яны адмовіліся ад каменнай абмуроўкі і пачалі ўмацоўваць схілы ўмацаванняў дзёрнам і фашынамі. Валы рабілі больш нізкімі, а равы напаўнялі вадою.

У XVI—XVII ст. бастыённая сістэма ўмацаванняў хутка распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе, у тым ліку і ў Польшчы, Беларусі, Прыбалтыцы і Маскоўскай дзяржаве. Тут, на трывалым грунце мясцовых будаўнічых традыцый, яна атрымала новую інтэрпрэтацыю.

## ЗАСЛАЎСКІ ЗАМАК

Адным з першых бастыённых замкаў на Беларусі трэба лічыць замак князёў Глябовічаў у Заслаўі. Замак стаіць на поўнач ад горада на высокім пагорку і мае памеры 200×100 м. Прамавугольны ў плане, замак калісь аддзяляўся ад «места» досыць шырокім і глыбокім ровам з вадою. Сістэма ставоў на р. Княгіньцы значна павышала ўзровень вады і фактычна ператварала замак у астраўное ўмацаванне.

Даследчыкі XIX ст. К. Тышкевіч і Р. Ігнацьеў, якія дасканала вывучылі ў свой час гэтыя ўмацаванні, сведчаць, што бастыёны і куртыны * Заслаўскага замка былі абмураваны каменем і цэглай. У цэнтры куртын меліся дадатковыя бастыёны. Гэта, дарэчы, добра відаць на плане замка, знятым у 1840 г. К. Тышкевічам. У 70-я гады XIX ст. Р. Ігнацьеў адзначаў, што дадатковыя бастыёны, зробленыя з каменю, цэглы і зямлі, мясцовыя жыхары разабралі. На розных участках вала тады яшчэ існавалі цэлыя кавалкі мураваных сцен (хутчэй за ўсё гэта былі рэшткі мураванай сцяны бруствера), якія прымыкалі да бастыёнаў.

Ля паўднёва-ўсходняга бастыёна знаходзілася традыцыйная для зямель Беларусі двухпавярховая ўязная замкавая брама. Таўшчыня яе муроў дасягала 2 м. Брама мела падвойныя вароты і добра фланкіравалася з нарожнага бастыёна. Пад брамай знаходзілася турма ў выглядзе доўгага мураванага тунэля. З «местам» замак злучаў драўляны мост, апошні пралёт якога, мяркуючы па аналогіі з іншымі замкамі, падымаўся з брамы спецыяльным калаўротам. Такім чынам, паводле фартыфікацыйна-будаўнічых асаблівасцей, Заслаўскі замак — узор стараітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы ўмацаванняў і можа датавацца сярэдзінай XVI ст. Найбольш верагодна, што замак, узведзены ў час княжання Івана Глябовіча, які валодаў Заслаўем і пабудаваў тут, на замкавым падворку, рэфарматарскі храм. У яго 35-метровай вежы, прыбудаванай пазней, меліся байніцы, што яшчэ больш узмацняла абараназдольнасць замка.



План Заслаўскага замка сярэдзіны XIX ст. паводле К. Тышкевіча

# НЯСВІЖСКІ ЗАМАК

Нясвіж, паводле летапісаў, вядомы з XIII ст. Адзін з яго князёў — Юрый Нясвіжскі — у 1224 г. браў удзел у бітве з татарамі на Калцы. Пасля таго, як землі Беларусі ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, нясвіжскія князі валодалі сваім удзелам з XIII па XV ст. на падставе ленных адносін. У 1492 г. вялікі князь Аляксандр перадаў горад князям Кішкам, а ў 1513 г. князёўна Ганна Кішчанка ўзяла шлюб з Янам Радзівілам («Барадатым»), да якога і перайшоў Нясвіж.

Пакуль што не ўдалося высветліць, якія прычыны прымусілі нясвіжскага князя Мікалая Радзівіла «Сіротку» загадаць у маі 1583 г. на месцы колішняга драўлянага замка ўзвесці фартэцыю найноўшага тыпу. Зусім верагодна, што прычынаю паслужыў раптоўны пажар. Аднак хутчэй за ўсё на князя зрабілі ўражанне дасягненні заходнееўрапейскай фартыфікацыі. Здаецца, на карысць гэтага сведчыць і тое, што зіму 1580—1581 гг. Радзівіл правёў у Італіі, дзе мог на ўласныя вочы бачыць і належным чынам ацаніць тагачасныя дасягненні італьянскай фартыфікацыі.

І, думаецца, зусім не выпадкова збудаваць новы замак даручылі італьянскаму архітэктару Джыавані Марыя Бернардоні. Невядома, ці ўзводзіў ён раней фартэцыі. Тым не менш вера ў яго здольнасці і талент была настолькі вялікая, што Мікалай Радзівіл нават выехаў у паломніцкае падарожжа ў Палестыну, дазволіўшы весці будаўнічыя работы без яго.

Нясвіжскі замак узвялі на паўвостраве на правым беразе р. Ушы, падпёртай плацінаю, якая ўтварыла два ставы — Паненскі і Піянерскі. Акаймаваны шырокім вадзяным ровам, дзе ўзровень вады рэгуляваўся, Нясвіжскі замак фактычна быў астраўным, з двума воднымі рубяжамі. Трапіць у замак з горада можна было толькі па доўгім драўляным мосце, які ішоў цераз возера і ў выпадку небяспекі лёгка разбіраўся. Гэты мост даводзіў да абарончага рова з перакінутым цераз яго пад'ёмным мостам. Па ім падыходзілі да масіўнай двухпавярховай мураванай брамы, прыстасаванай да абароны.

Замак меў у плане форму чатырохкутніка памерам 170×120 м, вакол якога ішоў высокі земляны вал з бастыёнамі ў нарожніках. Вал быў абмураваны каменем да самага верху і пераходзіў у такі ж бруствер. За бруствeрам былі зроблены стралковыя ячэйкі, акопы і ішла дарожка, якою карысталася войска ў час аблогі. З боку замкавага двара лінія агню баранілася яшчэ адной мураванай сцяной. Прасторны замкавы падворак утваралі тры будынкі. Насупраць брамы, на восі ўезду, стаяў галоўны корпус з княжаскімі пакоямі. У кутах прамавугольнага будынка высіліся традыцыйныя для Беларусі 8-гранныя вежачкі, але яны ўжо не мелі абарончага значэння. Цэнтр фасада вылучаўся аздобленым рызалітам *.

Справа ад уваходу стаяў масіўны трохпавярховы корпус з высокай гадзіннікавай вежай. Тут, відаць, месціліся казармы і асобныя гаспадарчыя службы.

Трэці будынак замка, двухпавярховы гаспадарчы корпус, стаяў на падворку злева ад уезду.

Характэрна, што валы Нясвіжскага замка засланялі ад абстрэлу ўвесь першы паверх будынкаў. У сярэдзіне валаў, пад скляпеннямі, былі стайні, розныя падсобныя памяшканні, а таксама чатыры патаемныя выхады.

З вонкавага боку вадзянога рова ішла шырокая дарога, якая баранілася невысокім земляным насыпам. З захаду і з поўначы ад насыпу знаходзіўся роў, а з астатніх бакоў — глыбокія ставы.




План першага паверха замка ў Нясвіжы паводле А. Квітніцкай

З захаду падыход да замкавай брамы ўмацоўваўся трохкутным шанцам *, ад якога адыходзілі дзве дарогі. Каб абараніць подступы да замка з паўночнага боку, насупраць яго, на левым беразе р. Ушы, быў вялікі бастыён, які кантраляваў подступы да моста.

Усё вышэй сказанае дазваляе сцвярджаць, што Нясвіжскі замак стаў родапачынальнікам нова-

га, бастыённага тыпу новаітальянскай сістэмы ўмацаванняў на Беларусі.

Некалі Нясвіжскі замак лічыўся адным з самых магутных і дасканалых на Беларусі. У ім перабудаванымі карпусамі яны ўтварылі адкрыты двор. Ускладнілася аздабленне фасадаў, сцены пачалі чляніцца пілястрамі *. Вельмі прыгожа выглядаў рызаліт, павышаны на чатыры з



Выгляд Нясвіжа ў канцы XVI стагоддзя. Гравюра Т. Макоўскага

ніколі не бракавала артылерыі, заўсёды быў вялікі гарнізон. У 1654 і 1659 гг. гэта дазволіла вытрымаць доўгія аблогі рускіх войск. Толькі ў 1706 г. войскі шведскага караля Карла XII пасля працяглай аблогі штурмам узялі замак, абрабавалі і ўзарвалі яго магутныя бастыёны.

Адбудаваны зноў у 20-я гады XVIII ст., Нясвіжскі замак паступова страчваў першапачатковыя рысы, істотна змяніўшы сістэму сваёй фартыфікацыі. Мураваныя бастыёны, узарваныя шведамі, саступілі месца новым, земляным.

Што ж да ўнутрызамкавых жылых і гаспадарчых пабудоў, то іх на працягу XVII і XVIII ст. не раз перараблялі, надбудоўвалі і дапаўнялі новымі архітэктурнымі ўстаўкамі. Так, галоўны палацавы корпус у сярэдзіне XVIII ст. перарабілі і надбудавалі, дадаўшы да яго новыя 3-павярховыя аб'ёмы. Разам з двума іншымі

паловай паверхі і завершаны франтонам. Яго ўдалае архітэктурна-мастацкае вырашэнне яшчэ больш падкрэсліваецца пластыкай пілястраў, багатым рэльефным дэкорам і скульптурнымі ўстаўкамі ў стылі позняга барока. Асабліва шчодра ўпрыгожаны шчыт франтона, палі адко-



Нясвіжскі замак. Фрагмент акварэлі І. Пешкі. Канец XVIII ст.

саў абапал рызаліта і міжпілястравыя прамежкі.

У XVIII ст. браму замка перабудавалі, а крылы палаца злучылі двухпавярховай галерэяй.

У агульнай планіроўцы і аб'ёмнай пабудове замка прыкметна тэндэнцыя сіметрычнасці. Яна ў значнай ступені паўплывала на ідэю стварэння палацава-замкавага ансамбля з вялікім адкрытым дваром, абкружаным манументальнымі гмахамі. Сілуэт ансамбля, узмоцнены стройнымі вежамі і вежачкамі, набыў рамантычную прывабнасць, а вада ставоў і маляўнічая зеляніна ландшафтнага парку завяршылі станаўленне палацава-замкавага комплексу — аднаго з найлепшых ва Усходняй Еўропе.



Нясвіжскі замак. Малюнак Н. Орды. Сярэдзіна XIX ст.

Нясвіжскі замак, родавае гняздо тутэйшых Радзівілаў, у свой час быў не толькі вялікасвецкім замкам, але і багатым цэнтрам сярэдневяковага мастацтва. У 12 велічных залах месціліся бібліятэка на 20 тысяч тамоў, партрэтная і карцінная галерэі, што налічвалі звыш 1000 палотнаў, выкананых рознымі вядомымі мастакамі, багатыя калекцыі старажытнай зброі, слуцкіх паясоў, карэліцкіх і нясвіжскіх шпалераў і іншых рэчаў, створаных у асноўным талентам і рукамі запрыгоненых беларускіх сялян і рамеснікаў...

Расказ пра Нясвіжскі замак быў бы няпоўны без характарыстыкі ўмацаванняў прыватнаўласніцкага Нясвіжа, горада, дзе задачы абароны мелі дамінуючае значэнне, і дзе кожны жыхар меў на валах свой участак абароны.

Аснову абароны горада складаў высокі земляны вал, абмураваны з вонкавага боку. Ён меў



Нясвіжскі замак. Паводле малюнка С. Гольца XIX ст.



Гарматы Нясвіжскага замка. Архіўны здымак

выгляд 5-кутніка з 7 бастыёнамі і 4 брамамі. Дзве брамы — Слуцкая і Клецкая — былі вымураваны ў куртынах, а Віленская — з прычыны сваёй важнасці ў стратэгічных адносінах, стаяла, аслоеная бастыёнам. Падыход да яе фланкіраваўся перакрыжаваным агнём. Чацвёртая брама — Замкавая — размяшчалася паміж паўночным участкам вала і вежай-званіцай езуіцкага касцёла. Несумненна, гэтая званіца ў выпадку небяспекі адыгрывала пэўную дапаможную ролю ў абароне Замкавай брамы.

Вакол гарадской фартыфікацыі ішоў роў, які жывіўся вадою з р. Ушы. Перад кожнай брамай цераз гэты роў ляжаў пад'ёмны мост.

Да нашых дзён у Нясвіжы ацалела адна толькі Слуцкая брама, перабудаваная ў 1700 г. Яна ўяўляе сабою тып масіўных бязвежавых брам, з падоўжанай (10,3 м) праезджай часткай, якія з другой паловы XVII ст. шырока распаўсюдзіліся ў Беларусі. У першым ярусе Слуцкай брамы знаходзіўся праезд, які зачыняўся падвойнымі палотнішчамі, каморка вартаўніка і лесвіца, што вяла на другі паверх. Збудаванне ўмацавана магутнымі контрфорсамі. Масіўнасць падкрэсліваецца неглыбокім рэльефам дэкору.

# ГАЛЬШАНСКІ ЗАМАК

Паселішча Гальшаны з драўляным замкам, вядомае па летапісах з XIII ст., узнікла на высокай самароднай гары па-над р. Карабель, на паўночны ўсход ад мястэчка Гальшаны. Князі Гальшанскія валодалі замкам да 1525 г., а потым, пасля шлюбу князёўны Алены Гальшанскай з Паўлам Сапегам, ён перайшоў ва ўладанні Сапегаў. Пры Сапегу рэзідэнцыю перанеслі на бераг р. Лусты (Жыганкі).

Гальшанскі мураваны замак, узведзены ў першай палове XVII ст.— наглядная ілюстрацыя тых значных змен у архітэктуры, якія адбыліся на працягу стагоддзя. Сваёй кампазіцыяй ён аддалена нагадвае Мірскі замак і ўяўляе сабой прамавугольны (88,6×95,6 м) замкнуты будынак. Жылыя карпусы з вежамі на вуглах утвараюць, як і ў Міры, замкнёны квадратны двор. Аднак магутныя абарончыя сцены, характэрныя для замкавага будаўніцтва XVI ст., у Гальшанах саступілі месца фасаду жылога дома. Тут ужо няма надбрамнай вежы, а нарожныя 6-кантовыя вежы сталі меншыя і больш стройныя. У іх размяшчаліся жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Вежы яшчэ канчаткова не страцілі свайго абарончага значэння, аднак аснова абароны Гальшанскага замка перамясцілася ўжо на земляныя магутныя валы і вадзяныя равы, што абкружалі замак. Уязная брама размяшчалася па цэнтры аднаго з доўгіх фасадаў, які з гэтага боку вызначаецца манументальнай прастатой. Арачны партал абрамляўся архівольтам *.

Насупраць замкавай брамы, на процілеглым баку падворка знаходзілася невялікая капліча, убудаваная ў жыллёвы корпус.

Кампазіцыя вонкавага фасада Гальшанскага замка нагадвае адначасныя галандскія замкі Бэсенштэен і Клейдаель пад Антверпенам.

Такое падабенства тлумачыцца тым, што Беларусь, знаходзячыся ў складзе Рэчы Паспалітай, адчувала моцны ўплыў галандска-фламандскай архітэктуры, які быў вынікам ажыўленых культурных і гандлёвых сувязей з краінамі Заходняй Еўропы. З канца XVI і да пачатку XVIII ст. на землях Рэчы Паспалітай рэзідэнцыі магнатаў будаваліся з анфіладнай * планіроўкай памяшканняў, з аркаднымі галерэямі і нарожнымі вежамі. Паводле такога прынцыпу, у прыватнасці, пабудаваны ў канцы XVI — пачатку XVII ст. польскія замкі Баранаў, Красічын, Суха. Архітэктурная кампазіцыя, планіроўка і часткова іх памеры вельмі блізкія і падобныя да архітэктурна-пларіровачных элементаў Гальшанскага замка.

Дрэнная захаванасць замка ў Гальшанах не дазваляе дастаткова поўна вызначыць яго планіроўку. Можна толькі сцвярджаць, што справа ад уваходу знаходзілася вялікая квадратная зала з чатырма калонамі, на якія абапіраліся крыжовыя скляпенні. Сцены залы даўней былі пакрыты багатым жывапісам.



Гальшанскі замак. Малюнак XIX ст.



План першага паверха Гальшанскага замка паводле А. Квітніцкай

Невялікія пакойчыкі ў вежах упрыгожваліся разнастайнаю лепкай.

Пад замкам меліся вялікія скляпы.

Ужо ў XVII ст. Гальшанскі замак ад Сапегаў трапіў да іншых гаспадароў і на працягу стагоддзяў часта пераходзіў з рук у рукі. У 1880 г. уладальнік замка Гарбанёў пачаў узрываць вежы і сцены, а цэглу прадаваў на пабудову карчмы.

Замак патрабуе неадкладнай кансервацыі і рэстаўрацыі.



Гальшанскі замак. Малюнак Я. Драздовіча. 1929 г.

# ЗАМАК У СМАЛЯНАХ

Замак знаходзіцца ў Талачынскім раёне ля в. Смаляны і займае нізкі забалочаны ўчастак на левым беразе р. Адроўкі.

Замак быў пабудаваны ў другім дзесяцігоддзі XVII ст. паводле загаду князя Сямёна Андрэевіча Сангушкі.

Традыцыі мясцовага дойлідства паўплывалі і на выбар будаўнічага матэрыялу, на планавакампазіцыйнае размяшчэнне будынкаў замка, арыентаваных на розныя бакі. Гэта заўсёды і раўнамерна давала святло ўсім пакоям і залам.

Замак быў звычайным для зямель Беларусі прамавугольным у плане збудаваннем. Архітэктурныя аб'ёмы яго, абгароджаныя вонкавай замкавай сцяной, выходзілі ва ўнутраны двор. Унутраныя карпусы Смалянскага замка былі трохпавярховыя. Папярочныя перагародкі падзялялі іх на асобныя памяшканні з вялікімі аконнымі праёмамі, што выразна выяўляе вялікасвецкі характар будынка.

Руіны замка сведчаць, што ён меў увогуле традыцыйную на тыя часы арачную браму-ўезд вежападобнай формы, па вышыні роўную жылым карпусам замка.

На кожным рагу комплексу стаялі нарожныя вежы, якія тады выконвалі ўжо ролю звычайных жылых памяшканняў, пра што сведчаць вялікія вокны.

Высотнай дамінантай Смалянскага замка была пяціпавярховая вежа, што стаяла блізка ля ўваходнай брамы. Пяцівугольная ў плане, яна, як, верагодна, і ўсе вежы замка, вызначаецца вытанчаным рэльефным дэкорам, які мякка кантраставаў з гладкімі паверхнямі сцен. Арнамент аконных праёмаў і плоская ордэрная размацоўка вежаў сведчаць пра стылістычную сувязь з заходнееўрапейскай архітэктурай. Асабліва прыгожа выглядае рамка-картуш усходняй грані пяціпавярховай вежы.

У матывах складанага рэнесанснага абрамлення даследчыкі прасочваюць галандскія ўплывы.

У сярэдзіне вежы была вінтавая лесвіца.

Унутранае афармленне замка з прычыны яго каласальнага разбурэння ўявіць цяжка. Вядома, праўда, што на схіле жыцця гаспадар замка князь С. А. Сангушка загадаў расписаць пакоі карцінамі на рэлігійныя сюжэты, пераважна на тэмы смерці і забыцця.

Знешне ж замак меў рысы светлага, прыгожага палацавага збудавання, абкружанага вадою і мяккай зелянінай мурожных паплавоў.

Знаходзячыся блізка да ўсходніх рубяжоў Вялікага княства Літоўскага, Смалянскі замак, як і ўсё наваколле, не раз перажываў ліхія часіны. Не прайшлі міма яго руска-польская вайна сярэдзіны XVII ст. і Паўночная вайна. Замак моцна пацярпеў, але быў, відаць, яшчэ не зусім разбураны.

З інвентара Смалянскага замка за 1739 і 1742 г., калі ён належаў маршалку Вялікага княства Літоўскага Паўлу Любартавічу Сангушку, вынікае, што «...замак мураваны на капцы», быў вакол «вадою абліты». Перад ім ляжаў стаў з мостам і парэнчамі. У муравай замкавай браме вароты былі зроблены з добрых сасновых дошак, папрыбіваных вялікімі цвікамі і акаваных жалезнымі рэйкамі. Увайшоўшы на дзядзінец, злева можна было ўбачыць вялікі склеп. У пакоях стаялі печы з белай кафлі з гербам «Пагоня». Натуральна, што ў замку жылі толькі гаспадары з прыслугаю. Розныя падсобныя службы — «двор» — знаходзіліся за ставам.

Цікава выглядалі і самі Смаляны, у прыватнасці іх цэнтр. Пасярод «места» стаяла ратуша з добрага сасновага дрэва, з купалам над дахам, «пабітым гонтамі». На тым купале, па краях абабітым бляшанымі паясамі, узвышаўся дзяржаўны герб — «пагоня мядзяная, пазалочаная малярскім золатам». Паблізу ратушы знаходзілася двухпавярховая важніца, пры ёй высокі ганак з парэнчамі і точанымі балясінамі. Адсюль пачыналіся рады гандлёвых крам і хаты жыхароў з гародамі і гаспадарчымі пабудовамі.

Заняпад і разбурэнне Смалянскага замка пачаліся з канца XVIII ст., а давяршыліся ў сярэдзіне XIX ст., калі новы гаспадар Смалян сенатар Сямёнаў прадаў замак на цэглу.



Руіны Смалянскага замка. З акварэлі І. Пешкі. Канец XVIII ст.



Замак у Гайцюнішках. Сучасны выгляд

## ГАЙЦЮНІШКІ

Яркай ілюстрацыяй эпохі сярэдневякоўя, яе атмасферы заўсёдных феадальных міжусобіц і звад з'яўляецца жылы дом феадала пачатку XVII ст. у в. Гайцюнішкі Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Гэты дом, пабудаваны ў выглядзе мініяцюрнага замка памерамі 15×34 м, мае на кожным рагу невялікую абарончую вежу цыліндрычнай формы. Усе вежы прарэзаны невялікімі цыркульнымі вокнамі-байніцамі. Дом двухпавярховы, і толькі цэнтральная частка, зробленая ў выглядзе прамавугольнай вежы, трохпавярховая. Тут размешчана арка галоўнага ўваходу.

Першы паверх замка адводзіўся разнастайным службам. Верхнія пакоі займалі гаспадары. Пад будынкам меліся вялікія скляпы.

Падобна ўсім збудаванням абарончага тыпу, сцены Гайцюнішскага дома-замка былі таўшчынёю каля 1,5 м. Перакрыцці скляпеністыя. На фасадах амаль няма архітэктурнага дэкору, а мастацкая выразнасць дасягаецца за кошт аб'ёмнай пабудовы, круглых вежаў і высокага даху.

Гэты невялікі замак узведзены ў 1613 г. паводле праекта Пятра Нонхарта, галандскага інжынера-эмігранта, які загадваў у Вільні каралеўскімі будынкамі. Яму і належаў замак. Пазней, пасля смерці Нонхарта, у 1633 г. замак перайшоў да мастака Шрэтэра. Пры ім сцены некаторых пакояў былі распісаны карцінамі — сцэнамі з паляванняў. У розныя часы замкам уладалі Храптовічы, Сакены, Рымшы.

Вядома, што пад час Паўночнай вайны тут абараняліся ад польскіх войск шведы.




План першага паверха замка ў Гайцюнішках паводле Ул. А. Чантурыі

Фасады замка ў Гайцюнішках паводле Ул. А. Чантурыі





# IV. УМАЦАВАНЫЯ ХРАМЫ

Сярэдневяковае ваеннае дойлідства на Беларусі развівалася не адасоблена, а ў цеснай і плённай сувязі з культурай як бліжніх суседзяў (паўночна-заходнія раёны Русі, Прыбалтыка, Польшча), так і з далёкімі заходнееўрапейскімі краінамі — Чэхіяй, Германіяй, Францыяй, Італіяй і Галандыяй. Найноўшыя дасягненні ў тактыцы і сродках нападу і абароны атрымлівалі на Беларусі сваю інтэрпрэтацыю, увасабляючыся ў абарончыя збудаванні, якія ўзводзіліся на трывалым грунце мясцовых будаўнічых традыцый. Таму тагачаснае ваеннае дойлідства беларускіх зямель не толькі адпавядала ўсім ваенным патрабаванням, але і захоўвала выразныя нацыянальныя рысы, мела свой непаўторны, адметны каларыт.

Гэтыя рысы даволі поўна і выразна адбіліся і ў царкоўнай архітэктуры XV—XVII ст., калі на Беларусі, як і ў іншых краінах Еўропы, адбывалася энергічная інкастэляцыя храмаў, г. зн.ператварэнне іх у своеасаблівыя замкі. У першыя інкастэляцыі цэрквы, касцёлы, кляштары і сінагогі сталі набываць элементы абароны: сцены будаваліся высокія і тоўстыя. На вуглах будынкаў або над уваходам у іх узводзіліся вежы з разнастайнымі байніцамі. Абарончыя прыстасаванні рабілі таксама і ў франтонах. Сутарэнні храмаў ператвараліся ў склады ваеннага рыштунку і прадуктаў, а ў вежах нярэдка размяшчаліся студні.

Вакол такіх будынкаў узводзіліся валы з драўлянымі ці муранымі сценамі, а нярэдка — і з вежамі або бастыёнамі. Такія збудаванні нагадвалі невялікія, але моцна ўфартыфікаваныя замкі, тым больш, што часта замест вокнаў у іх былі толькі байніцы. У абароне гарадоў і асобных зямель такія храмы адыгрывалі немалую станоўчую ролю.

Невядома, ці існавалі на землях Старажытнай Русі да XIII ст. абарончыя храмы. Між тым, у краінах Заходняй Еўропы — Германіі, Францыі, Даніі, паўднёвай Швецыі, Англіі, Польшчы, Чэхіі — яны былі ўжо ў XII—XV ст.

XV—XVII ст. — перыяд найбольш актыўнай інкастэляцыі храмаў у краінах Заходняй і Усходняй Еўропы. Гэта быў час, калі адбываўся працэс утварэння вялікіх і малых еўрапейскіх дзяржаў, калі вяліся частыя і працяглыя феадальныя і рэлігійныя войны.

У XV—XVII ст. працэс інкастэляцыі храмаў не абмінуў і зямель Вялікага княства Літоўскага, і ў прыватнасці Беларусі. Новы напрамак у беларускай архітэктуры быў выкліканы пэўнымі ўнутранымі і знешнімі гістарычнымі прычынамі, надзённымі сацыяльна-палітычнымі задачамі тагачаснага грамадства, патрэбы якога ён павінен быў задаволіць. Паспяховае развіццё інкастэляцыі на беларускіх землях забяспечвалася трывалай эканамічнай базай, даўнімі будаўнічымі традыцыямі і наяўнасцю высокакваліфікаваных кадраў дойлідаў. Як і ў суседніх народаў, асноўнай прычынай інкастэляцыі была пагроза знешняй небяспекі. Сваю ролю адыгралі таксама Рэфармацыя і Контррэфармацыя, вострая рэлігійная барацьба, якая асабліва ўзмацнілася ў XVI—XVII ст.

Таму ў многіх гарадах Беларусі, асабліва ў парубежных, узнікла шмат абарончых храмаў. Іх размяшчалі ля гарадскіх брам, на подступах да замкаў і ў іншых стратэгічна важных месцах. Стоячы адзін пры адным, такія будынкі стваралі дадатковы мураваны пояс абароны, які праціўніку даводзілася браць штурмам.

Інкастэляваныя храмы пачалі ўзнікаць і ў сельскай мясцовасці. Немалаважную ролю ў гэтым ігралі таксама звады і міжусобныя войны паміж магнатамі. Многія з іх мелі свае ўласнае войска і, каб паквітацца з ворагам, ужывалі любыя сродкі. Ад такіх прыватных войнаў і наездаў больш за ўсё цярпеў вясковы люд, сховішчам для якога звычайна станавіліся касцёл ці царква — нярэдка адзіны ў акрузе мураваны будынак, узведзены рукамі тых самых простых сялян. Паколькі сярод беларусаў былі і праваслаўныя, і католікі, дык і абарончымі храмамі былі і цэрквы, і касцёлы. Прыстасоўваліся да абароны і кальвінскія зборы, а таксама асобныя сінагогі.

Безумоўна, пераацэньваць абарончыя якасці храмаў не варта, бо процістаяць вялікаму войску яны не маглі. Аднак гэтыя вясковыя крэпасці давалі адпор тым невялікім варожым атрадам, якія ў час ваенных падзей рабавалі і спусташалі край. У выпадку сялянскага паўстання за мурамі храма шукаў паратунку мясцовы прыгнятальнік-феадал. Але, захоплены паўстанцамі, храм мог стаць і для іх моцным апорным пунктам.

## ПОЛАЦКАЯ САФІЯ

У канцы XV — пачатку XVI ст. на Беларусі ўзнік і потым зрабіўся характэрным для беларускай сярэдневяковай готыкі тып цытадэльнага царкоўнага будынка, умацаванага з дапамогай нарожных вежаў. Пачынальніцай новага тыпу храмаў стала славутая Полацкая Сафія, перабудаваная на рубяжы XV і XVI ст. у пяцівежавую царкву-замак. Пятая вежа ўзвышалася над самым цэнтрам храма.

Узнікненне такога тыпу збудаванняў менавіта ў стольным Полацку заканамернае, бо гэты багаты і людны гандлёва-рамесніцкі горад на ўсходнім рубяжы Вялікага княства Літоўскага лічыўся тады «ключом ад Лівоніі і самой Літвы». Валодаць такім «ключом» хацелі і Лівонія, і Маскоўская дзяржава, не кажучы ўжо пра вялікакняскую ўладу. Рэальная пагроза знешняй небяспекі ставіла тут інкастэляцыю храмаў на парадак дня.

Інкастэляваныя пяці- і чатырохвежавыя храмы — вынік развіцця своеасаблівага архітэктурнага стылю беларускай готыкі, яркі ўзор сінтэтычнасці і арганічнасці гэтага стылю, які ўдала спалучыў усе папярэднія дасягненні мясцовай

грамадзянскай і ваеннай архітэктуры. Беручы свае вытокі ў замкавым дойлідстве XIV ст., дзе тып пабудовы з баявымі нарожнымі вежамі ўпершыню пазначыўся, ён прайшоў прыкметны шлях развіцця ў прыватнаўласніцкім замкавым будаўніцтве, дзе, нарэшце, усталяваўся тып кампактнага, невялікага і добра ўмацаванага будынка. Рацыяналізм быў адным з найгалоўных фактараў, які ва ўмовах няспынных войнаў паскорыў пераход выпрабаваных архітэктурных элементаў з ваеннай архітэктуры ў царкоўную.



Полацкія замкі. З акварэлі С. Пахалавіцкага 1579 г.

Пяцівежавая Полацкая Сафія праіснавала на Верхнім замку (з некаторымі пераробкамі) да 1710 г. Малюнкі храма 1578 і 1707 гг. сведчаць, што гэта быў, на першы погляд, звычайны замак з вежамі, байніцамі і кованай герсай над уваходам. У час аблог Полацка царква рабілася прытулкам для заможных гараджан, тут захоўваліся святыні і скарб горада; у Сафіі адбываліся і найбольш урачыстыя сходы гараджан. У 1607 г. у час пажару Сафійскі сабор згарэў, але хутка быў адноўлены і ў ім пачалі захоўваць земскія і гарадскія кнігі Полацкага ваяводства. Аднак нарожныя баявыя вежы былі паніжаны на адзін паверх, а сярэднюю вежу, прыгожа аздобіўшы, зрабілі яшчэ больш высокай.

Яшчэ раз царква аднаўляла свой выгляд пасля пажару 1643 г. У час Паўночнай вайны у скляпах Сафіі зрабілі склад боепрыпасаў, які ў маі 1710 г. узарваўся. Храм быў знішчаны. Яго ў 1738—1750 гг. перабудавалі ў двухвежавы барочны касцёл. На Ніжнім замку існавала яшчэ адна пяцівежавая царква, амаль дакладная копія Сафійскага сабора.

Выразныя абарончыя рысы мелі і іншыя царкоўныя збудаванні ў Полацку. На плане горада 1707 г. добра відзён комплекс будынкаў езуіцкага калегіума і езуіцкага касцёла, які закрываў падыход да моста цераз абарончы роў Верхняга замка. Касцёл бернардынскага кляштара меў вежу з трыма ярусамі байніц. Праваслаўная чатырохвежавая царква, падобная Сафіі, таксама магла абараняцца ў выпадку небяспекі. Недарэмна, відаць, размешчаны ля подступаў да замка масіўны будынак двухпавярховай яўрэйскай школы.

Полацкія інкастэляваныя храмы, бясспрэчна, сталі прататыпамі для іншых падобных пабудоў, напрыклад, для Супраслеўскай Дабравешчанскай, а таксама Сынковіцкай і Маламажэйкаўскай цэркваў.

Выгляд Сафіі Полацкай у XVI—XVIII ст. паводле іканаграфічнага матэрыялу














Царква ў Супраслі. Выгляд да другой сусветнай вайны

Унізе: Супрасль. Гравюра паводле малюнка В. Дмахоўскага першай паловы XIX ст.



# СУПРАСЛЕЎСКАЯ ДАБРАВЕШЧАНСКАЯ ЦАРКВА

Супраслеўскі абарончы храм быў збудаваны ў 1503—1510(11) гг. у глухой Блудаўскай пушчы на р. Супраслі, непадалёку ад Беластока (цяпер тэрыторыя ПНР). Шмат зрабіў для будаўніцтва храма смаленскі епіскап Іосіф Солтан, які пазней стаў кіеўскім мітрапалітам і асвяшчаў храм пасля яго ўзвядзення.

Царкву будавалі ў гады войнаў Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай і крымскімі татарамі. Якраз тады ішло інтэнсіўнае будаўніцтва ўмацаванняў у суседніх Беластоку, Тыкоціне, Кнышыне і іншых гарадах. А. Хадкевіч таксама ўзводзіць у Гарадку ўмацаваны замак і ўласныя харомы, а ў 1510 г. заканчвае будаўніцтва ўмацаванай Супраслеўскай царквы, значэнне якой ён недвухсэнсоўна падкрэсліў у сваёй грамаце: «Абы тот монастырь... на нашей отчизне твёрдо на веки стоял **нашим споможением**». У плане будынак меў выгляд выцягнутага і крыху перакошанага чатырохкутніка памерам 33×13 м, з чатырма круглымі нарожнымі вежамі, арганічна злучанымі з мурамі і трохграннай апсідай. Адзіны ўваход з захаду абараняўся герсаю, якая спускалася на ланцугах праз спецыяльны праём.

Двухсхільны дах меў 4 франтоны-шчыты, размешчаныя паміж вежамі. Над дахам узвышаўся 28-метровы вежападобны купал, які, відаць, служыў назіральным пунктам.

Цокальную частку будынка ўпрыгожваў сеткавы арнамент з цэглы-жалезняку. Уверсе ішоў пояс байніц-машыкуляў і зубчасты арнамент.



Фасад і план Супраслеўскай царквы паводле А. Шышкі-Богуша

У адрозненне ад Сынковіцкай і Маламажэйкаўскай цэркваў у Супраслеўскім храме байніцы былі зроблены і з усходу, над алтаром.

Чатыры вежы-васьміграннікі ў вышыню былі роўныя з вільчаком на даху. Асаблівая ўвага акцэнтавалася на абароне заходняга фасада будынка з уваходам. Ён фланкіраваўся агнём з вежаў, а падыходы абстрэльваліся з байніц франтона і машыкуляў.

Элементы гатычнай архітэктуры выразныя ў Супраслеўскай царкве. Гэта — спічастыя аркі аконных праёмаў і парталаў і сам інтэр'ер з яго разнастайнымі скляпеннямі — зорчатымі, крыжовымі, сеткавымі або сотавымі.

У сярэдзіне XVI ст. храм размалявалі высокамастацкімі фрэскамі, якія ўпрыгожвалі сцены, скляпенні і падкупальныя слупы.



Супраслеўская царква. Малюнак В. Гразнова. Другая палова XIX ст.

Царква вызначалася яснасцю і дакладнасцю архітэктурных чляненняў, кампактнасцю і суладдзем усіх аб'ёмаў, умелым спалучэннем канструкцыйных прынцыпаў з багатым дэкорам, што надавала будынку вялікую мастацкую сілу.

Супраслеўская царква, бясспрэчна,— адзін з выдатных помнікаў сярод інкастэляваных храмаў, дзе своеасаблівы архітэктурны стыль беларускай готыкі праявіўся найбольш поўна.

# СЫНКОВІЦКІ ХРАМ

Дакладны час збудавання Сынковіцкай Міхайлаўскай царквы (Зэльвенскі раён Гродзенскай вобласці) невядомы, але агульная гатычная канструкцыя і зорчатае скляпенне дазволілі даследчыкам найбольш верагодным часам лічыць канец XV — пачатак XVI ст.

У розныя часы помнік вывучалі даследчыкі архітэктуры А. Шышка-Богуш, М. Сакалоўскі, Г. Вераб'ёў, Ю. Зубрыцкі, І. Ядкоўскі, М. Шчакаціхін і інш. Цікавыя замалёўкі храма зрабіў у другой палове XIX ст. беларускі краязнаўца і мастак В. Гразноў.

У плане Сынковіцкая царква нагадвае крыху выцягнуты і перакошаны прамавугольнік памерам 17,5×13 м, з трохнефным чляненнем. Усе нефы * маюць амаль аднолькавую 4-метровую шырыню. Таўшчыня сцен — 1,5 метра. Муроўка гатычная, часткова мяшаная, з цэглы памерам 26,5×15×7 см, пакладзенай на вапне. Высокі двухсхільны дах надае будынку абрысы стромкасці і лёгкасці.

Чатыры вежы, размешчаныя па вуглах будынка, розняцца між сабой памерамі і архітэктурнымі формамі. Дзве вежы, што фланкіруюць заходнюю сцяну і ўваход, стаяць на квадратных падмурках і падпіраюцца з трох бакоў контрфорсамі. Верхняя палавіна вежаў — 8-граннік з трыма ярусамі markнавялікіх байніц. Ніжні рад байніц разлічаны на абстрэл бліжэйшых падыходаў да сцен будынка. Гэта фактычна байніцы падэшвеннага бою.

Дзве ўсходнія вежы цыліндрычнай формы і таксама маюць байніцы.

У сярэдзіне вежаў ёсць лесвіцы, якія калісьці вялі да байніц, размешчаных у франтоне і на паддашку. Верхняя частка ўсіх сцен, апрача ўсходняй, ахоплена магутнай аркатурай, што трымаецца на прыступкавых патроеных кранштэйнах. У прамежках паміж аркамі — круглявыя байніцы, якія ідуць амаль усутыч з ніжнімі байніцамі вежаў. Уверсе, па-над байнічнымі праёмамі, зроблены круглыя назіральныя адтуліны, што дазваляла абаронцам сачыць за дзеяннямі праціўніка і весці агонь на далёкую адлегласць.

Большасць байніц мае выгляд выцягнутых у даўжыню 4-кутнікаў, якія пашыраюцца вонкі. Унутры байнічных камер, унізе, ёсць некалькі прыступак, дазваляўшых весці стральбу як на далёкую, так і на блізкую адлегласць.

Байніцы Сынковіцкай царквы ў першую чаргу служылі мэтам абароны. Аднак яны былі і немалаважным элементам і сродкам упрыгожання вонкавых сцен будынка. Усе ярусы баёў надавалі будынку суровы выгляд гатовага да адпору невялікага замка.

Асабліва ўмацаваны заходні бок царквы з уваходам. У шчыце франтона — ярусы разнастайных байніц. У самай верхняй частцы ўжыт своеасаблівы і рэдкі архітэктурны элемент — «ліхтарык», які быў замест назіральнага пункта.

Сістэма і плаліроўка абарончых прыстасаванняў Сынковіцкай царквы пераклікаецца з падобнымі прыстасаваннямі ў тагачасных помніках замкавай архітэктуры.

Інтэр'ер царквы мае выгляд залы. Гэтага ўражання не парушаюць нават 6 гранёных слупоў, на якія абапіраюцца крыжовыя скляпенні з нервюрамі, і тры паўкруглыя апсіды.



План Сынковіцкага храма паводле А. Шышкі-Богуша

Будынак царквы мае выразныя элементы раманскай і гатычнай архітэктуры. Прыкметы раманскай — неглыбокія, разнастайныя па форме і памерах атынкаваныя і пабеленыя нішы ў шчыце франтона, вельмі падобныя на нішы Мірскага замка. Яны здымаюць уражанне важкасці і масіўнасці і надаюць будынку пэўную яркасць і лёгкасць. На ўсходніх вежах і алтарных апсідах, прыблізна на вышыні 3 метраў, ёсць дэкаратыўны паясок у выглядзе плоскай рэльефнай аркатуры з паўцыркульных арак раманскага тыпу, што абапіраюцца на маленькія кранштэйны. Такая аздоба вельмі арганічна спалучаецца з арачным поясам байніц. Вытрыманая ў адным характары і рытме, яна стварае своеасаблівы эфект у алтарнай частцы. Высокі конусападобны дах над алтарнымі апсідамі адпавядае высокаму трохкутніку ўсходняга франтона. Гэта супярэчыць традыцыйна-візантыйскаму плану апсід, але, разам з тым, не сустракаецца і ў помніках царкоўнай готыкі. Хутчэй за ўсё тут адчуваецца прыём завяршэння замкавых вежаў з вокнамі, паднятымі высока над зямлёю. Варта таксама адзначыць, што ў верхніх частках апсід размешчаны групы

дэкаратыўных арачак, якія ўтвараюць агульнае аснаванне для даха над апсідамі.

Яўныя элементы готыкі — спічастыя аркі аконных праёмаў з жалезнымі кратамі, зорчатае скляпенне правай апсіды храма і, нарэшце, высокі двухсхільны дах.

ларусь, і ў прыватнасці яе заходнія землі, была своеасаблівым рубяжом, які аддзяляў дзве культуры, два стылі — заходні, гатычны і ўсходні, руска-візантыйскі. Гэты рубеж не быў глухім, бо вышэйпазначаныя культуры і стылі перахлёствалі праз яго, узаемаўплываючы і ўзбагачаючы





Заходні і паўднёвы фасады храма ў Сынковічах паводле Ул. А. Чантурыі

Аналізуючы планавую кампазіцыю будынка, нельга не заўважыць невялікай перакошанасці плана, скрыўленасці восі апсід у адносінах да восі нефаў. Гэта наводзіць на думку, што храм будавалі мясцовыя майстры, якія для разбіўкі плана карысталіся простымі, не вельмі дакладнымі вымяральнымі інструментамі. Аднак гэта не пашкодзіла ім стварыць бліскучы помнік сваёй трывожнай эпохі.

Вызначаючы месца Сынковіцкага храма ў агульным шэрагу роднасных яму пабудоў і ў гісторыі беларускага абарончага дойлідства, неабходна адзначыць, што па сваіх архітэктурных вартасцях ён стаіць на ўзроўні помнікаў сусветнага значэння. Будынак на дзіва гарманічна ўвабраў у сябе стылёвыя рысы позняй готыкі і традыцыйныя формы і рашэнні ўнутранай планіроўкі старажытных храмаў эпохі Кіеўскай Русі. Ён нясе на сабе адначасова выразныя адбіткі рэнесансу.

Усе гэтыя стылёвыя асаблівасці, пераасэнсаваныя мясцовымі будаўнікамі ў адпаведнасці з векавымі традыцыямі беларускай архітэктуры, спарадзілі новы гістарычна-яркі ўсплеск беларускага дойлідства, якое найбольш выразна знайшло сваё ўвасабленне ў храмах, падобных Сынковіцкаму. Такое спалучэнне розначасовых архітэктурных стыляў і форм тлумачыцца тым, што Беадзін другога. І толькі трывалая сувязь з народным дойлідствам, традыцыі і наяўнасць высокакваліфікаваных кадраў дазволілі тагачаснай беларускай архітэктуры не толькі захаваць сваё на-



Сынковіцкі храм. Выгляд з паўднёвага захаду. Здымак пачатку XX ст. С. Забароўскага

цыянальнае аблічча, але і прыкметна ўзбагаціцца за кошт рускай і заходнееўрапейскай культур. Такі сінтэз паспрыяў узнікненню і станаўленню самабытных рыс беларускай готыкі, якая знайшла сваё ўвасабленне як у грамадзянскім, так і ў культавым будаўніцтве.

Сынковіцкая царква — гэта адно са звенняў у ланцугу інкастэляваных пяцівежавых храмаў, пачатак якім паклала на рубяжы XV і XVI ст. Полацкая Сафія. Храм таксама наглядна паказвае, як паступова ішло спрашчэнне сістэмы абароны такіх пабудоў ад 5-вежавых да 2- і 1-вежавых храмаў. Дакументы дазваляюць гэта прасачыць і на прыкладзе самой Сынковіцкай царквы. Так «Акт візітацыі Сынковіцкага храма за 1760 рок» сведчыць, што пасярод даху царквы знаходзіўся вежападобны «купал з жалезным крыжам». Меў гэты купал якоесьці абарончае прызначэнне або

ў 1760 г. ужо існаваў мураваны бабінец. У спецыяльнай літаратуры, між тым, лічылася, што бабінец узвялі дзесьці паміж 1841 і 1881 г. пад час аднаго з рамонтаў. Сведчанне акта 1760 г. не пярэчыць нашаму меркаванню, што бабінец быў узведзены калі не адначасова з храмам, дык ва ўсякім разе не пазней XVI ст. На карысць гэтага і тэхніка яго муравання. Цікава, што дубовыя дзверы ўнутр будынка былі абабіты жалезам і мелі трывалыя запоры. Яны разам з каванаю герсаю і дзвярыма бабінца надзейна запіралі ўваход унутр.

Нарэшце, акт візітацыі 1760 г. дазваляе падступіцца да вельмі важнага пытання — аб часе ўзвядзення Сынковіцкага храма. Да гэтага часу лічылася, што Сынковіцкі інкастэляваны храм узведзены ў канцы XV — пачатку XVI ст. Акт 1760 г. паведамляе, што будынак быў фундава-



Скляпенні Сынковіцкага храма паводле І. Ядкоўскага



Сынковіцкі храм. Малюнак В. Гразнова. Другая палова XIX ст.

не — сказаць сёння з упэўненасцю нельга. Хутчэй за ўсё не. Але стылістычныя сувязі пабудовы з 5-вежавымі Сафіяй Полацкай і Супраслеўскім храмамі відавочныя, і факт гэты знамянальны. Цікава, што і купал захаваўся ажно да канца XVIII ст. і знік, відаць, пад час аднаго з пазнейшых рамонтаў будынка. Акт візітацыі паведамляе аб тым, што ў кожнай нарожнай вежы меўся склеп. Вялікі склеп знаходзіўся і пад падлогай храма.

Мы знаходзім тут паведамленне і аб тым, што

ны ў часы каралевы Боны, а гэта значыць дзесьці паміж 1518 і 1556 гг. Такім чынам, першая палова XVI ст., хутчэй за ўсё яго сярэдзіна, з'яўляецца найбольш верагодным часам узвядзення Сынковіцкай царквы — выдатнага архітэктурнага помніка Беларусі.

Выгляд яе з цягам часу застаўся амаль нязменным. Толькі знік купал над сярэдзінай даху ды ў 1891 г. перад уваходам збудавалі мураваную званіцу, якая, на жаль, выпадае з агульнай стылістыкі будынка.

усходні дзеліцца гарызантальнай паласой на дзве часткі. У ніжняй частцы дзве пары нішаў, а ў верхняй — тры нішы, сапсаваныя пераробкай пад звычайныя вокны.

Сцены «Мураванкі» аздоблены рознымі дэкаратыўнымі элементамі. Пераважна гэта шматлікія неглыбокія нішы разнастайных форм. Пабеленыя, яны яркімі плямамі вылучаліся на фоне цаглянай кладкі будынка і зніжалі ўражанне манументальнасці. Своеасаблівыя элементы архітэктуры храма — спараныя паўцыркульныя нішы з невялікім замкам, а таксама круглае акно ў цэнтры заходняй сцяны, уласцівае помнікам раманскай і гатычнай архітэктуры.

Дэкорам аздоблены не толькі заходні франтон, але і бакавыя фасады, алтарная апсіда і вежы. Унізе праз увесь будынак ідзе стужка традыцыйнага парэбрыка — рад цаглін, пакладзеных на вугал.

Адзіны ўваход у заходняй сцяне раней зачыняўся жалезнымі дзвярыма і меў абарончую рашотку-герсу, што спускалася зверху на ланцугах праз спецыяльны праём.

тыкі. І асабліва выразна гэта праявілася ва ўнутранай канструкцыі. Увесь будынак перакрыты з дапамогай вельмі складаных зорчатых скляпенняў з рэзка прафіляванымі нервюрамі, якія ў некаторых месцах пераходзяць у крышталёвыя скляпенні, дзе нервюры касцяк зліваецца з распалубкамі перакрыццяў. Нервюры густымі пучкамі сыходзяцца да цэнтральных слупоў, абапіраючыся з другога боку на кранштэйны сцен, утвараючы ромбы і трохкутнікі. Уся сістэма скляпенняў тут больш развітая і сведчыць пра ўдасканаленне прыёмаў гатычнага будаўніцтва і шырокае разуменне багатых дэкаратыўных магчымасцей гатычных канструкцый.

Нягледзячы на агульнае падабенства з Сынковіцкай царквой, Маламажэйкаўская мае і свае істотныя адрозненні — сіметрычны і правільны план, больш багатае знадворнае аздабленне і значна слабейшую сістэму байніц.

За час свайго існавання «Мураванка» неаднойчы цярпела розныя выпрабаванні. Так, у 1656 г., пад час руска-польскай вайны, яна была моцна пашкоджана, і аднавілі яе толькі праз не-





Заходні і паўднёвы фасады царквы ў Маламажэйкаве паводле Ул. А. Чантурыі

Усярэдзіне «Мураванкі» адзіная апсіда займае ўсю шырыню храма і ўспрымаецца як арганічны працяг залы. Зальны характар унутранага аб'ёму не парушаюць 4 калоны, якія падзяляюць памяшканне на 3 амаль аднолькавыя па вышыні нефы, з якіх сярэдні дасягае амаль 12 м вышыні.

Маламажэйкаўская царква у параўнанні з Сынковіцкай — як бы яшчэ адзін крок да го-

калькі гадоў. У 1706 г. войскі Карла XII, ідучы праз Жалудок да Палтавы, па загаду караля абстралялі замак-царкву, якая ўразіла яго сваім незвычайным выглядам.

Пасля гэтых падзей храм запуставаў, і аднавілі яго толькі ў 1822 г. Рамонт 1871—1872 гг. змяніў першапачатковае аблічча будынка. Заходнія вежы былі ўзняты на цэлы сажань і ў адной з іх зрабілі званіцу. Ва ўсходніх вежах лесвіц ужо





Скляпенні Маламажэйкаўскай царквы

Маламажэйкаўская царква. Малюнак В. Гразнова. Другая палова XIX ст.

не было. Частку байніц замуравалі, з'явіўся бабінец, а над уваходам знялі герсу. З невялікімі зменамі фасада «Мураванка» захавалася да нашых дзён.

Аналізуючы планава-кампазіцыйную схему інкастэляваных храмаў тыпу Полацкай Сафіі, неабходна адзначыць, што іх планіроўка роднасная планіроўцы 4-стоўпных храмаў, узведзеных на тэрыторыі Беларусі ў XII—XIII ст. Гэта сведчыць пра пераемнасць традыцый старажытнага будаўніцтва, няспыннасць развіцця беларускага дойлідства, вытокі якога бяруць пачатак з глыбінь гісторыі. Разам з тым гэты тып будынкаў дазваляе прасачыць уплывы на архітэктуру інкастэляваных храмаў вогнестрэльнай зброі, змены якой прыводзілі і да змен у тактыцы аблогі і абароны. Назіраецца паступовы пераход ад 5-вежавых храмаў да 4-вежавых, паступова аслабляецца абарона ўсходняй часткі будынкаў, дзе з часам знікаюць байніцы, а вежы робяцца меншымі па дыяметры і таўшчыні. Сродкі абароны канцэнтруюцца з заходняга боку, дзе размяшчаўся ўваход. У шчыце заходняга франтона робіцца некалькі ярусаў байніц, а нарожныя вежы набываюць большую масіўнасць. Адначасова сістэма перакрыццяў залы ўскладнілася дзякуючы новым канструкцыйным рашэнням, уласцівым готыцы.

Паступова, да канца XVI ст., у інкастэляваных храмах назіраюцца толькі дзве абарончыя вежы, што фланкіравалі галоўным чынам уваход у будынак. Узор такога храма — царква св. Мікалая ў Брэсце, дзе ў 1596 г. абвясцілі вядомую царкоўную унію. У дзвюх вежах Брэсцкай царквы было па тры ярусы байніц. Байніцы былі і ў бакавых сценах будынка. Калі ўлічыць сведчанні сучаснікаў, што тады «ў Брэст з'ехалася нямала актыўных праціўнікаў уніі», становіцца зразумелым, чаму сабор праводзілі менавіта ў гэтай царкве.



Брэсцкая Мікалаеўская царква. Са старадаўняга абраза

# КАМАЙСКІ КАСЦЁЛ

Манументальны абарончы касцёл Іаана Хрысціцеля ў в. Камаі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці — адзін з найбольш позніх інкастэляваных храмаў на землях Беларусі. Будынак пачалі ўзводзіць у 1603 г. і закончылі ў 1606 г. Яго фундатарам быў Ян Рудоміна Дусяцкі — герой славутай Хоцінскай бітвы з туркамі. Імя будаўніка-архітэктара невядома, але мяркуецца, што ім быў мясцовы майстра са сціплымі ведамі ў архітэктуры.

Спачатку храм быў трохапсідны, меў скляпеністае перакрыццё над нефамі, якое абапіралася на чатыры калоны. У гады руска-польскай вайны сярэдзіны XVII ст. касцёл моцна пацярпеў ад пажару. Скляпенні рухнулі. Іх і калоны разабралі і замянілі драўлянымі. Замест трох апсід была зроблена адна.

Абарончы характар будынку надаюць дзве асадзістыя цыліндрычныя вежы, што замыкаюць фасадную сцяну. Ярусы байніц дазвалялі весці актыўны агонь і фланкіраваць уваход. Верхні ярус даваў магчымасць весці агонь на далёкую адлегласць. Два ніжнія ярусы байніц рэдкай чашападобнай формы, з вялікім сектарам абстрэлу, выкарыстоўваліся для абароны непасрэдных подступаў да будынка.

Камайскі касцёл просты па кампазіцыі, мае лаканічны дэкор з элементамі готыкі. Фасад завершаны сціплым трохкутным шчытом з чатырма плоскімі нішамі.

Будынак рэстаўраваўся ў XVII ст., у 1726/36 і 1778 гг.

Як успамін пра шматлікія войны, якія рэдка абміналі Камаі, у сярэдзіне XVII ст. па загаду сына фундатара Пятра Рудоміны ў сцены касцёла ўмураваны ядры ад шведскіх гармат.

У 1778 г. да касцёла прыбудавалі 6-ваконную капліцу, што істотна змяніла яго вонкавы выгляд.

Калі параўноўваць Камайскі храм з Сынковіцкай і Маламажэйкаўскай цэрквамі, то відаць, што ён значна большы за іх сваімі памерамі. Аднак несумненна і роднаснасць планавай кампазіцыі гэтай групы інкастэляваных храмаў, у якой Камайскі касцёл з'яўляецца апошнім звяном. Наяўнасць з боку алтара слядоў двух іншых вежаў дае падставы меркаваць, што ён спачатку быў задуманы як 4-вежавы абарончы храм.



План Камайскага касцёла



Камайскі касцёл. Малюнак XIX ст.

# КАЛЬВІНСКІЯ ЗБОРЫ

Жорсткая рэлігійная барацьба, якая разгарэлася на Беларусі ў другой палове XVI ст. паміж прыхільнікамі і праціўнікамі Рэфармацыі, знайшла сваё адлюстраванне і ў своеасаблівай архітэктуры кальвінскіх збораў — помнікаў новага этапу ў развіцці бесстаўповых храмаў. У архітэктуры збораў спалучаліся элементы позняй готыкі і рэнесансу.

Кальвінскія зборы звычайна мелі мураваныя сцены з вежамі або без іх, абводзіліся землянымі валамі з бастыёнамі. Уваходзілі ў будынак, як правіла, праз адзіную вежу, размешчаную па цэнтры фасада. Высокія вежы звычайна мелі байніцы. Да такога тыпу помнікаў належаць зборы ў в. Асташыне Карэліцкага раёна, Заслаўі Мінскага раёна, Дзяржынску (Койданава) і інш.

Рэфарматарскі збор у Асташыне быў пабудаваны ў канцы XVI ст. Невялікі па сваіх памерах (8,5×12 м) храм меў у плане форму выцягнутага прамавугольніка, які заканчваўся апсідай формы ўсечанага трохкутніка. Тоўстыя, да 2 м таўшчыні сцены, праразаліся шасцю маленькімі вокнамі, якія нагадвалі замкавыя байніцы. З поўдня да памяшкання прыбудавана вежа памерамі 5,9×7,1 м з масіўным кантрфорсам. Яна складалася з чатырох прамавугольных ярусаў, якія памяншаліся ў аб'ёме і вышыні ад ніжняга яруса да верхняга. Пабудаваны на невялікім пагорку, храм узвышаўся над ваколіцай маналітнай мураванай глыбай. Уражанне яшчэ больш узмацняла агароджа 2-метровай таўшчыні, якая абкружыла збор у выглядзе прамавугольніка памерамі 37×30 м.






План Кальвінскага збору ў Асташыне і агульны выгляд. (Даваенны здымак)

Цікава, што тут жа, у Асташыне, да нядаўняга часу існаваў мураваны жылы дом абарончага тыпу. Яго сцены дасягалі таўшчыні 2 м і былі ўмацаваны магутнымі контрфорсамі. Вокны размяшчаліся высока ад зямлі.

Паводле гістарычных звестак дом пабудаваны ў 1670 г. У XVIII ст. маёнтак Асташына належаў Оттэнхаўзам. Пазней, у XIX ст. ім валодалі Грамыкі і Булгакі, а потым Грабоўскія. Цяпер помнік не існуе.




План Заслаўскай царквы

Канструкцыйна блізка да Асташынскага храма стаіць Заслаўская Праабражэнская царква. Яна прысадзістая, мае тоўстыя сцены, упрыгожаныя глухімі байніцамі ў выглядзе вісячага аркатурнага пояса. Мяркуецца, што ў верхніх частках сцен некалі меліся байніцы, але потым у час перабудовы храма, былі заменены дэкаратыўнымі.

Прапорцыі Заслаўскай царквы, у параўнанні з Асташынскім зборам, больш лёгкія. Амаль 30-метровая вежа яе, прыбудаваная пазней, выдаецца стройнай і ўдала дапасаванай да прамавугольнага блока асноўнага будынка. Знутры і звонку сцены храма пачленены пілястрамі, а карнізы апрацаваны рустамі. Аднак, у адрозненне ад Асташынскага храма, тут няма алтара. Стаіць Праабражэнская царква ў цэнтры магутнага бастыённага замка.

Цікавым помнікам сярод групы кальвінскіх збораў з'яўляецца храм у Койданаве, узведзены ў першай палове XVI ст. Ён стаяў на высокім пагорку, т. зв. Гаштольдавай гары, і быў абведзены вадзяным ровам, які злучаўся з р. Няцечай. Праз роў пераходзілі па пад'ёмнаму масту, які падводзіў да каменнага муру з 9 вежамі, прыстасаванымі да абароны. Вежы, накрытыя шатровымі дахамі, мелі таўшчыню сцен каля 1,5 м. Яны былі вымураваны з палявога каменю і цэглы. Нешматлікія байніцы дазвалялі весці кругавы абстрэл і фланкіраваць агнём праслы сцен. Уваход унутр бараніўся традыцыйнай брамай, увенчанай гербам Радзівілаў. Сцены і вежы, відаць, з'ўляліся ўмацаваннямі раней існаваўшага тут






План і агульны выгляд Койданаўскага збору. Даваенны здымак

замка, пад аховай якога і ўзвялі рэфарматарскі храм.

У плане збор меў форму прамавугольнай 3-нефавай залы і гранёную апсіду. У бакавых фасадах размяшчаліся круглыя байніцы. Магутная вежа ўзведзена ў тарцы будынка. Яна квадратная ў плане, але ўверсе пераходзіла ў васьмярык і таксама была забяспечана байніцамі.

Кальвінскі збор у Смаргоні быў вымураваны ў канцы XVI ст. на сродкі ўладальніка Смаргоні Хрыстафора Зяновіча, ваяводы Берасцейскага.




План Кальвінскага збору ў Смаргоні

Смаргонь, вядомая з XV ст., у канцы XVI — пачатку XVII ст. мела выгляд звычайнага мястэчка. Яно было абгароджана парканам, мела ўязныя брамы. Асобна стаяў «двор Смаргоньскі», дзе знаходзіўся дом феадала і гаспадарчыя службы. «Двор» таксама меў драўляную агароджу і 2-павярховую вежу-браму з гадзіннікам.

У цэнтры Смаргоні велічна ўзвышаўся збор. У плане гэты бесстаўповы храм мае выгляд падоўжанага васьмікутніка і з'яўляецца амаль дакладнай копіяй храма св. Віталія ў Равенне (Італія). Пабудова завершана сферычным купалам, прыкрытым знізу высокай сценкай-атыкам *, удэкараванай лапаткамі, парнымі паўцыркульнымі нішамі і гіркамі. Такі дэкор характэрны для зямель Беларусі, Літвы і Польшчы.

Масіўная і вельмі высокая вежа запірала адзіны ў зборы ўваход. Калісьці яна была трохпавярховай. Самы верх вежы займаў гадзіннік, які адбіваў гадзіны і чвэрць гадзіны. На другім паверсе размяшчалася званіца.

Каля ўваходнай вежы, з абодвух бакоў, прымыкаючы да асноўнай пабудовы, стаялі дзве невялікія вежы. Яны не мелі абарончага характару. Даўней тут перахоўваліся кнігі багатай зборавай бібліятэкі. Ацалела толькі адна, правая, вежа. Вядома, што пры зборы была школа, у якой высокаадукаваныя «бакаляры» выкладалі «вызваленыя навукі» — мовы, матэматыку, рыторыку і інш.

У 1612 г. збор быўператвораны ў касцёл, а ў 1867 г.— у праваслаўны храм. Пазней, у 1870 г., знеслі два верхнія ярусы вежы і пабудавалі традыцыйна-праваслаўнае завяршэнне. У час розных войнаў будынак не раз разбураўся. Цяпер вядуцца рэстаўрацыйныя работы, хутка ў будынку будзе адчынены краязнаўчы музей.



Выгляд храма ў Смаргоні ў пачатку XX ст. Архіўны здымак

Такім чынам, адна з выразных і адметных рыс беларускага ваеннага дойлідства сярэдніх вякоў — гэта шырокая інкастэляцыя храмаў, якія мелі важнае значэнне ў абароне зямлі пад час знешняй небяспекі і ўнутраных феадальных усобіц. Храмы гэтыя пакінулі прыкметны след у архітэктуры. Тып прамавугольнага будынка з нарожнымі вежамі стаў у XVI і XVII ст. настолькі распаўсюджаным і традыцыйным, што паводле гэтага ўзору будавалі нават тыя храмы, якія ўвогуле не мелі ніякіх ваенных функцый. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца 2-вежавыя Навагрудскі Барысаглебскі храм XVI ст. і Навагрудскі фарны касцёл XVII ст., 5-вежавая царква ў Глыбокім на Віцебшчыне і многія іншыя, дзе вежы — не былі прыстасаваны для абароны.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Замкі, што разгледжаны ў гэтай кнізе, далёка не поўна адлюстроўваюць усё багацце беларускай зямлі помнікамі ваеннага дойлідства розных эпох. У асноўным тут дадзена характарыстыка мураваным замкам, што збераглісся і існуюць цяпер. Але многія падобныя збудаванні зруйнаваны дашчэнту ў Оршы, Іказні, Мядзелі, Віцебску, Клецку і інш. месцах.

Па-за старонкамі кнігі засталіся драўляныя замкі, якіх у сярэднія вякі было большасць. Пераважная колькасць беларускіх гарадоў мела тады драўляныя ці дрэва-земляныя ўмацаванні, але ніводнае з іх не дайшло да нашых дзён. Не асветленымі засталіся і замкі з бастыённымі ўмацаваннямі, многія з якіх, як напрыклад, у Каравіне пад Пінскам, Слуцку і Ляхавічах здабылі сабе славу непрыступных.

Аналіз дадзеных у кнізе помнікаў ставіць сваёй мэтай зацікавіць чытачоў ваенна-архітэктурнай спадчынай беларускага народа, які прайшоў нялёгкімі шляхамі гісторыі праз шматлікія войны і выпрабаванні. Гэта спадчына павінна паспрыяць пашырэнню эстэтычных ведаў і ўяўленняў аб творчасці старадаўніх майстроў, аб мастацкай вартасці старадаўніх будынкаў, абудзіць свядомую павагу да рукатворнай памяці свайго народа.

Нескаронасць і гордае свабодалюбства беларусаў у найцяжэйшых войнах сваімі каранямі заходзіць у глыбіні гісторыі, у тыя пласты, з якіх мы чэрпаем сілу, веру, надзею і прагу жыцця.

Веру ў будучыню мы знаходзім у гісторыі свайго мінулага і ў рэальнасці сённяшніх вірлівых падзей, знітаваных жыццём у адно непарыўнае цэлае. Захаваць і пранесці ў светлае заўтра лепшыя здабыткі культуры і гісторыі свайго народа — задача кожнага савецкага чалавека — актыўнага будаўніка камунізма.

План Полацка 1707 г.



# СПІС ПОМНІКАЎ ВАЕННАГА ДОЙЛІДСТВА БЕЛАРУСІ IX—XVIII СТ.

## БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### БАРАНАВІЦКІ РАЁН

**в. Вялікае Сяло.** Рэшткі земляных умацаванняў эпохі сярэдневякоўя.
**г. п. Гарадзішча.** Гарадзішча з умацаваннямі эпохі ранняга сярэдневякоўя.
**в. Старая Мыш.** Земляное ўмацаванне замка XVI ст., узведзенага Я. Хадкевічам.

### ДРАГІЧЫНСКІ РАЁН

**в. Жабер.** Рэшткі бастыённых умацаванняў замка князя Вішнявецкага канца XVI ст.
**в. Крыўляны.** Бастыённыя ўмацаванні замка князя Чартарыйскага XVII ст.

### КАМЯНЕЦКІ РАЁН

**г. Высокае.** Рэшткі ўмацаванняў замка Сапегаў XVII ст.
**г. п. Камянец.** Унікальны помнік ваеннага дойлідства XIII ст.— мураваная вежа.

### ЛЯХАВІЦКІ РАЁН

**в. Гарадзішча.** Рэшткі сярэдневяковага гарадзішча з магутнымі валамі.
**г. Ляхавічы.** Рэшткі замчышча канца XVI ст.

### ПРУЖАНСКІ РАЁН

**в. Лыскава.** Земляныя ўмацаванні замка XIV—XV ст.

### СТОЛІНСКІ РАЁН

**Давыд-Гарадок.** Замкавая гара, умацаваная валам
**в. Юнішчы.** Два земляныя ўмацаванні эпохі сярэдневякоўя.

## ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### АРШАНСКІ РАЁН

**г. п. Копысь.** Сярэдневяковае ўмацаванне «Пятроўскі вал» на беразе Дняпра.
**г. Орша.** Разбуранае замчышча старажытнай Оршы.
**в. Смаляны.** Руіны мураванага замка князя Сангушкі пачатку XVII ст.

### БЕШАНКОВІЦКІ РАЁН

**г. п. Ула.** У сутоцы Заходняй Дзвіны і Улы рэшткі замчышча XVI ст.

### БРАСЛАЎСКІ РАЁН

**г. Браслаў.** Замчышча старажытнага Брачыслава.
**воз. Дрысвяты.** На востраве сляды земляных умацаванняў замка XVI ст.
**в. Іказнь.** Руіны мураванага замка князя Я. Сапегі, закладзенага ў 1504 г.

### ВЕРХНЕДЗВІНСКІ РАЁН

**в. Асеткі.** Каля вёскі гарадзішча чатырохвугольнай формы з валамі і равамі.

### ВІЦЕБСКІ РАЁН

**г. Віцебск.** Рэшткі замчышча старажытнага Віцебска.
**г. Сураж.** Сляды ўмацаванняў замка XVI ст.

### ГАРАДОЦКІ РАЁН

**г. п. Езярышча.** Рэшткі ўмацаванняў замка XVI ст.

### ДОКШЫЦКІ РАЁН

**в. Яблонцы.** На поўдзень ад вёскі насып, абведзены валамі.

### ЛЕПЕЛЬСКІ РАЁН

**в. Стары Лепель.** На востраве Лепельскага возера рэшткі сярэдневяковага замчышча.
**в. Суша.** На востраве возера Суша замчышча XVI ст.

### ЛЁЗНЕНСКІ РАЁН

**в. Бабінавічы.** У лесе каля вёскі земляныя ўмацаванні «заштатнага гарадка Бабінавічы» канца XVIII ст.

### МІЁРСКІ РАЁН

**г. п. Дзісна.** На востраве Заходняй Дзвіны валы сярэдневяковага замка Дзісна (XVI ст.).

### ПАСТАЎСКІ РАЁН

**в. Камаі.** Храм абарончага тыпу, 1603—1606 гг.

### ПОЛАЦКІ РАЁН

**в. Гомель.** Над р. Дзіва-Тураўлянкай на пагорку замчышча сярэдневяковага замка Гомель (XVI ст.).
**г. Полацк.** Рэшткі ўмацаванняў Верхняга замка. Земляны вал Ніжняга замка XVI ст.
**в. Туроўля.** На левым беразе Заходняй Дзвіны у сутоцы з р. Тураўлянкай сляды замка XVI ст.

### РАСОНСКІ РАЁН

**воз. Няшчэрда.** На мысе сярэдневяковае замчышча XVI ст.

**уроч. Сокал.** У сутоцы Нішчы і Дрысы на градзе натуральнага паходжання сляды сярэдневяковых умацаванняў XVI ст.

### ТАЛАЧЫНСКІ РАЁН

**в. Друцк.** Земляныя ўмацаванні сярэдневяковага Друцка.

### УШАЦКІ РАЁН

**в. Цётча.** На левым беразе аднайменнай рэчкі на пагорку сляды замка Красны XVI ст.

### ЧАШНІЦКІ РАЁН

**в. Лукамль.** Замчышча IX—XIII ст.

**г. п. Чашнікі.** На правым беразе р. Улы замчышча XVI ст.

### ШУМІЛІНСКІ РАЁН

**в. Казьяны.** На беразе р. Обалі земляныя ўмацаванні замка Казьян, узведзенага ў 1567 г.

## ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**г. Гомель.** Замчышча XII—XVII ст.

### ЖЫТКАВІЦКІ РАЁН

**г. п. Тураў.** Замчышча X—XVII ст.

### ЖЛОБІНСКІ РАЁН

**г. п. Стрэшын.** Сярэдневяковае замчышча.

### МАЗЫРСКІ РАЁН

**г. Мазыр.** Рэшткі замчышча XII—XVII ст.

### РЭЧЫЦКІ РАЁН

**г. Рэчыца.** Сярэдневяковае замчышча на беразе Дняпра.

### РАГАЧОЎСКІ РАЁН

**в. Збораў.** Замчышча XII—XIII ст.

**в. Лучын.** Замчышча, умацаванае 4 валамі.

**г. Рагачоў.** На замкавай гары рэшткі мураванага замка каралевы Боны (XVI ст.).

### ЧАЧЭРСКІ РАЁН

**г. Чачэрск.** Замчышча X—XVII ст.

## ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### ВАЎКАВЫСКІ РАЁН

**г. Ваўкавыск.** Археалагічны комплекс старажытнага горада X—XIV ст.

**в. Мсцібава.** Замчышча XII—XVI ст. з магутным земляным валам.

### ВОРАНАЎСКІ РАЁН

**в. Гайцюнішкі.** Умацаваны дом пачатку XVII ст.

**в. Гарадзішча.** Замчышча XIV—XVII ст.

### ГРОДЗЕНСКІ РАЁН

**г. Гродна.** Руіны мураванага замка XIV—XVI ст.

**в. Адэльск.** Сярэдневяковае замчышча

### ДЗЯТЛАЎСКІ РАЁН

**г. п. Дзятлава.** Сляды замка канца XV — пачатку XVI ст., пабудаванага князем Астрожскім.

### ЗЭЛЬВЕНСКІ РАЁН

**в. Сынковічы.** Інкастэляваны храм пачатку XVI ст.

### ІЎЕЎСКІ РАЁН

**в. Геранёны.** Руіны замка князя В. Гаштольда канца XV — пачатку XVI ст.

**в. Трабы.** Замчышча XIV—XVI ст.

### КАРЭЛІЦКІ РАЁН

**в. Асташын.** Руіны абарончага храма другой паловы XVI ст.

**в. Беразавец.** Руіны сярэдневяковага замка князя Кміты на гарадзішчы Замкавая гара.

**г. п. Мір.** Мураваны замак князя Ю. Іллініча пачатку XVI ст.

### ЛІДСКІ РАЁН

**г. Ліда.** Руіны мураванага замка пачатку XIV ст.

### НАВАГРУДСКІ РАЁН

**г. Навагрудак.** Руіны мураванага замка канца XIII—XVII ст., земляныя ўмацаванні пачатку XI—XVI ст.

### АШМЯНСКІ РАЁН

**в. Гальшаны.** Руіны мураванага замка князя П. Сапегі пачатку XVII ст. і гарадзішча XIII—XVI ст.

### СЛОНІМСКІ РАЁН

**в. Збочна.** Земляныя ўмацаванні XII—XIII ст.

**в. Асабнякі.** Замчышча з земляным валам XIII—XIV ст.

**г. Слонім.** Сярэдневяковае замчышча. Касцёл бернардынаў першай паловы XVII ст., прыстасаваны да абароны.

### СМАРГОНСКІ РАЁН

**в. Крэва.** Руіны мураванага замка пачатку XIV ст.

**г. Смаргонь.** Храм абарончага тыпу XVI ст.

### ШЧУЧЫНСКІ РАЁН

**в. Касцянева.** Замчышча XIII ст.

**в. Кульбачына.** Замчышча XIII ст.

**в. Турыйск.** Сляды замчышча XIII ст.

## МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### БАРЫСАЎСКІ РАЁН

**г. Барысаў.** Замчышча XIV—XVIII ст.
**в. Стара-Барысаў.** Сляды замчышча XII—XIII ст.

### ДЗЯРЖЫНСКІ РАЁН

**г. Дзяржынск (Койданава).** Сляды замка князя Радзівіла XVI—XVIII ст. Руіны храма абарончага тыпу першай паловы XVI ст.

### КЛЕЦКІ РАЁН

**г. Клецк.** Руіны сярэдневяковага замка.

### КАПЫЛЬСКІ РАЁН

**г. п. Капыль.** Рэшткі ўмацаванняў замка.

### ЛАГОЙСКІ РАЁН

**г. п. Лагойск.** Замкавая гара з умацаваннямі позняга сярэдневякоўя.
**в. Панізоўе.** Рэшткі ўмацаванняў замка XII—XIII ст.

### МІНСКІ РАЁН

**г. п. Заслаўе.** Бастыённыя ўмацаванні сярэдневяковага замка, на пляцоўцы — інкастэляваны храм.
**г. Мінск.** Сляды замчышча XII—XVII ст. на правым беразе р. Свіслачы.
**в. Сёмкаў Гарадок.** Рэшткі замчышча XIII—XV ст.

### МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН

**в. Гарадок.** Замчышча XIV—XVII ст. з магутным земляным валам.
**г. Маладзечна.** Умацаванні замка князёў Заслаўскіх, Збаражскіх і Агінскіх пачатку XV—XVII ст.
**г. п. Радашковічы.** Замчышча. XVI ст.

### МЯДЗЕЛЬСКІ РАЁН

**г. п. Мядзель.** Руіны замка каралевы Боны XVI—XVII ст. на востраве воз. Мястра.
**воз. Мядзель.** На востраве замчышча XII—XIV ст.
**г. п. Свір.** На гарадзішчы сляды замка князёў Свірскіх XIII—XVI ст.

### НЯСВІЖСКІ РАЁН

**г. Нясвіж.** Палацава-замкавы комплекс канца XVI—XVIII ст. Земляныя ўмацаванні горада. Слуцкая брама.

### СЛУЦКІ РАЁН

**в. Грэск.** Замчышча.
**г. Слуцк.** Рэшткі Верхняга і Ніжняга замчышча XII—XVIII ст. Бастыённыя ўмацаванні Новага замка XVII ст.

### СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН

**в. Новы Свержань.** Земляныя ўмацаванні замка князя Чартарыйскага.
**в. Дзераўная.** Храм абарончага тыпу канца XVI ст.

## МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### БЯЛЫНІЦКІ РАЁН

**в. Галоўчын.** Рэшткі замчышча XIV ст.

### БАБРУЙСКІ РАЁН

**в. Бярозавічы.** Сляды замчышча XIII—XVIII ст.

### БЫХАЎСКІ РАЁН

**г. Быхаў.** Рэшткі ўмацаванняў позняга сярэдневякоўя.

### ГЛУСКІ РАЁН

**г. Глуск.** Бастыённыя ўмацаванні замка XVI—XVIII ст.

### ГОРАЦКІ РАЁН

**в. Горы.** Земляныя ўмацаванні позняга сярэдневякоўя.

### КРЫЧАЎСКІ РАЁН

**г. Крычаў.** Земляныя ўмацаванні сярэдневяковага Крычава XIV—XVII ст.

### МАГІЛЁЎСКІ РАЁН

**г. Магілёў.** Замчышча XIII—XVIII ст. на тэрыторыі гарадскога парку.

### МСЦІСЛАЎСКІ РАЁН

**г. Мсціслаў.** Замкавая гара з рэшткамі ўмацаванняў XII—XVII ст.

### АСІПОВІЦКІ РАЁН

**в. Свіслач.** Замчышча XIII—XVII ст.

### СЛАЎГАРАДСКІ РАЁН

**г. Слаўгарад.** Замкавая гара.

### ЧАВУСКІ РАЁН

**в. Радамля.** Рэшткі ўмацаванняў сярэдневяковага горада.

### ШКЛОЎСКІ РАЁН

**в. Старыя Шклоў.** Умацаванні эпохі Вялікага княства Літоўскага.

## ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

АЛТАР — частка храма, аддзеленая іканастасам.
АНФІЛАДА — некалькі сумежных памяшканняў з дзвярыма на адной восі.
АПСІДА — алтарная частка храма, якая выступае за контуры яго плана.
АРКАДА — шэраг аднолькавых арак, якія абапіраюцца на калоны.
АРКАТУРА — шэраг глухіх дэкаратыўных арачак.
АРХІВОЛЬТ — вонкавае прафіляванае абрамленне пралёту аркі.
АТЫК — невысокая дэкаратыўная сцяна над карнізам будынка.
БАБІНЕЦ — прыбудова да галоўнага ўваходу ў храм.
БАРОКА — стыль мастацтва ў Еўропе ў XVII—XVIII ст.
ГІРКА — архітэктурная дэталь з цэглы ці каменя ў выглядзе перавернутай пірамідкі, служыць апорай для дэкаратыўных арак.
ГАРАДНІ — зрубы, з якіх утвараюцца сцены ў драўляным замку.
ГОТЫКА — мастацкі стыль, пашыраны ў Еўропе ў XII—XV ст.
ДАНЖОН — галоўная, асобна размешчаная вартавая вежа ў сярэдневяковым замку.
КОНТРФОРС — вертыкальны выступ сцяны, які павялічвае яе ўстойлівасць.
КАСТЭЛЬ — сярэдневяковы ўмацаваны замак.
ЛАПАТКА — плоскі вертыкальны выступ у сцяне.
МАШЫКУЛЯ — навясная байніца ў сцяне альбо ў вежы.
НЕФ — падоўжнае памяшканне храма, альбо яго частка, абмежаваная з аднаго ці абодвух бакоў слупамі ці калонамі.
НЕРВЮРА — прафіляванае рабро скляпення, якое выдаецца наперад.
ПАРАПЕТ — невысокая сцяна, якая агароджвае дах будынка.
ПАРТАЛ — архітэктурнае абрамленне дзвярнога праёма.
ПІЛЯСТРА — плоскі вертыкальны выступ на паверхні сцяны ці слупа, апрацаваны па ордэрнай сістэме.
РАМАНСКІ СТЫЛЬ — мастацкі стыль у Еўропе ў X—XIII ст.
РАНДЭЛЬ — першапачатковая форма мураванага бастыёна.
РУСТ — камень з груба абчасанай ці пукатай вонкавай паверхняй. Выкарыстоўваецца для дэкаратыўнай апрацоўкі сцен.
РЫЗАЛІТ — частка будынка, якая выдаецца з агульнага аб'ёму.
РЭНЕСАНС — перыяд у развіцці культуры Еўропы ў XIV—XVI ст.
ФАШЫНА — вязанка галля.
ФОРБУРГ — від бастыёна.
ЦЯГА — вузкі гарызантальны прафіляваны выступ на сцяне збудавання.
ШАНЦ — землянное ўмацаванне.
ЭРКЕР — мураваны выступ у сцяне.
ЭСКАРП — від контрфорса.

## БІБЛІЯГРАФІЯ


Энгельс Ф. Избранные военные произведения. М., 1958.
Абрамаускас С. С. Развитие каменного строительства в Литве в XIII—XVI вв. Каунас, 1965. Автореф. канд. дис.
Воронин Н. Н. Древнее Гродно. МИА, № 41, М., 1954.
Гейденштейн Р. Записки о Московской войне (1578—1582 гг.). Спб., 1889.
Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975 г.
Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии. М., 1954.
Иодковский И. И. Замок в Мире. «Древности», т. 6. М., 1915.
Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне. «Древности», т. 6. М., 1915.
Кацер М. С. Белорусская архитектура. Мн., 1956.
Квитницкая Е. Д. Архитектура Белоруссии XIV—XVIII столетий.— В кн.: «Искусство стран и народов мира», т. I. М., 1962.
Квитницкая Е. Д. Архитектура Белоруссии XIV—XVIII вв.— В кн.: «Всеобщая история архитектуры», т. 6. М., 1968.
Косточкин В. В. Русское оборонное зодчество (конец XIII — начало XVI вв.). М., 1962.
Косточкин В. В. Крепостное зодчество Древней Руси. М., 1972.
Малевская М. В., Шолохова Е. В. Раскопки церковных построек на детинце Новогрудка. «Археологические открытия 1974 года». М., 1975 г.
Митянин А. Я. Замок в Мире. Мн., 1954. Автореф. канд. дис.
Митянин А. Я. Оборонные сооружения XIII—XVII вв. «Строительство и архитектура Белоруссии», вып. I. Мн., 1958.
Раппопорт П. А. Волынские башни. МИА, № 31. М., 1952.
Раппопорт П. А. Военное зодчество западнорусских земель X—XIV вв. МИА, № 140. Л., 1967.
Раппопорт П. А. Архитектурные и археологические заметки. КСИА, вып. 96. Л., 1963.
Ткачев М. А. Исследование памятников оборонного зодчества Белоруссии. «Археологические открытия 1970 г.». М., 1971.
Ткачоў М. А. Лідскі замак. «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Мн., 1971, № 2.
Ткачоў М. А. Новае пра Сафійскі сабор. «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Мн., 1972, № 2.
Чантурыя В. А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1969.
Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, т. I. Мн., 1928.
Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. Мн., 1971.
Aleksandrowicz St. Nowe zróło ikonograficzne do oblężenia Połocka w 1579 r. «Kwartalnik Historii Kulturu Materialnej», W., 1971, № 1.
M. Baliński, T. Lipiński. Starożutna Polska, t. III. Warszawa, 1846.
Gruszecki A. Bastionowe zamki w Małopolsce. Warszawa, 1962.
Gruszecki A. Fortyfikacje zamku w Nieświezu. «Kwartalnik Architektury i urbanistyki», 1965, t. X.
Gürtler R. Robota konserwatorska na górze Zamkowej w Nowogródku. Ochrona zabytków. Wilno, 1930, 31. z. 1—4.
Hryckiewicz A. Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie. «Przegląd Historyczny», 1970, t. LXI, z. 3.
«Lietuvos pilis.». Vilnius, 1971.
Lorentz St. Konserwacja ruin zamków w Wileńszczyznie i Nowogródczyznie. «Ochrona zabytków», 1930, 31, W., z. 1—4.
Tauroginski B. Z dziejów Nieswieża. W., 1937.